# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3 ( 59)** **ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ** **2012 г.**


# *“Лідскаму летапісцу” - 15 гадоў*



***Князь Дамінік Еранім Радзівіл** (1786-1813), нясвіжскі ардынат, буйны лідскі землеўладальнік. На чале сфармаванага за свой кошт палка ўланаў Дамінік Радзівіл у 1812 г. першым увайшоў у вызваленую Вільню. Удзельнічаў у паходзе на Маскву. Памёр у Францыі ад ран, атрыманых у бітве пры Ганаў.*

*За тое, што Дамінік Радзівіл ваяваў на баку Напалеона І, яго маёнткі былі секвестраваны Расійскай Імперыяй. У Лідскім павеце былі секвестраваны 18 маёнткаў Д. Радзівіла.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3 ( 59 )** **ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ** **2012 г.**


## *У НУМАРЫ:*




**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2060**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2012 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.11.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**


ISSN 2218-1792
9 772218 179007 12003 >






**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Медніцкі замак адноўлены



У літоўскіх Медніках (Мядзінінкай) на беларуска-літоўскай мяжы адкрылі пасля рэканструкцыі Медніцкі замак. Гэта адзін з трох замкаў-кастэляў з так званай “абарончай лініі Гедзіміна”, у якую акрамя Меднікаў уваходзяць Крэва і Ліда.

Ад замка да Беларусі - толькі 2 кіламетры, і гэта адзінае, што аддзяляе яго ад беларускай гісторыі. Дарэчы ў 1939 годзе Меднікі ўвайшлі ў склад БССР, але праз 40 дзён былі перададзены Летуве.

Пасля Другой Сусветнай вайны да Меднікаў дабраліся археолагі, якія, трохі пакапаўшыся ў ягонай глебе, пакінулі руіны дажываць да часоў незалежнасці Літвы. І толькі два гады таму ў замку пачаліся працы па аднаўленні сярэднявечнай рэліквіі. Без грошай Еўрапейскага саюзу не абышлося.

Уласна, толькі на брусельскія $3 млн. і быў адноўлены замак - літоўскі ўрад не знайшоў на рэканструкцыю ні цэнта.

Зрэшты, і літоўская версія сярэднявечнага замка не надта адпавядае канонам тых часоў. Аказваецца, і "там" не ўсё добра з захаваннем спадчыны! Хаця пэўны ўзровень прыстойнасці будаўнікам усё ж удалося захаваць: бетонныя прыступкі старана схаваныя пад сур'ёзным узроўнем тынкоўкі, а ўмацаваныя ў сцены замкавай вежы разеткі і ліхтары выглядаюць даволі натуральна. Асабліва калі







ўлічыць склад музейнай экспазіцыі, што заняла чатыры першыя паверхі вежы.

Калі першы паверх даволі натуральна адведзены для экспазіцыі сярэднявечных гарматаў і глінянай керамікі, да якой далучаная чамусьці выстава слядоў жыўнасці на цаглінах, то вышэйшыя паверхі занятыя, падаецца, тым, што ўдаалося знайсці па ўсёй Літве.

Тут і зброя ўсіх сярэднявечных часоў і навачасся, і крышталь, і нават пудзілы жывёлаў з калекцыі знатнага літоўскага паляўнічага і першага пасля вяртання незалежнасці прэзідэнта краіны Бразаўскаса. Адпаведныя інструкцыі да экспанатаў старанна тлумачаць, што ў часы, да якіх адносіцца замак, паляванне было натуральнай часткаю жыцця шляхты. Але ўсё роўна застаецца адчуванне, што экспазіцыю вежы літоўскія музейныя супрацоўнікі запаўнялі з апошніх сілаў: нітка да ніткі, як той казаў.

З апошняга паверха можна трапіць на дах, дзе ёсць шанец трохі пафантазіраваць на тэмы тагачасных бітваў. Вядома, што калі ў канцы 14 ст. крыжакі дабраліся да Меднікаў, у час асады яны зладзілі пад ягонымі сценамі паказальны рыцарскі турнір. Карціна, на якой можна пабачыць замак тых часоў, у кампаніі іншых выяваў літоўскіх і беларускіх замкаў вісіць на першым паверсе вежы.

Замест брамы - проста пралом у сцяне і білетная каса на ўваходзе.



Такім чынам рэканструкцыя першага з трох “замкаў Гедзіміна” завершана. Заваршэнне рэканструкцыі Лідскага замка спланавана на 2014 год. Усё гэта дае рэальныя шанцы для таго, што і Крэўскі замак не застанецца ў крушнях.











***Выявы Медніцкага замка за 19-е - пачатак 20-га стст.***

Шкода толькі, што ніякі Еўрасаюз не збіраецца даваць Беларусі ні цэнта, ні рубля, і ўсё давядзецца рабіць за свой кошт.

***Паводле Алеся Герасіменкі,***
*Generation.by.*

# Кроніка Ліды



13 ліпеня каля адміністрацыйнага будынка ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод" установлена скульптура ліцейшчыка.
Аўтар Вадзім Вераб'ёў.



У ліпені лідзянка **Наталля Міхайлаўна Сцяпура** ўзнагароджана "Ордэнам маці".




У жніўні выйшла новая кніга вершаў **Ірыны Багдановіч** "Душа лістападу".



10 жніўня на алімпіядзе ў Лондане лідзянка **Наталля Карэйва** ў фінале бегу на 1500 метраў заняла 7-е месца.



У жніўні алімп маштабнага фэсту "Культурнае лета ў Браціславе" з трыумфам пакарыў аркестр беларускіх народных інструментаў Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа.
Аркестр узнагароджаны дыпломам першай ступені "Залаты калектыў" і спецыяльным прызам за лепшыя канцэртныя касцюмы. Сярод шматлікіх удзельнікаў з Чэхіі, Славакіі, Аўстраліі, Венгрыі, Аўстрыі, Латвіі, Польшчы, Францыі, Бельгіі лідзяне былі адзінымі прадстаўнікамі ад СНД.



1 верасня ў Лідзе адкрыты Лідскі філіял Гарадзенскай дзяржаўнай вучэльні алімпійскага рэзерву.



23 верасня прайшлі выбары ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.



Па Іўеўскай выбарчай акрузе № 53, у якую ўваходзіла частка Лідскага раёна, абрана **Кучынская Наталля Генадзеўна**, начальнік аддзела адукацыі Ашмянскага райвыканкаму.



Па Лідскай выбарчай акрузе № 54 абраны **Гушча Валерый Іванавіч**, лекар-хірург, загадчык хірургічнага аддзялення УАЗ "Лідская цэнтральная раённая бальніца".



Па Дзятлаўскай выбарчай акрузе № 55, у якую ўваходзіла частка Лідскага раёна, абраны **Ермантовіч Леанід Аляксеевіч**, начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы Гарадзенскага аблвыканкаму.



Членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь абрана **Пазняк Ніна Міхайлаўна**, галоўны рэдактар камунальнага інфармацыйна-рэкламнага ўнітарнага прадпрыемства "Лідскае тэлерадыёаб'яднанне.



26 і 27 верасня на базе дзіцяча-юнацкай конна-спартовай школы ў аграгарадку Дворышча здымаўся мастацкі фільм "Сын бацькі народаў".

# Лідскія юбіляры 2012 года Ігнат Дамейка

## 210 гадоў з дня нараджэння

**Ігнат Гіпалітавіч Дамейка** (польск. Ignacy Domeyko; ісп. Ignacio Domeyko; 31 ліпеня 1802, Мядзведка - 23 студзеня 1889, Сант'яга, Чылі) - беларускі і чылійскі навуковец-даследнік, геолаг, мінеролаг.

Займае важнае месца ў гісторыі навукі і культуры Беларусі, Чылі, Польшчы і Летувы. Нацыянальны герой Чылі.

### Раннія гады

Нарадзіўся ў маёнтку Мядзведка Наваградскага павету Менскай губерні (цяпер у Карэліцкім раёне за 15 км на захад ад Міра). Бацька - Гіпаліт Дамейка - быў старшынём Наваградскага земскага суда. Дзяцінства Ігната прайшло ў беларускай вёсцы.

З 1812 года разам са старэйшым братам Адамам Дамейкам вучыўся ў кляштарнай школе ордэна піяраў у Шчучыне. Па сканчэнні школы ў 1816 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта.



*Мядзведка ў XIX ст.*



*Памятны валун у Мядзведцы*

14-гадовы І. Дамейка быў адным з самых юных студэнтаў універсітэта. У чэрвені 1817 года атрымаў ступень кандыдата філасофіі. Вучобу скончыў у першай палове 1820 года. У далейшым, у 1822 годзе, наведваў лекцыі астранома Пятра Славінскага, у 1823 годзе слухаў лекцыі філосафа Юзафа Галухоўскага і гісторыка Яўхіма Лялевеля. У чэрвені 1822 года яму была прысуджана ступень магістра філасофіі.

### Таварыства філаматаў

З 1820 года ўдзельнічаў у Таварыстве філаматаў разам з Янам Чачотам, Адамам Міцкевічам. Меў канспіратыўнае імя Жэгота (пад гэтым імем яго ўвасобіў у сваёй паэме "Дзяды" А. Міцкевіч). Браў удзел у дзейнасці даччыных арганізацыяў



*Мемарыяльная дошка І. Дамейку ў Вільні*




***Бюст Ігната Дамейкі ў Мядзведцы.*** *Здымак А. Колышкі.*

філаматаў - таварыства філадэльфістаў, прамяністых, загадваў бібліятэкай філаматаў.

У лістападзе 1823 года арыштава-



***Помнік Гіпаліту Дамейку, бацьку Ігната Дамейкі ў Міры. Аўтар лідскі скульптар Рычард Груша.***
*Здымак А. Колышкі.*

ны. Разам з большасцю арыштаваных яго заключылі ў сценах бызылянскага манастыра Святой Тройцы ў Вільні. Дзякуючы намаганням сваякоў у студзені альбо лютым 1824 года Ігнат Дамейка быў вызвалены. Вырак суду, замацаваны імператарам 14 жніўня і абвешчаны 16 верасня 1824 года, быў, у параўнанні з выракамі, напрыклад, Тамаша Зана альбо Яна Чачота, мяккім: судовае рашэнне прадпісвала жыць пад наглядам паліцыі ў сямейным маёнтку без права куды-небудзь выязджаць альбо займаць дзяржаўныя пасады.

І. Дамейка жыў у в. Заполле на Лідчыне, а часамі - у в. Жыбуртоўшчына паблізу Дзятлава. Пераклаў на польскую мову песні Асіяна і Каран (разам са сватаром Дыянізам Хлявінскім). Распачаў доследы па вырошчванні жывёлы на навуковай аснове, укараняў сельскагаспадарчыя навінкі, будаваў млыны, вінакурні, тартакі. Аднак, жыццё абшарніка не вабіла. Пазней Міцкевіч у паэме "Дзяды" паказаў Дамейку ў вобразе агранома Жэготы (так называлі яго сябры па ўніверсітэце).



***Дом Дамейкаў у Жыбуртоўшчыне каля Дзятлава***

У 1829 годзе паліцэйскі нагляд быў з яго зняты. Гэта дазволіла браць удзел у легальнай грамадскай дзейнасці. У 1830 годзе быў абраны ў гарадзенскі соймік.

### Паўстанне, эміграцыя

У тым жа 1830 годзе ўпершыню выехаў з Літвы (Беларусі). Наведаў Варшаву, дзе сустрэў Яўхіма Лялевеля. Калі ён вярнуўся на радзіму, пачалося паўстанне 1830-1831 гадоў у Польшчы і Беларусі. Дамейка ўзяў у ім удзел, ваяваў ў частцы Д.А. Хлапоўскага, адзін час з Эміліяй Плятэр і яе стрыечнымі братамі Ц. і В. Плятэрамі. Пасля прайгранай бітвы пад Шаўлямі ўлетку 1831 году разам з іншымі паўстанцамі адступіў у Прусію, дзе быў інтэрнаваны.

У канцы таго ж, 1831 года, атрымаў дазвол на выезд і ў пачатку 1832 году выехаў у Дрэздан. У Дрэздане І. Дамейка зноў сустрэўся з Адамам Міцкевічам. Выязджаў у Саксонію, Швейцарыю, наведаў Фрайбург, дзе пазнаёміўся з Горнай акадэміяй.

### Францыя

У жніўні 1832 года разам з А. Міцкевічам і іншымі эмігрантамі перабраўся ў Парыж, які на той час быў цэнтрам жыцця эмігрантаў з тэрыторыі Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Удзельнічаў у жыцці розных эмігранцкіх аб'яднанняў. Дапамагаў Міцкевічу перапісваць паэму "Пан Тадэвуш". Наведваў лекцыі ў вышэйшай школе горнай справы Сарбонскага ўніверсітэта і ў Французскай калегіі, займаўся ў Батанічным садзе, удзельнічаў у геалагічных экскурсіях.

У 1834 годзе паступіў у Горную школу (франц. Scole des Mines). У 1837 годзе склаў геалагічную, гідраграфічную і гаспадарчую мапы былой Рэчы Паспалітай і напісаў да яе вялікі каментар (мапа і каментар не былі выдадзеныя, матэрыялы выкарыстоўваліся ў іншых выданнях). У 1837 годзе атрымаў дыплом горнага інжынера.

### Чылі

У 1837 годзе прыняў прапанову чылійскага ўраду і падпісаў кантракт на пасаду выкладчыка горнай школы Ля Сярэна ў г. Какімба (за тры месяцы вывучыў іспанскую мову). У 1838 годзе атрымаў званне прафесара. У г. Какімба Дамейка выкладаў да 1846 года (цяпер тамтэйшы ўніверсітэт носіць яго імя).

Праводзіў разнастайныя даследаванні. Камплектаваў мінералагічныя калекцыі, заснаваў фізічную лябараторыю, навуковую бібліятэку, заалагічную калекцыю. У 1845 годзе выдаў кнігу на іспанскай мове з апісаннем побыту, культуры, мовы індзейцаў араўка-




***Бюст І. Дамейкі перад галоўным корпусам Чылійскага ўніверсітэта***



***Надмагілле І. Дамейку на Цэнтральных могілках у Сант'яга***



***Мінерал "дамейкіт"***

наў, у далейшым перакладзеную на некалькі моваў.

По заканчэнні кантракта пераехаў ў Сант'яга. У 1847 годзе атрымаў кафедру хіміі ў Чылійскім універсітэце (ісп. Universidad de Chile) (адрэдагаваў праект рэформаў універсітэта і школаў). У снежні 1848 года атрымаў чылійскае грамадзянства, улетку 1850 года пабраўся шлюбам з чылійкай. У 1852 годзе быў прызначаны кіраўніком дэлегатуры па справах вышэйшай школы і з таго часу пачаў актыўна займацца арганізацыяй адукацыі і навуковых установаў Чылі.

У 1867 годзе быў абраны рэктарам Чылійскага ўнівэрсітэта і пераабіраўся чатыры разы. Да 1883 года быў рэктарам універсітэта і ад рэктарскай пасады адмовіўся ў знак пратэсту супраць захопніцкай вайны Чылі з суседняй Перу.

У заснаванай з яго ініцыятывы Горнай школе былі падрыхтаваныя чылійскія нацыянальныя кадры выкладчыкаў горнай справы, геолагаў, мінеролагаў.

Арганізаваў метэаралагічную службу ў Сант'яга-дэ-Чылі.

Працягваў займацца мінералагічнымі даследаваннямі. Адзін з першых даследнікаў Атакамы - самай сухой пустыні свету. Вывучаў знойдзены ў Атакаме метэарыт, даследаваў абарыгенаў Паўднёвай Амерыкі. Арганізаваў вывучэньне мінералогіі і геалогіі Андаў. У гарах адкрыў паклады невядомага навуцы альгамату срэбра - аркерат, арганізаваў золатаздабычу і здабычу салетры. Яго вучань Ніколас Нарньё знайшоў багатую срэбную жылу, якую назваў імем свайго настаўніка - "Міна дэ Дамейка".

Навуковыя працы, якіх налічваецца каля 130, пісаў пераважна па-французску і іспанску. Некалькімі выданнямі выйшаў яго падручнік і разам з тым навуковая праца Elementos de mineralojia' (1854, 1860, 1879), з некалькімі дадаткамі.

Падтрымліваў сувязі з універсітэтамі Варшавы і Кракава, пасылаючы туды свае працы і іншыя выданні, якія выходзілі ў Чылі. Клапаціўся пра стварэнне ў Кракаве мінералагічнага музея. Стаў сябрам многіх еўрапейскіх навуковых таварыстваў.

Ігнат Дамейка ўвёў у Чылі метрычную сістэму мераў і вагаў. Займаўся будаўніцтвам шахтаў і капальняў па здабычы медзі, срэбра, золата. Стварыў падручнікі па хіміі, мінералогіі (на іспанскай ды французскай мовах).

**Познія гады, прыезд у Беларусь**

У 1884 годзе Дамейка накіраваўся ў Еўропу. Улетку разам з сынамі прыбыў у Бардо. У Парыжы сустрэўся з сябрамі юнацтва Ўладзіславам Ласковічам і Язэпам Багданам Залескім, наведаў сям'ю Ўладзіслава Міцкевіча, сына знакамітага паэта. У Кракаве быў з энтузіязмам прыняты навуковай грамадскасцю. Пабываў у Варшаве і Вільні. Наведаў Мядзведку, Мір, Наваградак, Крашын, пасадзіў у Крашыне дубок.



***Медаль у гонар І. Дамейкі, выбіты ў Чылі ў 1885 г.***

З сабою Дамейка таксама вёз вялікую мінералагічную калекцыю - падарунак некальким еўрапейскім універсітэтам.

Увосень вярнуўся ў Парыж. У 1885 годзе спыняўся ў Рыме (атрымаў аўдыенцыю ў Папы Рымскага Леана XIII) і Неапалі, затым зноў наведаў Кракаў, адкуль з Пятром Сямёненкам накіраваўся ў паломніцкае падарожжа па Святой зямлі. Вярнуўся ў Парыж, затым зноў кароткачасова вярнуўся на радзіму, у Жыбуртоўшчыну, і правёў там два з лішнім гады, ненадоўга зрэдку выязджаючы.

У красавіку 1887 года Кракаўскі Ягелонскі ўніверсітэт прысвоіў Дамейку ступень ганаровага доктара медыцыны.

Улетку 1888 года накіраваўся ў Чылі. Па дарозе цяжка захварэў. Памёр 23 студзеня 1889 года ў Сант'яга. Быў пахаваны на сродкі чылійскага ўраду. Дзень яго пахавання быў абвешчаны ў Чылі днём нацыянальнай жалобы, а сам ён быў абвешчаны нацыянальным героем.

**Ушанаванне памяці**

Імя Ігната Дамейкі носіць вулканічны ланцуг гораў у Андах (*Cordillera Domeyko*); мінерал *дамейкіт* (*domeykite, Cu3As*), выяўлены самім даследнікам; фіялкавая кветка (*віёла дамейкана, Viola domeykana*) - новы від адкрыты на поўначы Чылі; малая планета 2784 *Domeyko*, адкрытая чылійскім астраномам Карлам Торэсам ў 1975 годзе, *Ammonites Domeykanus Dufr* - аманіт Дамейкі - від аманіту, адкрыты Дамейкам у фармацыі юрскага перыяду ў ваколіцы Chanarcillo. *Andiela Domeykoi* - новы від каўчуканосу. *Azylea Domeyki* - азалія Дамейкі - гатунак азаліі выгадаваны варшаўскім садоўнікам у 1845 г. *Trigonia Domeykoana* - від слімака. Nautilus Domeykus d'Orb - від акамянелых малюскаў, адкрыты Дамейкам у 1841 г. Імя Дамейкі нададзена выкапнёваму дыназаўру - *дамейказаўр.*

*Puerto Domeyko* - порт Дамейкі на паўднёва-заходнім беразе возера Llanquihue ў Чылі. *Pueblo Domeyko* ці *Localidad Domeyko* ці *Domeyko* - мястэчка *Дамейка* на мяжы III і IV рэгіёнаў Чылі. *Lugarejo Domeyko* - пасёлак каля порта Дамейка.

У Сант'яга стаіць помнік "Грандэ Эдукатору" ("Вялікаму Асветніку").

У яго гонар названыя ўніверсітэт і нацыянальная бібліятэка ў Сант'яга; горад Пуэрта-Дамейка (непадалёк ад Антафагасты); вуліцы ў Сант'яга-дэ-Чылі, Вальпараіса і яшчэ васьмі гарадах Чылі, а таксама ў Вільні, Менску, Наваградку, Лідзе, Крупаве і Дзітве.



***Мемарыяльная дошка І. Дамейку ў Кракаўскім прадмесці Варшавы***

Імя Дамейкі носіць Польская бібліятэка ў Буэ-нас-Айрэсе (ісп. *Biblioteca Polaca Ignacio Domeyko'*), некалькі ліцэяў, іншых навучальных і навуковых устаноў Чылі.

У 1995 годзе і Лідчына далучылася да ўшанавання Ігната Дамейкі. У пачатку алеі, якая вядзе да Заполля, устаноўлены памятны знак, а ў Крупаўскай школе адкрыты музей Ігната Дамейкі, у якім на гэты час сабрана каля 500 экспанатаў, у тым ліку кніга І. Дамейкі "Мае падарожжы", выдадзеная пры жыцці навукоўца ў Вільні. Да 200-годдзя Ігната Дамейкі ў вёсцы пасаджана алея ў яго гонар, устаноўлены памятны знак з барэльефам асветніка (аўтар Рычард Груша).

У Жыбуртоўшчыне на сядзібным доме Дамейкаў устаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар Ігната Дамейкі і яго прыезду на Радзіму.

На месцы родавай сядзібы Дамейкаў у Мядзведцы ўсталяваны бюст і памятны валун.

У Карэлічах традыцыйна праходзяць чытанні, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Ігната Дамейка. У Міры ўстаноўлены надмагільны помнік па бацьку Ігната Дамейкі Гіпаліту Дамейку (аўтар Рычард



***Экспазіцыя І. Дамейкі ў музеі Крупаўскай СШ Лідскага раёна***



***Памятны знак І. Дамейку ў Заполлі Лідскага раёна, установлены ў 1995 годзе.***
*Здымак А. Колышкі.*







***Манеты Нацыянальнага банка Беларусі да 200-годдзя Ігната Дамейкі, 2002 г.***




***Манеты Нацыянальнага банка Польшчы да 205-годдзя Ігната Дамейкі, 2007 г.***



***Каля памятнага знака Ігнату Дамейку ў Крупаве. Аўтар знака Рычард Груша.*** *Здымак А. Колышкі.*



***Канверт "Белпошты" да 200-годдзя Ігната Дамейкі, 2002 г.***






***Польская і беларуская маркі да 200-годдзя Ігната Дамейкі, 2002 г.***

Груша).

2002 год у звязку з 200-годдзем нараджэння Дамейкі, UNESCO назвала "Годам Ігната Дамейкі". Юбілейныя мерапрыемствы пад патранажам прэзідэнта Польшчы Аляксандра Кваснеўскага і прэзідэнта Чылі Рыкарда Лагаса прайшлі ў Чылі, а таксама ў Беларусі і Летуве. У верасні 2002 года на браме базылянскага манастыра св. Тройцы ў Вільні, дзе Дамейка быў у турэмным зняволенні ў часе следства па справе філаматаў, была адкрытая мемарыяльная табліца з яго барэльефам (скульптар Валдас Бубялявічус, архітэктар Ёнас Анушкявічус).

***Каляндарык, выдадзены ТБМ да 200-годдзя Ігната Дамейкі, 2002 г.***

Нацыянальны Банк Рэспублікі Беларусь ў 2002 годзе выпусціў памятную манету ў гонар Ігната Дамейкі. У яго гонар выпускалася манета ў Польшчы (2007 г.). Паштовы канверт з арыгінальнай маркай выпушчаны ў Беларусі, паштовыя маркі - у Польшчы і Чылі, паштовая картка з арыгінальнай маркай - у Летуве. ТБМ імя Ф. Скарыны выдала каляндарык.

У Беларусі, у тым ліку і ў Лідзе, выдадзены шэраг кніг пра І. Дамейку і з творамі навукоўца.

*Скампанавана з СМІ.*

*Скарыстаны матэрыялы* ***А. Колышкі.***

**Крыніцы:**

1. Вядомыя беларусы. Афіцыйны сайт Рэспублікі Беларусь.

2. Наталля Мазоўка. Дамейка Ігнат Іпалітавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 3: Гімназіі - Кадэнцыя / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э. Э. Жакевіч. - Мн.: БелЭн, 1996. С. 203.

3. Доўнар Т. І. Дамейка Ігнат Іпалітавіч // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік / Гал. рэд. Б. І. Сачанка. - Мн.: БелЭн, 1995. С. 408.

4. Наталля Мазоўка. Дамейка Ігнат Іпалітавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 3: Гімназіі - Кадэнцыя / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э. Э. Жакевіч. - Мн.: БелЭн, 1996. С. 202.

5. Станіслаў Суднік. Да пытання нацыянальнага самавызначэння Ігната Дамейкі // "Лідскі летапісец" № 19.

6. История и культура Беларуси. Памятные монеты, посвященные "200-летию со дня рождения Игната Домейко"(рас.). Сайт Нацыянальнага банка Беларусі. Праверана 26 кастрычніка 2010 г.

**Літаратура:**

1. Ігнат Дамейка - светач сусветнай цывілізацыі. Матэрыялы VI Карэліцкіх чытанняў // Рэдкал.: Л. Уладыкоўская-Канаплянік (гал. рэд.) і інш. - Мн.: "Энцыклапедыкс", 2002. - 136 с., [4] іл. ISBN 985-6599-64-4.

2. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік / Гал. рэд. Б. І. Сачанка. - Мн.: БелЭн, 1995.- 672 с. ISBN 985-11-0016-1

3. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 3: Гімназіі - Кадэнцыя / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э. Э. Жакевіч. - Мн.: БелЭн, 1996. - 527 с.: іл. ISBN 985-11-0041-2.

4. Paz Domeyko.A Life in Exile. Ignacy Domeyko 1802-1889. - Sydney, 2005. ISBN 0-646-44728-9.(анг.)

5. Paz Domeyko Lea-Plaza. Ignacio Domeyko. La Vida de un Emigrante. - Santiago, 2002. Random House Mondadori (Editorial Sudamericana). ISBN 956-262-161-8.(гішп.)

6. Ignotas Domeika Lietuvai, Prancuzijai, Cilei. 1802-1889. Ignacy Domeyko for Lithuania, France, Chile. Ignacy Domeyko Lituanie, France, Chili. - Vilnius: Vilniaus universitetas, Lietuvos istorijos institutas, Lietuvos nacionalinis muziejus, 2002. ISBN 9955-415-20-7. (лет.) (анг.) (фр.)

7. Garbowska J., Jakubowski K. Ignacy Domeyko: (1802-1889). - Warszawa - Lida: Towarzystwo Kultury Polskiej Ziemi Lidzkiej, 1995. ISBN 83-901353-6-1. (пол.)

8. Ignacy Domeyko. Moje podroze: pamiatniki wygnanca. - Wroclaw: Ossolineum, 1962.(пол.)

9. Koska M. Ignacy Domeyko. - Warszawa: DiG, 1998. ISBN 83-7181-062-8.(пол.)

10. Ryn Z. J. Ignacy Domeyko - obywatel swiata. - Krakow: Jagiellonian University Press, 2002. ISBN 83-233-1552-3. review, Polish language. (пол.)

11. Wojcik Z. Ignacy Domeyko: Litwa, Francja, Chile. - Wroclaw: Polskie Towarzystwo Ludoznawcze, 1995. ISBN 83-904914-2-7. (пол.)

12. Ryn Z. J. Ignacio Domeyko - ciudadano de dos patrias. - Antofagasta: Universidad Catolica del Norte, 1994. (парт.)

# Барыс Адамавіч Булат

## *100 гадоў з дня нараджэння*

Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Гарадзеншчыне, камандзір Ленінскай партызанскай брыгады, Герой Савецкага Саюза, ганаровы грамадзянін горада Ліды, Барыс Адамавіч Булат нарадзіўся 27 ліпеня 1912 г. у г. Тула. Працаваў на заводах рабочым. У 1932 г. быў прызваны ў Чырвоную Армію. У тыя трывожныя часы, калі фашысты захапілі ў Германіі ўладу і ўзнікла пагроза вайны, Б.А. Булат вырашыў звязаць свой лёс з войскам, каб у любую мінуту быць гатовым абараняць Радзіму.

У 1936 г. ён скончыў 1-ю Савецкую аб'яднаную вайсковую школу імя ВЦВК і стаў кадравым афіцэрам.

Вялікая Айчынная вайна застала Б.А. Булата на заходняй граніцы. Ён займаў пасаду памочніка начальніка аператыўнага аддзела штаба 31-й танкавай дывізіі. З першай гадзіны вайны гэтая дывізія ўступіла ў бой з ворагам, аднак хутка вымушана была адступіць. 27 чэрвеня капітан Булат быў цяжка паранены.

З групай байцоў ён дабраўся да бальніцы ў в. Дзярэчын Зэльвенскага раёна, дзе яму ампутавалі руку. Калі немцы захапілі Дзярэчын, яны вывезлі раненых у лагер ваеннапалонных у Слонім, а потым у Баранавічы. Адсюль палонных адпраўлялі на захад. 12 верасня 1941 г. Б.А. Булату ўдалося ўцячы з эшалона. З групай таварышаў ён пачаў прабірацца ў Дзярэчын, дзе паспеў пазнаёміцца з добрымі, патрыятычна настроенымі людзьмі.

Хутка ён знаходзіць прытулак у селяніна в. Бердавічы, былога члена КПЗБ Міхаіла Мікалаевіча Утліка. Булат разам з гаспадаром усю зіму рыхтаваліся да партызанскай барацьбы. Яны збіралі зброю і боепрыпасы, устанавілі сувязь з другімі байцамі і афіцэрамі Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне, наладзілі разведку ў населеных пунктах, дзе былі варожыя залогі.

У канцы красавіка 1942 г. Б.А. Булат з невялікай групай байцоў пачаў актыўныя дзеянні. Яны напалі на па мяшканне гміны ў в. Сянькоўшчына, забілі трох паліцэйскіх, узялі ў палон начальніка паліцэйскага ўчастка, захапілі 13 вінтовак, шмат патронаў. Так узнікла партызанская група, у якой было 27 чалавек. Камандзірам выбралі Б.А. Булата. Аб першапачатковых дзеяннях гэтай групы даюць ўяўленне кароткія запісы ў дзённіку Б.А. Булата за 1942 год.

*"13 траўня. Атрад папоўніўся яшчэ пяццю байцамі.*

*20 траўня. Разбілі варожую залогу ў мястэчку Галынка. Знішчылі дакументы, захапілі 12 вінтовак, радыёпрыёмнік, тры ровары, пячаткі, штампы.*

*1 чэрвеня. Каля Азярніцы разабралі рэйкі, рух цягнікоў затрымаўся на суткі. У той жа дзень правялі растлумачальную работу ў вёсцы Голі.*

*20 чэрвеня. У вёсцы Лыскі ў трохгадзінным баі забілі 30 фашыстаў, узялі адну аўтамашыну, дзве знішчылі..."*



Пасля гэтага група Б.А. Булата вымушана была перайсці на правы бераг Шчары. Размясцілі свой лагер у Дубароўскім лесе. Тут да іх далучыліся групы У. К. Лябецкага, П. І. Булака, В. І. Пішчуліна, Г. Караля. На агульным сходзе прынялі пастанову ўтварыць аб'яднаны партызанскі атрад, камандзірам якога выбралі Б.А. Булата.

Аб'яднанне партызанскіх груп, утварэнне адзінага камандавання дазволілі палепшыць агульнае кіраўніцтва, распрацоўку баявых аперацый. Прыкладам можа быць аперацыя па разгроме варожай залогі ў Дзярэчыне, у час якой больш за 50 фашыстаў было забіта, 20 узята ў палон, захоплены багатыя трафеі.

Яшчэ больш узмацніліся ўдары партызан па ворагу, калі ў снежні 1942 г. была створана Ленінская брыгада, камандзірам якой быў назначаны Ф.М. Сінічкін, а начальнікам штаба - Б.А. Булат. Брыгадзе давялося прайсці праз вялікія выпрабаванні ў час першай блакады Ліпічанскай пушчы ў снежні 1942 г.

Умелым, дасведчаным камандзірам і смелым воінам паказаў сябе Б.А. Булат у адной з найбольш вялікіх аперацый брыгады - разгроме варожай залогі ў райцэнтры Жалудок у траўні 1943 г. Тут ён быў паранены ў трэці раз. Ледзь паспеў паправіцца, як яго прызначылі камандзірам Ленінскай партызанскай брыгады.

Восенню 1943 г. Б.А. Булата адклікалі ў абкам партыі і прызначылі начальнікам аператыўнага аддзела абласнога партызанскага цэнтра. Аднак не па душы была Барысу Адамавічу штабная работа, ён іраваўся ў бой. Гэта заўважылі і даручылі яму аб'яднаць у адну брыгаду некалькі разрозненых атрадаў, якія дзейнічалі на заходняй ускраіне Налібоцкай пушчы. Заданне ён паспяхова выканаў.

У пачатку чэрвеня 1944 г. праз абкам партыі Б.А. Булат атрымаў выклік у Маскву. 9 чэрвеня самалёт з партызанскага аэрадрома з Б.А. Булатам і параненымі партызанамі ўзняўся ў неба і перасек лінію фронту. У партызанскі край Барыс Адамавіч больш ужо не вярнуўся. А хутка беларуская зямля была вызвалена ад немцаў.

У ліпені 1944 г. Б.А. Булат вярнуўся ў Менск. 15 жніўня 1944 г. яму было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Пасля вайны Б.А. Булат скончыў Вышэйшую школу харчовай прамысловасці, працаваў на розных пасадах у савецкіх і гаспадарчых установах. Памёр Б.А. Булат 27 сакавіка 1984 г.

***М.Ф. Петрыкевіч.***

# Муса Гайсінавіч Гарэеў

## *90 гадоў з дня нараджэння*

**Муса Гайсінавіч Гарэеў** (09.06.1922 - 17.09. 1987), двойчы Герой Савецкага Саюза, Ганаровы грамадзянін горада Ліды. У Лідзе яго імем названа вуліца.

Нарадзіўся ў вёсцы Ілякшыдзе цяпер Ілішэўскага раёна Башкірыі ў сялянскай сям'і. Башкір. Член ВКП(б)/КПСС з красавіка 1944 года. Скончыў 2 курсы тэхнікума Наркамата шляхоў зносін у 1940 годзе.

У Чырвоную Армію прызваны 15 снежня 1940 года. У 1942 годзе скончыў Энгельскую вайсковую авіяцыйную школу. Пасля заканчэння авіяшколы, з 25 верасня 1942 года - у дзейным войску.

Баявы шлях пачаў сяржантам, простым лётчыкам-штурмавіком. У 1944 годзе стаў камандзірам эскадрыллі. Вайну скончыў маёрам, штурманам палка. Ваяваў у баях пад Сталінградам, у Данбасе, Крыме, Беларусі, Літве, Польшчы, Усходняй Прусіі.

Гвардыі капітан Гарэеў да жніўня 1944 года здзейсніў 164 баявыя вылеты, выявіўшы мужнасць і гераічнасць, за што Ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 23 лютага 1945 года яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля "Залатая Зорка" (№ 6227).

За здзейсненыя да сакавіка 1945 года 207 баявых вылетаў Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 19 красавіка 1945 гады гвардыі маёр Гарэеў Муса Гайсінавіч узнагароджаны другім медалём "Залатая Зорка". У гэты ж дзень паветраны стралок яго экіпажа - гвардыі старшына Кір’янаў Аляксандр Іванавіч быў ганараваны ордэнам Славы 1-й ступені, стаўшы поўным кавалерам гэтай узнагароды.

Усяго за час Вялікай Айчыннай вайны М.Г. Гарэеў здзейсніў каля 250 баявых вылетаў. Удзельнік гістарычнага Параду Перамогі ў Маскве 24 чэрвеня 1945 года.

Пасля заканчэння вайны адважны лётчык-штурмавік камандаваў авіяцыйным палком. У 1951 годзе ён скончыў Вайсковую акадэмію імя М.В. Фрунзе, у 1959 годзе - Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба. Палкоўнік (1956 год). З 1964 года - у запасе. Жыў і працаваў у сталіцы Башкірыі - горадзе Ўфе. Быў старшынём Башкірскага рэспубліканскага камітэта ДТСААФ (1965-1977 гады). Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР 2-4-га скліканняў (1946-1958 гады), дэпутатам Вярхоўнага Савета Башкірскай АССР 7-9 скліканняў. Ганараваны званнем "Ганаровы грамадзянін горада Уфы".

Пахаваны ў Уфе ў Парку Перамогі.

Узнагароджаны ордэнам Леніна (1945), 3 ордэнамі Чырвонага Сцяга (1943, люты 1944, лістапад 1944), ордэнамі Багдана Хмяльніцкага 3-й ступені (1945), Аляксандра Неўскага (1944), 2 ордэнамі Айчыннай вайны 1-й степен (1945, 1985), ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1971), 3 ордэнамі Чырвонай Зоркі (1943, 1955, 1956), медалямі (у тым ліку - медалямі "За адвагу" (1943) і "За баявыя заслугі" (1951)).



Бронзавы бюст двойчы Героя Савецкага Саюза Гарэева М.Г., усталяваны ў 1948 годзе ў яго роднай вёсцы Ілякшыдзе, у 1960 годзе перанесены ў горад Уфу і ўсталяваны на Бульвары Славы. На доме № 4 па вуліцы Худайбердзіна ў горадзе Уфе, дзе жыў М.Г. Гарэеў, усталявана мемарыяльная дошка з барэльефам Героя. Варыянт скульптурнага партрэта Гарэева М.Г., створанага ў 1947 годзе з базальту народным мастаком СССР скульптарам Н.В. Томскім знаходзіцца ў Траццякоўскай галярэі.

*Сачыненні:*

Страницы жизни и подвига. - Уфа. 1985;

Штурмовики идут на цель. 5-е изд. Уфа, 1990;

Ветераны остаются в строю. М., 1980 і інш.

З узнагароднага ліста на гвардыі капітана М.Г. Гарэева:

*"... Баявую работу на "Ільюшыне" тав. Гарэеў пачаў у 1942 г. над Сталінградам... Нягледзячы на тое, што ў паветры над Сталінградам была яшчэ перавага самалётаў праціўніка, велізарная колькасць зенітнай артылерыі, тав. Гарэеў лётаў, выконваў выдатна баявыя заданні.*

*Усяго за абарону горада Сталінграда ён зрабіў 11 паспяховых баявых вылетаў на "Ільюшыне". Гэта была добрая Сталінградская загартоўка, вышэйшая школа доблесці і геройства...*

*Прыдонскія стэпы і асабліва Міусфронт былі наступнай прыступкай вайсковай доблесці і гераічнасці, майстэрства і выхавання для тав. Гарэева... Тут ён ужо з поспехам лётаў на баявыя заданні вядоўцам пары і звяна. Лётаў ён у буйных групах - да 100 самалётаў, працаваў у якасці "фатографа", у адзіночку вісячы над групай, апрацоўваў і пярэдні край, узломваючы трывалыя абарончыя ўмацаванні немцаў, паліў танкі і знішчаў жывую сілу.*

*... магутныя бамбавальныя і штурмавыя ўдары тав. Гарэева сталі страхам для танкаў праціўніка. Як ніхто іншы, ён вызначаўся сваім майстэрствам і адвагай, жаданнем адстойваць сваю Радзіму ў дні, калі была разгромлена нямецкая танкавая дывізія "Мёртвая галава". Яна была ўшчэнт разбіта яшчэ да ўступлення ў бой. На штурмоўку гэтай танкавай групоўкі тав. Гарэеў зрабіў 7 баявых вылетаў. Пяцьдзесят восем танкаў было знішчана ў выніку ўмелай і сумеснай работы груп нашых штурмавікоў. Толькі адзін тав. Гарэев з гэтага ліку знішчыў чатыры танкі..."*

***М.Ф. Уфаркін.***

# Лідскаму аэрадрому - 100 гадоў




Дату заснавання Лідскасга аэрадрома ніхто дакладна не ўстанаўліваў, ды яе і няма. За гэтую дату бярэцца дата зацверджання імператарам Мікалаем II штату першага авіяцыйнага атрада ў Лідзе 27 чэрвеня (7 ліпеня) 1912 г. пры 9-й паветраплавальнай роце.

У красавіку 1912 года ў Віленскую вайсковую акругу быў камандзіраваны вайсковы інжынер штабс-капітан Барэйка для выбару месца пад аэрадром у Лідзе, які пра вынікі паездкі склаў справаздачу ад 2 траўня 1912 г. 3 траўня пляцоўкі праверыла камісія Віленскай акругі, і 5 траўня ў Галоўную інжынерную ўправу быў накіраваны акт з вызначэннем канчатковага месца пад аэрадром. У адказ 29 траўня 1912 г. начальніку інжынераў Віленскай акругі была даслана тэлеграма Галоўнай інжынернай управы: *"Галоўная інжынерная ўправа не бачыць перашкод для ўсталявання аэрадрома ў Лідзе"*.

27 чэрвеня 2012 года зацверджаны "Штат авіяцыйнага атрада Паветраплавальнай роты".

19 кастрычніка 1912 года начальнік Генеральнага штаба Я.Г. Жылінскі пасылае справаздачу вайсковаму міністру В.А. Сухамлінаву аб плане развіцця паветраплавання і авіяцыі ў Расіі. У Лідзе спланавана стварэнне ўжо авіяцыйнага цэнтра ў складзе ажно 2, 3, 4 і 20 карпусных авіяцыйных атрадаў, двух армейскіх авіяцыйных атрадаў і аднаго авіяцыйнага атрада асобнага прызначэння.

У 1913 годзе ідуць інтэнсіўныя палёты.

Да 100-годдзя Лідскага аэрадрома па прапанове ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УП "Белпошта" выпусціла мастацкую паштоўку, наклад 3000 асобнікаў. Мастак А. Мядзведзь.

У "Лідскім летапісцы", пачынаючы з № 4 (16) за 2001 год друкавалася вялікая даследчая праца Антося Савука па гісторыі Лідскага аэрадрома ад размяшчэння ў Лідзе паветраплавальнай роты ў 1907 годзе да 1927 года.

Па гісторыі Лідскага аэрадрома і частак, якія тут размяшчаліся ў часы Другой Рэчы Паспалітай ёсць або пішуцца працы польскіх даследчыкаў.

Вялікі артыкул пра лёс у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі, якая дыслакавалася ў Лідзе размясціла ў "Лідскім летапісцы" Анастасія Каладзяжная.

Кніжкі пра лёс палкоў гэтай дывізіі выдаў магістр гістарычных навук, аспірант гісторыі Зміцер Кіенка. Гэта "Крилья над Лидой, боевые действия 122 истребительного полка 22-23 июня 1941 г." (2009 г.) і "Крилья над Гродно. Боевые действия 127 истребительного полка" (2009 г.).

Існуе шэраг успамінаў былых лётчыкаў 11-й ЗАД, размешчаных у розных крыніцах.

З 1991 года Лідскі аэрадром - у складзе Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.




Пасля шматлікіх арганізацый і рэарганізацый на аэрадроме Ліда 206-я штурмавая авіяцыйная база рэарганізавана ў 116-ю гвардзейскую Радамскую Чырванасцяжную штурмавую авіяцыйную базу (ШАБ) і сфармаваны 206-ы цэнтр падрыхтоўкі лётнага складу. Ён прызначаны для падвышэння якасці падрыхтоўкі лётнага складу авіяцыі Ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны, курсантаў-лётчыкаў Вайсковай акадэміі. На ўзбраенні цэнтра знаходзяцца навучальна-баявыя самалёты Л-39.

У склад 116-й гвардзейскай ШАБ увайшлі асабовы склад, узбраенне і ваенная тэхніка 116-й гвардзейскай бамбавальна-выведвальнай авіяцыйнай базы і 206-й штурмавой авіяцыйнай базы. На ўзбраенні базы стаяць самалёты Су-24 і Су-25.







У 2012 годзе ў сувязі са 100-годдзем Лідскага аэрадрома ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" звярнулася ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прапановай стварыць на базе Лідскага аэрадрома Музей авіяцыі Рэспублікі Беларусь і атрымала наступны адказ:




*Старшыні*
*Грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны"'*
*А.А.Трусаву*

*Аб стварэнні музея авіяцыі*

*Паважаны Алег Анатольевіч!*

*Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт сумесна з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь разгледзеў Ваш зварот, які быў накіраваны Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.У. Макею, аб стварэнні музея авіяцыі ў г. Ліда. Па дадзенаму пытанню паведамляем наступнае.*

*У адпаведнасці з падпунктам 3.1 артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" абавязковай умовай стварэння музея з'яўляецца наяўнасць культурных каштоўнасцей (музейных прадметаў, раскрываючых пэўную тэму).*

*Па інфармацыі Лідскага гісторыка-мастацкага музея ў яго фондах захоўваецца толькі 14 прадметаў, якія маюць дачыненне да гісторыі авіяцыі. Сярод іх: 12 дакументаў, звязаных з Малахавым М.М., Героем Савецкага Саюза, які некаторы час жыў у г. Ліда і там пахаваны; ліст Ю.А. Гагарына школьнікам в. Сялец Лідскага раёна; сувенірны гадзіннік, падараваны на юбілей горада ў 1980 годзе.*

*У сучасны момант у 206 цэнтры падрыхтоўкі лётнага састава ў г. Ліда аформлены пакой баявой славы, у якім на аснове тэкставай інфармацыі расказваецца аб гісторыі авіяцыі, Лідскага аэрадрома, гісторыі штурмавой авіяцыйнай базы. Прадметаў, якія раскрываюць тэму развіцця авіяцыі і Лідскага аэрадрома ў экспазіцыі няма.*

*У планах работы Лідскага гісторыка-мастацкага музея арганізаваць у 2014 годзе выстаўку, прысвечаную гісторыі Лідскага аэрадрома. Для збору прадметаў па гэтай тэме супрацоўнікамі будзе праводзіцца планамерная работа. Пры ўмове, што будзе сабрана неабходная для адкрыцця музея колькасць прадметаў, будзе разгледжана пытанне аб стварэнні музея побач з 116 Гвардзейскай Радамскай Чырвонасцяжнай штурмавой авіяцыйнай базай, тэрыторыя якой, з улікам яе прызначэння, не можа быць выкарыстана для стварэння музея.*

*З павагай,*
*Намеснік старшыні* *І.Г. Жук.*

# Лідскаму малочна-кансервavаму камбінату - 60

*"Малако - гэта дзівосная ежа, прыгатаваная самой прыродай, якая адрозніваецца лёгкай засваяльнасцю і пажыўнасцю ў параўнанні з іншымі відамі ежы".*

***Акадэмік І. П. Паўлаў.***

Малако лічыцца ежай багоў, эліксірам жыцця, знакам адраджэння і неўміручасці, дабрыні, клопату, спагады, багацця і ўрадлівасці. Малако азначае таксама сямейную крэўную сувязь і з'яўляецца знакам мацярынства. Знакі малака і вады, разгляданыя разам, увасабляюць, адпаведна, дух і матэрыю.

Таварны знак "Лідская буронушка" ў прадстаўленні не мае патрэбы, бо прадукцыю пад гэтым брэндам ацанілі і палюбілі шматлікія пакупнікі.

Гісторыя ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" з моманту заснавання і да нашых дзён багатая падзеямі і адкрыццямі.

**1949 - 1952 гг.** З гэтага перыяду пачынаецца гісторыя прадпрыемства - вялося будаўніцтва малочна-кансервавага завода.



**1952 год.** Першая прадукцыя камбіната з'явілася на рынку **30 чэрвеня 1952 года.** Першапачаткова тут вырабляліся выключна сухія малочныя кансервы. У сярэднім на камбінат паступала каля 4000 тон малака і выпрацоўвалася больш за 300 тон сухіх малочных кансерваў у год.

**1955 год**. За кошт пашырэння сыравіннай зоны прадпрыемства запрацавала на поўную праектную магутнасць, і выпуск сухіх малочных кансерваў павялічыўся ўдвая.

**1961 - 1963 гг.** У гэты перыяд была праведзена першая рэканструкцыя завода. Кацельня была пераведзена на спальванне вадкага паліва, пабудаваны будынак з мантажом халадзільнага абсталявання, пашыраны складскія памяшканні.

**1976 год.** Уведзены ў эксплуатацыю натуральна-малочны цэх, і выпуск прадукцыі павялічыўся







да 18000 тон у год. Змантаравана лінія па вытворчасці масла прадукцыйнасцю 15 тон у змену.

**1987 год.** Пабудаваны цэх сухога абястлушчанага малака, у якім таксама выпускаліся заменнікі цэльнага малака, згушчанае малако, тварожныя дэсерты, сметанковыя сыры, маянэзы.

**1990 - 2000 гг.** Гэта быў час чарговых этапаў рэканструкцыі, мадэрнізацыі сушыльнага абсталявання чэшскай, нямецкай вытворчасці, якое ўсталёўвалася яшчэ ў 60-70-я гады.

**2006 год.** Быў распрацаваны бізнэс-план інвестыцыйнага праекта па тэхнічным пераўзбраенні

прадпрыемства, які з поспехам рэалізуецца на працягу апошніх некалькіх гадоў.

**2008 - 2009 гг.** Пачалося будаўніцтва цэха па вытворчасці сухіх малочных кансерваў разам са складскімі памяшканнямі, які быў уведзены ў эксплуатацыю ў 2009 года, што дазволіла павялічыць выпуск сухіх малочных прадуктаў на 3650 тон у год. Цэх абсталяваны аўтаматычнай сістэмай кіравання тэхналагічнымі працэсамі, працэс вытворчасці кантралюецца дыстанцыйна.

**2010 год.** Прадпрыемства абсталявана па апошнім слове тэхнікі і выпускае шырокі асартымент прадуктаў з малочнай сыравіны, на дадзены момант камбінат здольны прыняць у перапрацоўку больш за 600 тон малака ў суткі. Гэты паказчык стаў магчымы толькі дзякуючы правільна абранай стратэгіі развіцця камбіната, якая ў першую чаргу складаецца з тэхнічнага пераўзбраення і мадэрнізацыі асноўнага тэхналагічнага абсталявання, і падвышэння якасці выпусканай прадукцыі.

**Снежань 2011 года.** Адкрытае акцыянернае таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" на падставе рашэння агульнага сходу акцыянераў было рэарганізавана. Да яго далучаны тры адкрытыя акцыянерныя таварыствы іншых раёнаў: "Наваградскі маслаbooробны камбінат", "Смаргонскія малочныя прадукты", "Ашмянскі сыраробны завод". Узначаліў створаную структуру генеральны дырэктар Андрэй Эйсымант.

Цяпер у аб'яднанні вядзецца актыўная дзейнасць па распрацоўцы адзінага брэнда для чатырох камбінатаў. Рэкламная кампанія ўжо падрыхтавала 10 узораў новага брэнда. І адзін з іх будзе зацверджаны зусім хутка.








На прадпрыемстве ўпэўнены: поспех складаецца са шматлікіх складнікаў. Гэта сучаснае абсталяванне, высокакваліфікаваны персанал, шырокі асартымент прадуктаў, строгі кантроль якасці ўваходнай сыравіны, працэсаў вытворчасці і гатовай прадукцыі, сталае імкненне да ўдасканалення. Свайму дэвізу "Якасць і бяспека нашай прадукцыі - патрабаванне сённяшняга і новага дня" калектыў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" верны. І гэта традыцыя застанецца нязменнай на многія дзесяцігоддзі.

Неаднаразова прадукцыя прадпрыемства адзначана дыпломамі і медалямі, актыўна ўдзельнічала ў розных выставах і форумах:

- на конкурсе "Лепшая прадукцыя года - 2005. Прадукты харчавання" (г. Менск) камбінат атрымаў дыплом пераможца "Лепшы прадукт года" (малако сухое абястлушчанае - 1,5%, малако сухое цэльнае - 25%, вяршкі сухія - 42%).

- 13-15 чэрвеня 2006 г., г. Санкт-Пецярбург, 10-ы міжнародны форум “Нацыянальная выстава "Беларусь-2006".

- 22-24.08.2006 г., г. Масква, "Прадукт - 2006 г.". Атрыманы бронзавы медаль за масла каровінае, сялянскае.

- 04-06.10.2006 г. Выстава-кірмаш "Еўрарэгіён "Нёман".

- 18-20.10.2006 г. Нацыянальная выстава Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Казахстан, г. Астана.

- Сухое цэльнае малако стала лаўрэатам конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь - 2006".

- Выстава 06-09.02.2007 г., г. Краснаярск, РФ.

- 18-ты Харбінскі гандлёва-эканамічны кірмаш 15-19.06.2007 г., Кітай.

- 9-я Расійская аграпрамысловая выстава "Зала-






тая восень-2007", г. Масква, 12-16 кастрычніка 2007 г. Сухое малако, СОМ, сухія вяршкі - срэбныя медалі.

- 16-я міжнародная выстава "Петэрфуд - 2007", г. Санкт-Пецярбург, 13-16 лістапада. Сухое малако - залаты медаль, сухія вяршкі - срэбны медаль.

- 12-16 снежня 2007 г., г. Масква. Міжгаліновая выстава "Купляйце Расійскае". Сухое малако, СОМ, сухія вяршкі, масла каровінае - залатыя медалі.

- 16-18 красавіка 2008 г., г. Алматы. Юбілейная Х Казахстанская выстава "Прадуктовы рынак Казахстана - 2008". Сухое малако, СОМ, сухія вяршкі - залатыя медалі.

- 23-25 красавіка 2008 г., БЕЛЭКСПА-2008 "Белы горад Ашгабат", Туркменістан, г. Ашгабат.

Асноўнымі рэгіёнамі рынка збыту прадукцыі на экспарт у Расійскую Федэрацыю з'яўляюцца: г. Масква, г. Санкт-Пецярбург, г. Іркуцк, г. Хабараўск, г. Саратаў, г. Краснаярск, г. Іванава, г. Уладзівасток, г. Уладзімір.



Акрамя таго камбінат экспартуе сухія малочныя кансервы ў Грузію, Японію, Лівію, Катар, Арменію.

**Спіс публікацый:**

1. Лідскі малочнакансервавы камбінат // Беларуская энцыкл.: у 18 т.- Мн., 1999.- Т.9.- С.251.

2. Лидский молочноконсервный комбинат // Бел. ССР: кр. энцикл: в 5 т.- Мн., 1979.- Т.2.- С.344.

3. Лидский молочно-консервный комбинат // Республика Беларусь: энцикл.: в 6т. / редкол.: Г.П. Пашков и др. - Минск, 2007. - Т.4. - С.482.

4. Лідскі малочнакансервавы камбінат // Прамысловасць Беларусі.- Мн., 1980.- С.104.

5. Унитарное предприятие "Лидский молочно-консервный комбинат": [из истории одноим. предприятия. 1949-2003гг.] // Памяць: гіст.-дак. хроніка Ліды і Лід. р-на.- Мн., 2004.- С.390-391.

6. Лидский молочно-консервный комбинат: [рекламный буклет].- Б.м.: ОАО "ТРАНСТЭКС", 2004.- 12с.

7. По высшему разряду: продукция предприятий области признана победителем конкурса "Лучшие товары Республики Беларусь 2011 года" [в т.ч. ОАО Лидский молочно-консервный комбинат] // Гродзенская праўда.- 2012.- 19 студз.- С.2.

8. Козлов, И. В сухом остатке - качество: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / И. Козлов, М. Осипов // Народная газета.- 2011.- 29 верасня.- С.8.

9. Успехи "Лидской бурёнушки": [об успехах ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] // Лідская газета.- 2011.- 20 верасня.- С.6.

10. Бибикова, А. Со смаком!: ["Лидская бурёнушка"- лучший экспортер Лидского района] / Алла Бибикова // Гродзенская праўда. - 2011. - 28 ліпеня.- С.2.

11. Серафинович, Е. Ищут минчане "Лидскую бурёнушку": [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Екатерина Серафинович // Лідская газета. - 2011. - 16 чэрвеня. - С.2.

12. Эйсымонт, А. Уроки конкуренции: [интервью с дир. ОАО "Лид. молочно-консервный комбинат" Андреем Эйсымонтом] // Директор. - 2010. - №11. - С.51.

13. Чернушенко, В. Покоряем рынок качеством: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / В.Чернушенко // Народная газета. - 2010. - 17 жніўня.

14. Жилинская, Т. Россиянам по душе лидское молоко и масло: [об успехах лидского молочно-консервного комбината] / Татьяна Жилинская // Принеманские вести.- 2010.- 17 июня.- С.5.

15. Русилевич, В. Расширяем рынки сбыта: [представители ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат" побывали на ежегодной 43-й Каирской Международной ярмарке в Египте / В. Русилевич] // Принеманские вести. - 2010. - №14. - 3 апреля. - С.9.

16. Петраченко, С. Меньше - лучше!: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / С.Петраченко // Гродзенская праўда. - 2009. - 10 снежня. - С.2.

17. Вкусные новинки от "Лидской бурёнушки" // Гродзенская праўда. - 2009. - 2 верасня.

18. Рудковский, А. Как сделать жизнь сладкой?: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / А.Рудковский, М. Прупас // Народная газета. - 2009. - 12 жніўня. - С.10.

19. Казакевич, М. Постные итоги у "Лидской бурёнушки" / М.Казакевич // Лідская газета. - 2009. - 7 лютага. - С.2.

20. Кудряшова, Т. И горы могут быть молочными:

[ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Т. Кудряшова // Гродзенская праўда. - 2008. - 17 красавіка.

21. Бараноўскі, І. З пастаянным клопатам пра спажыўца: [ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат"] / Іван Бараноўскі // Звязда. - 2008. - 5 сакавіка. - С.6-7.

22. Благавешчык, У. "Наша прадукцыя адпавядае сусветным стандартам!": [ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат"] / Уладзімір Благавешчык // Звязда. - 2007. - 28 снежня. - С.6.

23. Шрубейко, Е. Импортная сушилка сэкономит газ: [о реконструкции Лидского молочно-консервного комбината] / Екатерина Шрубейко; фото авт. // Рэспубліка.- 2007.- С.17.

24. Ступакевич, Т. Капитаны молочных рек: [о Лидском молочно-консервном комбинате] / Татьяна Ступакевич; фото авт. // Гродзенская праўда.- 2007.- 20 верасня.- С.5.

25. Кудряшова, Т. А все начиналось с нескольких тонн молока..: [55 лет ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Татьяна Кудряшова // Лідская газета. - 2007. - 17 ліпеня. - С.2.

26. Михайлова, С. Им и финансы поют хорошие романсы: [о гл. бухгалтере ОАО Лидского молочно-консервного комбината Светлана Валентиновна Ивуть] / С. Михайлова // Лідская газета. - 2007. - 6 студзеня. - С.1.

27. Богомья, Н Лучший продукт от Лидского молочно-консервного комбината / Надежда Богомья // Вечерний Минск. - 2006. - 16 февраля. - С.4.

28. Кулеш, А. Город, легендой овеянный=Town with legends: [в т.ч. ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Александр Кулеш // Горизонты=Horizons. - 2006. - №1. - С.3-27.

29. Волынец, Н. Молоко пьем - долго живем: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Н.Волынец // Народная газета. - 2005. - 8 ліпеня. - С.4.

30. Мартов, С. Молоко пьем - долго живем: [ОАО "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Сергей Мартов // Комсомольская правда. - 2004. - 21 декабря. - С.15.

31. Осипенко,Т. Вкусный лидский майонез: [новый продукт Лид. молочно-консервного комбината] / Т.Осипенко // Принеманские вести.- 2004.- 19 февраля.- С.2.

32. Котович, В. Наш сыр - лучший: [продукция лид. молочно-консервного предприятия на респ. конкурсе "Лучший продукт года"] / В.Котович // Принеманские вести.- 2004.-22 января.- С.2.

33. Миронова, Е. Молоко вдвойне вкусней, если оно натуральное: [ГОУП "Лидский молочно-консервный комбинат"] / Е.Миронова // Комсомольская правда.- 2002.-23 октября.- С.6.

34. Лысуха, У. З іх лёгкай рукі - і вяршкі, і тваражкі: [Лід. малочна-кансервавы камбінат] / У. Лысуха // Лідская газета.- 2001.- 27 лютага.- С.1-2.

35. Белавус, І. Між пазыкай і прыбыткам: [аб справах Лід. малочна-кансервавага камбіната] / І.Белавус // Маладосць.- 1999.- №5-6.- С.200-201.

36. Чарнавус, Т. Паразуменне знойдзена ці надоўга?: [малочна-кансервавы камбінат] / Т.Чарнавус // Лідская газета.- 1999.- 12 студзеня.

37. Макарэвіч, П. Кіруе мужчынамі - і яшчэ як кіруе!: [Н.А. Кастрыцкая, нам. дырэктара мал.-канс. камбіната] / Пятро Макарэвіч // Лідская газета.- 1998.- 7 сакавіка.

38. Жалкоўскі, А. І міні-заводы не забыты: [Лідскі малочна-кансервавы камбінат] / Аляксандр Жалкоўскі // Гродзенская праўда.- 1994.- 22 кастрыніка.

39. Дроздов, В. Когда отзвенели фанфары, трудовой коллектив Лидского молочно-консервного комбината оказался в кругу проблем / В.Дроздов // Сельская газета.- 1989.- 15 апреля.

40. Гилевин, Г. Самодеятельность под сомнением: [Лидский молочно-консервный комбинат] / Г.Гилевин // Гродненская правда.- 1989.- 22 февр.

41. Мая праграма наступная: [выбары дырэктара на малочна-кансервавым камбінаце] // Уперад.- 1988.- 20 красавіка.

42. Говар, С. На пярэднім краі: [аб работніцы малочна-кансервавага камбіната Зоі Васільеўне Мінтелевіч] / С. Говар // Уперад. - 1986.- 8 сак.

43. Якуць, Г. Па шчокінскаму метаду: [малочна-кансервавы камбінат] / Г.Якуць // Уперад.- 1983.- 5 кастр.

44. Войтас, Л. Малочна-кансерваваму камбінату - 30 гадоў / Л. Войтас // Уперад.- 1982.- 30 червеня.

45. Гіро, А. З клопатам аб пакупніку: [Лідскі малочна-кансервавы камбінат] / А.Гіро // Уперад.- 1979.- 24 студзеня.

46. Кожурай, М. Капейка рубель беражэ: [эфектыўнасць - патрабаванне пяцігодкі (на малочнакансервавым камбінаце)] / М.Кожурай // Уперад.- 1976.- 9 крас.

47. План чатырох гадоў выкананы на 4 месяцы 10 дзён раней тэрміну: [малочна-кансервавы камбінат] // Уперад.- 1974.- 3 вер.

48. Тронза, В Победители без соперников: [о соц. соревновании Волковыс. и Лид. Молочно-консервных комбинатов] / В.Тронза // Гродненская правда.- 1973.- 25 апреля.

49. Сіневіч, К. Высокі каэфіцэнт вытворчасці на малочна-кансервавым заводзе / К. Сіневіч // Уперад.- 1973.- 22 жніўня.

50. Багамолаў, Р. Рэзервы ёсць: [малочна-кансервавы камбінат] / Р.Багамолаў // Уперад.- 1972.- 29 красавіка.

51. Макарэвіч, П. Святлом уласнага жыцця: [пра начальніка цэха малочна-кансервавага камбіната Т.М. Козела] / П. Макарэвіч // Уперад.- 1972.- 4 красавіка.

52. Дубровін, М. З маркай "Ліда": [аб малочна-кансервавым камбінаце] / М. Дубровін // Уперад.- 1971.- 6 студзеня.

53. Флейта, А. Рэзервы актыўнасці: [аб малочна-кансервавым камбінаце] /А. Флейта // Уперад.- 1970.- 11 жніўня.

54. Мельнікаў, В. Качагар: [М.М.Зайко, малочна-кансервавы камбінат] / В.Мельнікаў // Уперад.- 1970.- 30 студзеня.

55. Юфа, Я. Малочна-кансерваваму - 15 год / Я.Юфа // Уперад.- 1967.- 30 чэрвеня.

56. Сморчков, В. Главный ориентир: [повышение качества выпускаемых продуктов на лидском молочно-консервном комбинате] / В. Сморчков // Сельская газета.- 1966.- 29 июня.

57. Быкоўскі, М. Новая прадукцыя: [малочна-кансервавы камбінат] / М. Быкоўскі // Сцяг працы.- 1964.- 19 лістапада.

58. Быць дастойнымі сваіх бацькоў: [малочна-кансервавы камбінат] // Сцяг працы.- 1964.- 12 мая.

59. Быковский, Н. Упаковка сухих молочных продуктов: [освоена Лидским молочно-консервным комбинатам] / Н. Быковский // Промышленность Белоруссии.- 1961.- №9.- С.53-54.

60. Касенка, А. Першанец кансервавай прамысловасці: [Лідскі малочна-кансервавы камбінат] / А.Касенкка // Гродзенская праўда.- 1961.- 16 ліпеня.

61. Быковский, Н. Применение комбинированной банки для расфасовки сухого молока: [на Лид. молочно-консервном комбинате] / Н.Быковский // Молочная промышленность.- 1960.- №7.- С.16-17.

62. Синицына, М. Повсеместно и на вечные времена: [о работницах Лидского молочно-консервного комбината] / М. Синицына // Гродненская правда.- 1958.- 1 мая.

*Лідская ЦРБ*
*імя Я. Купалы.*

# Лідскаму памежнаму атраду - 15 гадоў

**Лідскія памежнікі**






Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 419 "Пра меры па ўзмацненні аховы Дзяржаўнай мяжы" ад 31 ліпеня 1997 года ўтвораны **Лідскі памежны атрад** з месцам дыслакацыі кіравання і падраздзяленняў забеспячэння ў горадзе Ліда, Гарадзенскай вобласці на тэрыторыі былога вайсковага гарадка 49 дывізіі ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння Расійскай Федэрацыі "Паўночны". Днём часткі ўстаноўлена 25 жніўня.

Першым начальнікам памежнага атрада прызначаны палкоўнік Мендаль Аляксандр Сцяпанавіч. Ён з групай афіцэраў кіравання, прыбыўшы ў Ліду 14 верасня 1997 гады, прыступіў да выканання службовых абавязкаў, пра што сведчыць загад №1 па шыхтовай частцы ад гэтай жа даты.

Знамянальнай падзеяй у жыцці асабовага складу часткі з'явілася ўручэнне Баявога Сцяга ў першыя ўгодкі ўтаварэння памежнага атрада - 25 жніўня 1998 года.

За 15 гадоў існавання часткі лідскія памежнікі дамагліся высокіх вынікаў у забеспячэнні памежнай бяспекі і ахове дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, прафесійна - службовай падрыхтоўцы, падтрыманні ўзроўню маральна - псіхалагічнага стану і вайсковай дысцыпліны, удасканаленні матэрыяльных умоў службы і побыту асабовага складу.

Па выніках аператыўна-службовай і іншай дзейнасці сярод частак органаў памежнай службы Рэспублікі Беларусь, памежны атрад займаў першае месца - 3 разы, другое месца - 6 разоў, трэцяе месца -2 разы.

Ратная праца памежнікаў Лідскага памежнага атрада высока ацэнены кіраўніцтвам краіны і Дзяржпамежкамітэта. Дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь узнагароджаны 104 чалавекі:

- ордэнам "За службу Радзіме": II ступені - 2 чалавекі; III ступені - 4 чалавекі.
-медалём "За адзнаку ў вайсковай службе" - 6 чалавек.
- медалём "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай мяжы" - 32 чалавекі.
- медалём "За працоўныя заслугі" - 1 чалавек.
- медалём "За бездакорную службу": I ступені - 3 чалавекі; II ступені - 7 чалавек; III ступені - 49 чалавек.

Прысвоена ганаровае званне "Заслужаны па-





межнік Рэспублікі Беларусь" - 1 чалавек.

Лідскі памежны атрад увесь час знаходзіцца ў цэнтры ўвагі дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў не толькі Рэспублікі Беларусь, але і іншых дзяржаў. Так 21 кастрычніка 2002 года на завяршальным этапе праверкі памежных войскаў падчас працоўнай паездкі частку наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Двойчы падраздзяленні Лідскага памежнага атрада ў працоўным парадку наведваў Сакратар Выканаўчага камітэта Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Барадзін Павел Паўлавіч (23 жніўня 2000 года і 19 снежня 2006 года). 21 кастрычніка 2004 года Мітрапаліт Менскі і Слуцкі патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт высвянціў вайсковы храм часткі ў гонар вялебнага Сергія - ігумена Раданежскага. На базе Лідскага памежатрада адбыліся аднадзённыя працоўныя сустрэчы Старшыні Дзяржкампамежвойск з кіраўнікамі Службы аховы Дзяржаўнай мяжы пры МУС Літоўскай Рэспублікі А. Сангайлам (12 верасня 2001 года) і С. Страпейкам (20 ліпеня 2007 года), з дырэктарам Федэральнай памежнай службы Расійскай Федэрацыі генерал-палкоўнікам Тоцкім К.В. (21 кастрычніка 2002 года), з Першым намеснікам Дырэктара ФСБ Расійскай Федэрацыі - кіраўніком Памежнай службы Расійскай Федэрацыі генералам арміі В.Н. Пронічавым.

Органы кіравання часткі і падраздзяленняў Лідскага памежнага атрада актыўна ўдзельнічаюць у вайскова - патрыятычным выхаванні моладзі. У гэтых мэтах з 1997 па 2012 год сіламі асабовага складу часткі праведзены капітальны рамонт і рэканструкцыя Музея баявой славы часткі, на базе якога функцыянуе Цэнтр вайскова-патрыятычнага выхавання дапрызыўной моладзі "Мяжа". Сярэднегадавы ахоп мерапрыемствамі Цэнтра больш за 4,5 тысячы маладых грамадзян Лідчыны і прымежных раёнаў. Ажыццёўлены рэканструкцыя клуба афіцэрскага сходу і пераабсталяванне салдацкага клуба часткі. На базе памежнага атрада праведзены два фэсты памежнай песні: сёмы (21-22 чэрвеня 2007 года) і дзявяты (10-11 ліпеня 2011 года). У памежным атрадзе праводзіцца сумесная праца з праваслаўнай царквой, у гэтых мэтах пры кіраванні часткі на ахвяраванні асабовага складу пабудаваны комплекс вайсковага храма часткі ў гонар вялебнага Сергія - ігумена Раданежскага. Найважнымі падзеямі ў частцы рэалізацыі дадзенага кірунку дзейнасці з'явіліся: асвячэнне 21 кастрычніка 2004 года Мітрапалітам Менскім і Слуцкім патрыяршым Экзархам ўсяе Беларусі Філарэтам вайсковага храма, уручэнне 21 лістапада 2009 года памежнаму атраду архіепіскапам Навагрудскім і Лідскім Гурыем вайсковай царкоўнай харугвы, а таксама правядзенне на базе вайсковай часткі 21-25 чэрвеня 2010 года 4-га вайскова - патрыятычнага злёту праваслаўнай моладзі.

У сакавіку 2001 года на базе памежнага атрада адбыўся навучальна-метадычны збор з начальнікамі штабоў рэгіянальных кіраванняў Федэральнай памежнай службы Расіі. 21-22 кастрычніка 2002 года - адбылася Калегія памежных ведамстваў Беларусі і Расіі па прыняцці рашэння на ахову мяжы Саюзнай дзяржавы на 2003 год. 4 лістапада 2002 года ў памежным атрадзе былі праведзены аднадзённыя зборы з дэпутатамі Нацыянальнага Сходу Беларусі, на чале з В.А. Паповым - старшынём Палаты прадстаўнікоў. 20 лістапада 2003 года Лідскі памежатрад падчас працоўнай паездкі наведала працоўная група прадстаўнікоў АБСЕ. 7 траўня 2005 года вайсковую частку наведалі ветэраны СНД - удзельнікі акцыі "Цягнік Перамогі". 25 траўня 2005 года на базе памежнага атрада адбыўся рэспубліканскі семінар сакратароў раённых і гарадскіх арганізацый ГА БРСМ. З 11 па 15 верасня 2006 года памежны атрад падвяргаўся інспектаванню групай афіцэраў Дзяржкампамежвойск. 25 траўня 2010 года адбылася сустрэча асабовага складу часткі з абразом Жыровіцкай Божай Маці.

21 траўня 1997 года з удзелам старшыні Дзяржаўнага Камітэта памежных войскаў Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Паўлоўскага А.А. быў усталяваны першы памежны слуп на ўчастку Лідскага памежнага атрада злева ад аўтадарожнага пункта пропуску "Беняконі". За пятнаццаць гадоў існавання часткі лідскімі памежнікамі выкананы вялікі аб'ём работ па пазначэнні і абсталяванні Дзяржаўнай мяжы. Так, сумесная дэмаркацыйная камісія Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі 27 жніўня 2005 года прыняла ўчастак дзяржаўнай мяжы, размешчаны ў зоне адказнасці Лідскага памежнага атрада. Дзякуючы самаадданым высілкам лідскіх памежнікаў дзяржаўная мяжа актыўна абсталёўваецца ў інжынерных адносінах. Праведзена поўная рэканструкцыя двух пунктаў пропуску праз мяжу. За 15 гадоў пабудавана пяць жылых дамоў для Лідскіх памежнікаў, для падраздзяленняў мяжы - дзесяць адміністрацыйна-гаспадарчых комплексаў.

Лідскім памежным атрадам камандавалі: палкоўнікі Мендаль Аляксандр Сцяпанавіч, Клак Эдуард Уладзіміравіч, Ляўда Ўладзімір Міхайлавіч, Кукін Мікалай Агеевіч. У наш час памежным атрадам камандуе палкоўнік Брычак Юры Анатолевіч.

**Вынікі аператыўна-службовай дзейнасці Лідскага памежнага атрада**

Цяперашні юбілей - гэта не толькі нагода павіншаваць памежнікаў са святам, але і магчымасць падвесці некаторыя вынікі аператыўна-службовай дзейнасці.

Вайскоўцамі Лідскага памежнага атрада за 15 гадоў праведзена 45 памежных аперацый тыпу "Рубеж", "Канал", "Мяжа", "Заслон", вынікам якіх з'явілася: затрыманне 108 парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы, 288 парушальнікаў памежнага рэжыму, перапынены незаконны вываз таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму каля 1 млрд. 440 млн. рублёў, забраны 46 адзінак зброі, валюта на суму эквівалентную 6700 даляраў ЗША. Асабовы склад часткі актыўна браў удзел у аператыўна-тактычных і каманд-на -штабных вучэннях "Нёман-2001", "Бярэзіна-2002", "Чыстае неба-2003", "Шчыт Айчыны - 2004", "Шчыт Саюза -2006", "Шчыт Саюза-2011", "Смерч", каманд-на-штабных вучэннях Заходняга, Паўночна-заходняга аператыўных камандаванняў і сіл адмысловых аперацый у 2005, 2007, 2009 гадах, тэрытарыяльнай абароны ў 2011 годзе, у якіх на практыцы паказана гатоўнасць атрада да выканання задач па забеспячэнні бяспекі краіны, адпрацаваны дзеянні па барацьбе з крыміналам.

За перыяд з 1997 па жнівень 2012 года асабовым складам часткі па-за пунктамі пропуску затрымана: 1880 парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы, 6790 парушальнікаў памежнага рэжыму, 760 парушальнікаў рэжыму мяжы, 76 адзінак зброі, перарвана незаконнае перамяшчэнне цераз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на суму каля 9 млрд. беларускіх рублёў. Дзеянні памежнікаў на зялёнай мяжы атрымліваюць актыўную падтрымку з боку мясцовага насельніцтва, на ўчастку атрада створана: 23 добраахвотныя дружыны агульнай колькасцю каля 500 дружыннікаў, 9 атрадаў Юных сяброў памежнікаў у складзе 240 чалавек, з дапамогай якіх затрымана каля 40 парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы і матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 800 млн. рублёў.

Вайскоўцамі памежнага кантролю за 15 гадоў затрымана: 220 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы, 215 парушальнікаў рэжыму ў пунктах пропуску, 56 адзінак зброі; перапынена незаконнае перамяшчэнне таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму каля 8,5 млрд. беларускіх рублёў; забрана валюты: 81.169 даляраў ЗША, 62.820 марак ФРГ, 865 літаў і 250 еўра; прапушчана каля 15,5 млн. чалавек і 7,5 млн. транспартных сродкаў. Такое рэальнае ўвасабленне ўзроўню прафесійнага майстэрства і маральнай гатоўнасці памежнікаў Лідскага памежатрада да забеспячэння памежнай бяспекі і аховы дзяржаўнай мяжы.

Падраздзяленні мяжы Лідскага памежнага атрада на ўчастку Воранаўскага раёна надзейна ахоўваюць дзяржаўную мяжу з моманту свайго заснавання.

**Аддзел памежнай службы "Воранава"** вядзе сваю гісторыю ад памежнай камендатуры "Ліда", сфармаванай у складзе Смаргонскага памежнага атрада ў выкананне пастановы Савета Міністраў ад 15 верасня 1992 года "Пра стварэнне памежных частак на мяжы з Латвіяй і Літвой" 11 лютага 1993 года ў горад Ліду прыбылі першыя памежнікі: маёры Лыскойць Генадзь Генрыхавіч і Пазняк Міхаіл Мікалаевіч, лейтэнант Ёда Ігар Фёдаравіч, старшы прапаршчык Валасевіч Мікалай Аляксеевіч, а 4 красавіка 1993 года - падпалкоўнік Віннікаў Аляксандр Мікалаевіч, які быў прызначаны камендантам памежнай камендатуры "Ліда". Адміністрацыя памежнай камендатуры "Ліда" размясцілася на тэрыторыі былога вайсковага гарадка кіравання 49-й ракетнай дывізіі РВСН Расійскай Федэрацыі. Да 1 лістапада 1993 года памежнай камендатурай быў прыняты пад ахову ўчастак адміністрацыйнай мяжы з Літоўскай Рэспублікай працягласцю больш за дзвесце кіламетраў, а таксама сфармавана 6 памежных пастоў: **"Суботнікі"**, **"Забалаць"**, **"Канвялішкі"**, **"Паляцкішкі"**, **"Нача"**, **"Новы Двор"** і 4 аддзяленні памежнага кантролю: міжнародныя - **"Беняконі-1"** і **"Беняконі-2"**, **"Доцішкі"** і **"Геранёны"**- міждзяржаўныя.

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 430 ад 18 лістапада 1991 года з 10 траўня 1993 года адкрыты міждзяржаўны пункт пропуску **"Парэчча"**.

14 лістапада 1997 года ўчастак мяжы памежнай камендатуры "Ліда" прыняты пад ахову Лідскім памежным атрадам, а 13 кастрычніка 2005 года камендатура перадыслакавалася ў гарадскі пасёлак Воранава ў адміністрацыйны комплекс, пабудаваны ў адпаведнасці з Праграмай уладкавання вонкавых межаў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі на 2001-2006 гады і атрымала найменне "Воранава". У снежні 2007 года ў выкананне патрабаванняў Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №448 "Пра некаторыя пытанні органаў памежнай службы" памежная камендатура "Воранава" ператворана ў аддзел памежнай службы "Воранава" ў складзе 4 памежных пастоў і 3 аддзяленняў памежнага кантролю, з выключэннем са складу аддзела памежнага паста "Суботнікі". Падраздзяленнем камандавалі: падпалкоўнікі Віннікаў А.Н. (1993-2001), Алексяюк В.В. (2001-2006), маёры - Муханаў Я.М. (2006-2009), Прыбочанка М.В. (2009-2011), маёр Стома В.І. (2011 г. па гэты час).

З 2008 па 2011 гады асабовым складам АПС затрымана 125 парушальнікаў мяжы, 1591 парушальнік памежнага рэжыму, 30 парушальнікаў рэжыму мяжы, 669 парушальнікаў КААП Рэспублікі Беларусь па ст. 23.55, 823 парушальнікі рэжыму ў пункце пропуску, наркотыкі ў 3 выпадках, таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 3 410 017 950 руб.

**Памежны пост "Забалаць"** з месцам дыслакацыі ў населеным пункце Забалаць Вараноўскага раёна пачаў фармавацца з верасня 1993 года, у складзе камендатуры "Ліда" Смаргонскага памежнага атрада. З 1 лістапада 1993 года падраздзяленне прыняло пад




ахову дзяржаўную мяжу працягласцю каля 20 км. Першапачаткова адміністрацыйныя памяшканні падраздзялення размяшчаліся ў "Доме калгасніка" ў н.п. Забалаць. Па заканчэнні будаўніцтва будынка памежнага паста ў 1995 годзе ў адпаведнасці з Праграмай уладкавання мяжы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, ажыццёўлена перадыслакацыя падраздзялення на новае месца на ўскраіне н.п. Забалаць. Першы начальнік памежнага паста - капітан Каргін Сяргей Мікалаевіч (1993 - 1999). Пастом камандавалі: старшы лейтэнант Анішчык В.Л. (1999 - 2002), капітан Боўфал П.В. (2002 - 2005), старшы лейтэнант Зайцаў І.Г. (2005-2006), капітан Хвацік А.П. (2006-2007), маёр Шыман М.В. (2007-2009), капітан Зяленскі В.Л. (2009-2012), старшы лейтэнант Уласаў А.В. з 2012 года).

За перыяд з 2007 па 2011 гады вайскоўцамі памежнага паста затрымана: 13 парушальнікаў мяжы, 327 парушальнікаў памежнага рэжыму, 1 парушальнік рэжыму мяжы, у 4 выпадках наркотыкі. Вайскоўцы памежнага паста за перыяд з 1998 па 2012 год узнагароджаны: медалём "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай мяжы" - 1 чалавек, знакамі "Выдатнік памежнай службы": І ступені - 17 чалавек, ІІ ступені - 49 чалавек.

**Памежны пост "Драбішуны"** - падраздзяленне, якое ўваходзіць у склад аддзела памежнай службы "Воранава" з месцам дыслакацыі ў н.п. Паляцкішкі. З 25 снежня 2009 года ажыццяўляе ахову дзяржаўнай мяжы працягласцю больш за 30 км. Першы начальнік паста - капітан Хвацік Аляксандр Пятровіч (2007-2010). Памежны пост з'яўляецца правапераемнікам **памежнага паста "Паляцкішкі"**, сфармаванага ў кастрычніку 1993 года, з размяшчэннем адміністрацыйных памяшканняў у будынку Паляцкішскага сельскага савету. З 1 лістапада 1993 года пост прыняў пад ахову ўчастак мяжы каля 30 кіламетраў. **Памежным пастом "Паляцкішкі"** камандавалі: старшы лейтэнант Плоцкі Ігар Тадэвушавіч - першы камандзір падраздзялення (1993-1997), капітан Маляр І.І. (1997-2000), старшыя лейтэнанты Анішчык С.Л. (2000-2002), Радзевіч Д.З. (2002), Зянькевіч В.І. (2002-2003), капітаны Жыдовіч Б.І. (2003-2007), Хвацік А.П. (2007-2010), памежным пастом "Драбішуны" - старшы лейтэнант Краўчанка А.Г. (з 2010 па гэты час).



За перыяд з 2008 па 2011 год вайскоўцамі паста затрымана: 27 парушальнікаў мяжы, 282 парушальнікі памежнага рэжыму, 47 парушальнікаў рэжыму мяжы, таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму больш за 45.176.000 беларускіх рублёў.

**Аддзяленне памежнага кантролю "Беняконі-1"** пачало сваё фармаванне ў студзені 1993 года. У сакавіку 1993 года ўстаноўлены вагончык каля старога



млына н.п. Беняконі, а з 5 траўня 1993 года адкрыты стацыянарны пункт пропуску. Першы камандзір падраздзялення - маёр Кавалёў Алег Генадзевіч (1993 - 1995). Аддзяленнем памежкантролю камандавалі падпалкоўнікі: Лось Ю.В. (1995-1998), Лапін А.А. (1998-2002), Паддубны Н.Н. (2002-2003), маёр Будэйка А.Н. (2003-2006), падпалкоўнікі: Малец О.М. (2006-2007), Валюк А.Н. (2007-2009), маёры Тушынскі С.Ф. (2009-2010), Паўловіч А.С. (з 2010 па гэты час).

У перыяд з траўня 2008 па ліпень 2011 года праведзена рэканструкцыя пункта пропуску. З 2008 па 2011 год вайскоўцамі аддзялення памежнага кантролю затрымана: 11 парушальнікаў мяжы, 129 парушальнікаў памежнага рэжыму, 659 парушальнікаў КААП Рэспублікі Беларусь па артыкуле 23.55, 430 парушальнікаў рэжыму ў пункце пропуску, 10 парушальнікаў рэжыму мяжы, перапынена перамяшчэнне цераз мяжу таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 2.802.656.720 рублёў. Цераз мяжу прапушчана больш за 2593790 асобаў і 1430990 адзінак транспартных сродкаў. З 1998 па 2011 год АПК "Беняконі-1" сярод падраздзяленняў памежнага кантролю займала І месца - 7 раз, ІІ месца - 5 раз, ІІІ месца - 3 разы.

**Аддзяленне памежнага кантролю "Беняконі-2"** пачало сваё фармаванне ў студзені 1993 года, у



н.п. Беняконі Воранаўскага раёна на станцыі "Беняконі" Беларускай чыгункі. Да ажыццяўлення пропуску цераз Дзяржаўную мяжу прыступіла з 5 траўня 1993 года. Першы начальнік АПК - маёр Букін Аляксандр Антонавіч (1993-1994). Падраздзяленнем камандавалі капітан Бяляўскі В.В. (1994-1995), маёры Касцецкі С.В. (1995-1998), Папылін С.Н. (1998-1999), Чарнышоў С.Н. (1999 - 2003), Ціхановіч М.Е. (2003-2006), Карнійчук А.В. (2006-2012), капітан Аляксейчык В.І. (з 2012 - па цяперашні час). Першая змена заступіла на ахову Дзяржаўнай мяжы ў складзе: маёра Букіна А.А., прапаршчыкаў Стацевіча А.К., Мароз А.Н., Куніцавай У.П., Мухляда А.Н., Кавальчука Я.А.

Першапачаткова аддзяленне размяшчалася ў тыповых модулях, а з вясны 2001 года падраздзяленне размяшчаецца ў будынку чыгуначнай станцыі "Беняконі".

За перыяд з 2008 па 2011 год памежнікамі аддзялення памежнага кантролю затрыманы 1 парушальнік мяжы, 124 парушальнікі памежнага рэжыму, 22 парушальнікі правапарадку па арт. 23.55, 1 парушальнік рэжыму мяжы, 1 парушальнік рэжыму ў пункце пропуску, таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 10900300 рублёў, 1 адзінка зброі, прапушчана цераз мяжу больш за 58930 грамадзян, каля 19382 чыгуначных саставаў. З 1997 па 2011 год аддзяленне займала I месца - 3 разы, II месца - 7 раз, III месца - 4 разы ў спаборніцтве па выніках АСД сярод падраздзяленняў памежнага кантролю часткі.

**Аддзяленне памежнага кантролю "Доцішкі"** пачало сваё фармаванне на ўчастку **памежнага паста "Нача"** ў памежнай паласе, каля н.п Доцішкі ў красавіку 1993 года. Да пропуску грамадзян транспартных сродкаў і тавараў міждзяржаўны пункт пропуску "Доцішкі" прыступіў з 1 чэрвеня 1993 года. Першы камандзір падраздзялення - маёр Чувашоў Аляксандр Васільевіч (1993-1995). Аддзяленнем камандавалі маёры: Марц'янаў І.Н. (1995-1997), Аляксяюк В.В. (1997-2001), Сяўрук А.Н. (2001-2004), капітаны Малец А.М. (2004-2006), Валюк А.Н. (2006-2007), Кудраўцаў Д.Г. (2007-2008), Аляксейчык В.І. (2008-2009), Станчык М.В. (з 2009 па гэты час). З 2007 года пункт пропуску з міждзяржаўнага ператвораны ў спрошчаны, у якім ажыццяўляецца безтаварны пропуск грамадзян і транспартных сродкаў. З 2008 па 2011 год памежнікамі аддзялення памежнага кантролю затрымана 2 парушальнікі памежнага рэжыму, 1 парушальнік рэжыму дзяржаўнай мяжы, 9 парушальнікаў КААП Рэспублікі Беларусь па арт. 23.55, перапынена перамяшчэнне цераз дзяржаўную мяжу таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 448.405.330 беларускіх рублёў. За гэты ж перыяд устаноўленым парадкам цераз мяжу прапушчана больш за 410.150 грамадзян і каля 335.710 транспартных сродкаў. Аддзяленне памежнага кантролю "Доцішкі" з 1998 па 2011 год у спаборніцтве сярод падраздзяленняў памежнага кантролю па выніках аператыўна-службовай дзейнасці двойчы займала I месца, адзін раз - II месца і 6 раз - III месца.



**Мабільная памежная застава аддзела памежнай службы "Воранава"** - падраздзяленне, якое знаходзіцца ў непасрэдным падначаленні начальніка аддзела памежнай службы "Воранава", з'яўляецца правапераемнікам рэзервовай памежнай заставы памежнай камендатуры "Ліда", сфармаванай у лістападзе 1996 года пры кіраванні памежнай камендатуры "Ліда". Першы начальнік рэзервовай памежнай заставы - маёр Грос Юры Вячаслававіч (1997-2001). Падраздзяленнем камандавалі: капітаны: Урбановіч П.Р. (2001-2004), Кандраццеў Д.В. (2004-2005); маёры: Шалаў В.А. (2005-2009), Барысевіч А.І. (2009-2011). У снежні 2007 года рэзервовая памежная застава памежкамендатуры "Воранава" падчас арганізацыйна - штатных мерапрыемстваў пераўтворана в мабільную памежную заставу аддзела памежнай службы "Воранава". Першы начальнік заставы - старшы лейтэнант Пачобут В.А.

За перыяд з 2008 па 2011 г.г. памежнікамі затрымана 15 парушальнікаў мяжы, 63 парушальнікі памежнага рэжыму, 2 парушальнікі рэжыму мяжы, 18 парушальнікаў КААП Рэспублікі Беларусь па арт. 23.55, таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 47.587.090 рублёў. У студзені 2012 года мабільная памежная застава аддзела памежнай службы "Воранава" сфармавана паўторна.

**Памежная застава "Беняконі"** з'яўляецца правапераемнікам **памежнага паста "Канвялішкі"**, сфармаванага ў студзені 1993 года, у складзе камендатуры "Ліда" Смаргонскага памежатрада. З 7 сакавіка 1993 года падраздзяленне прыняло пад ахову дзяржаў-

ную мяжу працягласцю каля 44 км. Першы начальнік памежнага паста - старшы лейтэнант Дзямідзенка Алег Аляксандравіч (1993-1996). З сакавіка 1993 па лістапад 2011 года падраздзяленне размяшчалася па часовай схеме ў вахтавых вагончыках у н.п. Канвялішкі.

З 6 ліпеня 2011 гады каля 10 кіламетраў ахоўванага ўчастка дзяржаўнай мяжы перададзена **памежнаму пасту "Геранёны"**. Пастом камандавалі старшыя лейтэнанты: Плоцкі А.Т. (1996-1997), Сіўчанка А.Л. (1997-2000), капітан Вострыкаў Ю.П. (2000-2003), старшыя лейтэнанты: Радзевіч Д.З. (2003-2004), Бурэц А.Г. (2005 г.), капітаны: Кандраццеў Д.В. (2005-2007), Паўлюкевіч Л.М. (2007-2010), старшы лейтэнант Храменкаў А.В. (2010 - гэты час).

За перыяд з 2007 па 2011 гады вайскоўцамі падраздзялення затрымана: 36 парушальнікаў мяжы, 419 парушальнікаў памежнага рэжыму, 4 парушальнікі рэжыму мяжы, 258 парушальнікаў КААП Рэспублікі Беларусь па арт. 23.55, 50 штук боепрыпасаў, таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 108.199.810 рублёў, наркотыкі ў 2 выпадках.

Па выніках службовай дзейнасці з 1998 года вайскоўцы паста ўзнагароджаны: медалём "За адзнаку ў ахове Дзяржаўнай мяжы" - 1 чалавек, знакам "Выдатнік памежнай службы": 1 ступені - 14 чалавек, 2 ступені - 47 чалавек

З 2 снежня 2011 года **памежная застава "Беняконі"** прыступіла да аховы дзяржаўнай мяжы агульнай працягласцю каля 40 кіламетраў з новага месца дыслакацыі. Адлегласць ад памежнай заставы да дзяржаўнай мяжы ўсяго каля 2,5 кіламетра, што дазваляе значна скараціць час рэагавання па становішчы. Новы комплекс памежнай заставы "Беняконі", які пабудаваны па Праграме ўладкавання вонкавай мяжы Саюзнай



дзяржавы на перыяд 2007-2011 гадоў, адкрыўся на беларуска-літоўскай мяжы. Комплекс заставы "Беняконі" зараз абсталяваны найновым тэхналагічным абсталяваннем, інфармацыйнымі, тэлекамунікацыйнымі, інжынернымі сеткамі і сістэмамі відэаназірання. Таксама ў склад комплексу, які можа працаваць у аўтаномным рэжыме, увайшлі 8-кватэрны жылы дом, тэхнічныя будынкі, склад паліўна-змазвальных матэрыялаў, гарадок для службовых сабак, спартовыя пляцоўкі, трансфарматарная станцыя, воданапорная вежа з артэзіянскімі свідравінамі, ачышчальныя збудаванні. На першым паверсе будынка размешчаны службовыя памяшканні, на другім - блок сілкавання і адпачынку вайскоўцаў.

**Памежная застава "Доцішкі"** з'яўляецца правапераемнікам **памежнага паста "Нача"** разгорнутага ў памяшканнях калгаснай гасцініцы ў н. п. Нача Воранаўскага раёна ў ліпені 1993 года ў складзе памежнай камендатуры "Ліда" Смаргонскага памежнага атрада. З 1 лістапада 1993 года пост прыняў пад ахову ўчастак дзяржаўнай мяжы працягласцю каля 40 км. Першы начальнік паста - капітан Плоцкі Алег Генадзевіч, кіраваў падраздзяленнем з 1993 па 1997 г. Падраздзяленнем камандавалі: капітан Валюк А.Н. (1997 - 2000), старшыя лейтэнанты: Радзевіч Д.З. (2000-2002), Кондраццеў Д.В. (2002 - 2003), Цясляроў Максім Віктаравіч (2005 - 2007), Плотнікаў Міхаіл Віктаравіч (2007 - 2008), капітаны: Квяткоўскі С.А. (2008 - 2010), Нямера А.М. (з 2011 па гэты час).

За перыяд з 2007 па 2011 год вайскоўцамі



памежнага паста затрымана: 22 парушальнікі мяжы, 212 парушальнікаў памежнага рэжыму, 5 парушальнікаў рэжыму мяжы 4 адзінкі зброі, таварна - матэрыяльных каштоўнасцяў на суму 69.620.000 рублёў.

З 17 сакавіка 2012 года памежная застава "Доцішкі" прыступіла да аховы дзяржаўнай мяжы працягласцю каля 37 кіламетраў з новага месца дыслакацыі.

Комплекс пабудавалі на грошы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Новая памежная застава - гэта сучасны комплекс для аховы дзяржаўнай мяжы. Двухпавярховы адміністрацыйны будынак, гаражы, гадавальнік, гарадок памежнай службы, а побач 12-кватэрны дом для сем'яў прапаршчыкаў і афіцэраў. Службовыя кватэры для памежнікаў не толькі з поўным аздабленнем. Тут усталявана мэбля і побытавая тэхніка.

Усе выгоды створаны і для салдатаў-тэрміновікаў. Пакоі на шасцярых, душ. Побач сталовая. Памежны комплекс "Доцішкі" - гэта сучасныя сістэмы аховы і відэакамеры ўздоўж дзяржаўнай мяжы.

*Прэс-служба* .

***Леанід Лаўрэш***

# Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне

***"О год, празваны ў нас і надзвычайным,***
***І векапомным годам ураджайным!"***
*А. Міцкевіч (пер. Я. Семяжона)*

## Падрыхтоўка і планаванне вайны

У лютым 1811 г. расейскі генерал Бенігсен распрацаваў план вядзення вайны з Францыяй, у якім галоўная ўвага надаецца наступальным дзеянням. Сутнасць плана зводзілася да таго, што Расія павінна першай аб'явіць Францыі вайну, заняўшы Прусію і Польшчу. План прадугледжваў выхад расійскіх войскаў на лінію Одэра і прынясце генеральнай бітвы ў міжрэчча Вісла - Одэр. У студзені - сакавіку 1811 г. Аляксандр І даў указанні аб перакідцы расійскіх войскаў з Фінляндыі, Малдовы і Валахіі да заходняй мяжы. Дадзеныя выведкі Герцагства Варшаўскага сведчылі аб высоўванні да мяжы і канцэнтрацыі ў раёнах Вільні, Гародні, Берасця і Беластока буйных вайсковых фармаванняў (да 200 тыс. чалавек). Напалеон абвінаваціў Аляксандра І у падрыхтоўцы вайны супраць Францыі, і прыняў адваротныя меры. Ён распарадзіўся аб перакідцы ў Герцагства Варшаўскае зброі і ваеннага рыштунку, а таксама аддаў загад аб сфармаванні корпуса маршала Даву, які павінен быў прыкрыць Герцагства Варшаўскае. Улетку і ўвосень 1811 г. ішлі сакрэтныя расійска-прускія перамовы. Аднак стварыць антыфранцузскую кааліцыю (Расея, Прусіі і Аўстрыя), не атрымоўвалася, Расія заставалася адна, без саюзнікаў. Таму ёй быў прыняты абарончы план будучай вайны .

Падрыхтоўка Напалеона да вайны была канчаткова завершана ў верасні 1811 г. Вайну адтэрміноўвала толькі надыходзячая зіма. Флігель-ад'ютант, палкоўнік Чарнышоў дакладваў у гэты час Аляксандру І: *"Вайна вырашана ў галаве Напалеона, ён зараз лічыць яе неабходнай для ... уладання Еўропай".*

Пачынаючы з 1811 г. у Расіі спешна будавалі на заходняй мяжы дзве новых цвердзі: Бабруйск і Дынабург; узмацнялі ўжо наяўныя ўмацаванні Рыгі і Кіева, і паміж Дзвіной і Дняпром выбіралі месцы для будучых умацаваных пазіцый. Пяць дывізій з малдаўскай арміі, якія ваявалі з Турцыяй, атрымалі загад спешна вярнуцца назад да ракі Днястра, а адна дывізія з Фінляндыі перакідалася ў Літву. Гэты адыход пяці дывізій з Дуная і шостай з Фінляндыі вельмі не спадабаўся Напалеону, і ён не прамінуў зрабіць аб гэтым належнае пасланне ў Пецярбург. Цар зараз жа адказаў, што верне дывізіі ў Валахію, калі, у сваю чаргу, Напалеон паменшыць залогу Гданьска напалову. Напалеон на гэта не мог пагадзіцца і адказваў, што ён узмацняе свае войскі ў паўночнай Германіі *"не дзеля пагрозы Расіі або з палітычнымі мэтамі, але адзіна ў намеры забяспечыць паўночныя берагі Германіі ад нападу ангельцаў, узмацніць мытную варту, захаваць грамадскі спакой у гэтым нованабытым краі і, нарэшце, там танней трымаць войскі, чым у Францыі".*

Літоўская шляхта з нецярпеннем сачыла за дзеяннямі Напалеона. Шляхта перадавала адзін аднаму чуткі пра французскага імператара, бюлетэні "Вялікага войска" пераходзілі з рук у рукі; аднадумцы Напалеона вялі агітацыю на карысць яго. Расейскі імператар Аляксандр І выдатна ведаў пра трывожныя настроі ў Літве. Губернатары даносілі, што з прыходам Напалеона ўсе павернуцца супраць Расіі, і ім загадвалі асабліва ўважліва сачыць за настроямі насельніцтва. Але знешне ўсё было спакойна.

У канцы красавіка 1812 г. імператар Аляксандр І аб'язджаў войскі ўздоўж заходняй мяжы і наведаў Вільню. Ён быў сустрэты натоўпамі насельніцтва: нават самыя вялікія скептыкі паддаліся на гэты раз надзеям на рэформы і незалежнасць у межах Расіі - тую маласць, пра якую ўсе марылі, але расейскі імператар маўчаў і абмяжоўваўся толькі міласцямі да прадстаўнікоў шляхты і незвычайнай ветлівасцю з арыстакратыяй.

У Лідзе ён зрабіў агляд 6-га корпуса генерала ад інфантэрыі Дохтурава. У Лідскім павеце ў раёне Эйшышак кватаравала руская армія ў 60 000 чалавек, карпуснымі камандзірамі ў ёй былі генералы Бахмецьевы 1-шы і 2-гі. На пачатку траўня імператар Аляксандр І, аглядаючы карпусы, суткі прабыў у Эйшышках. Потым імператар наведаў маёнтак Веранова, які належаў 70-гадовай Клары Аляксандровіч. Гаспадыня, па няведанні, прыняла імператара за расійскага паручніка. Непазнаны Аляксандр піў з ёй гарбату, і пані пажалілася яму на тое, што ў яе сілай забралі 6 коней для будучага праезду імператара. Аляксандр, не адкрыўшы сябе гаспадыні, загадаў вярнуць коней. У Лідскім павеце, імператар пешшу наведаў Ішчалну - маёнтак Карла Лясковіча, піў з Лясковічам гакрбату, слухаў ігру дачкі гаспадара Ішчалны на арфе. Каля Ішчалны расейскі імператар інспектаваў 4-ы корпус генерал - ад'ютанта Шувалава (штаб у Васілішках) які складаўся з 11-й і 23-й пяхотных дывізій, аднаго гусарскага палка з 2-й кавалерыйскай дывізіі і дзвюх артылерыйскіх брыгад. 6-ты корпус Дохтурава меў 20,5 тысяч чалавек і ўключаў у свой лік яшчэ і 3-ці кавалерыйскі корпус. Авангард 6-га корпуса (генерал - маёра графа Палена 1-га) складаўся з двух егерскіх і двух гусарскіх палкоў з ротай коннай артылерыі і месціўся каля мястэчка Лебяда .

29 траўня Напалеон прыбыў у Кёнігсберг для арганізацыі забеспячэння войска харчаваннем, а адтуль праз Велаў і Інстэрбург прыехаў у Гумбіен. Тут ён атрымаў вестку ад свайго амбасадара ў Расіі Ларыстона аб адмове Аляксандра І правесці перамовы ў

Вільні і палічыў гэта найлепшай нагодай для неадкладнага пачатку вайны з Расіяй. *"Справа вырашана!* - кажа ён. - *Рускія, якіх мы заўсёды перамагалі, прымаюць на сябе выгляд пераможцаў. Яны выклікаюць нас, але, вядома, пасля прыйдзецца нам аддзячыць ім за такую дзёрзкасць. Спыніцца ў дарозе - значыць не скарыстаць спрыяльнага выпадку. Палічым за міласць, што нас прымушаюць да вайны, пяройдзем Нёман".*

Загадаўшы карпусам як мага хутчэй паспяшаць да Нёмана, Напалеон выдаў войску свой знакаміты загад: *"Салдаты! Другая польская вайна пачалася. Першая скончылася пад Фрыдландам і Тыльзітам. У Тыльзіце Расія паклялася быць у вечным міры з Францыяй і ваяваць з Англіяй. Цяпер яна парушае свае клятвы і не жадае даць ніякага тлумачэння аб сваіх дзіўных паводзінах ... Расію вядзе рок! Лёс яе павінен вырашыцца. Ці не лічыць яна, што мы змяніліся? Хіба мы ўжо не ваяры Аўстэрліца? Расія ставіць нас паміж ганьбай і вайной. Выбар несумнеўны. Пойдзем жа наперад! Пяройдзем Нёман, прынясём вайну ў рускія межы. Другая польская вайна, як і першая, уславіць французскую зброю, і мір, які мы здабудзем, будзе трывалы і пакладзе канец пяцідзесяцігадоваму пыхліваму ўплыву Расіі на справы Еўропы"* .

Яшчэ да пераходу Нёмана Напалеон у гутарцы з Каленкурам сказаў, што хоча закончыць кампанію за 2 месяцы. Якія ж планы былі ў Напалеона на гэтую кампанію?

Напалеон казаў Метэрніху: *"Маё прадпрыемства належыць да ліку тых, рашэнне якіх даецца цярпеннем. Перамога будзе ўзнагародай больш цярплівага. Я адкрыю кампанію пераходам цераз Нёман. Скончу я яе ў Смаленску і Менску. Там я спынюся. Я ўмацую гэтыя два гарады і займуся ў Вільні, дзе будзе мая галоўная кватэра ў працягу бліжэйшай зімы, арганізацыяй Літвы, якая прагне скінуць з сябе расейскае ярмо. І мы ўбачым, хто з нас двух стоміцца першы: я ад таго, што я буду ўтрымліваць сваё войска закошт Расеі, або Аляксандар ад таго, што яму прыйдзецца карміць маё войска за кошт сваёй краіны. І, можа быць, я сам паеду на самыя суровыя месяцы зімы ў Парыж."* Метэрніх спытаў Напалеона, што ён будзе рабіць, калі акупацыя Літвы не вымусіць Аляксандра да міру. Напалеон адказаў: *"Тады, перазімаваўшы, я рушу у цэнтр краіны, і ў 1813 годзе буду такі ж цярплівы, як у 1812 г. Усё, як я Вам сказаў, з'ўляецца пытаннем часу"*. Напалеон не хітраваў з Метэрніхам. Ён, сапраўды, выкладаў план, які ён вырашыў ажыццяўляць на працягу лета і восені 1812 г. І яшчэ ў Вільні ён цвёрда трымаўся гэтага плана. Напалеон казаў там: *"Я не перайду Дзвіну. Хацець ісці далей на працягу гэтага года, значыць ісці насустрач сваёй гібелі"*. Нават ужо ў Смаленску маршал Даву пачуў ад імператара словы, якія так яго ўзрадавалі: *"Цяпер мая лінія выдатна абароненая. Спынімся тут. За гэтай цвярдыняй я магу сабраць свае войскі, даць ім адпачынак, дачакацца падмацаванняў і забеспячэння з Данцыга. ... . У два месяцы мы маем такія плады, якіх маглі чакаць хіба за два гады вайны. Даволі! Да вясны трэба арганізаваць Літву і зноў стварыць непераможную армію. Тады, калі мір не прыйдзе шукаць нас на зімовых кватэрах, мы пойдзем і заваюем яго ў Маскве"*. І так, не далей Смаленска. Бо за Смаленскам пачынаюцца спрадвечна рускія землі, расейскія афіцэры - удзельнікі вайны ў мемуарах пішуць пра тое, як змяніліся настроі мірнага насельніцтва пасля Смаленска, адразу знікла варожасць, адразу адыходзячую рускую армію пачалі сустракаць як родную. У Смаленску Напалеон зрабіў ўжо шмат гадоў нечуваную рэч, ён сабраў ваенную раду. Ёсць сведчанне, што на маршалаў - удзельнікаў гэта мела гнятлівае ўражанне. Яны ўжо прывыклі да таго, што Імператар ведае ўсё сам. Да таго ж Смаленск згарэў і зімаваць у ім не было магчымасці. Армію трэба было адводзіць назад. Але Напалеон стварыў такі свой вобраз у Еўропе, што адыходзіць, хай нават на невялікую адлегласць было немагчыма. Гэта ажывіла б усе незадаволенасці і хваляванні ў Еўропе і нават у Францыі. Акрамя таго Банапарт выдатна ведаў нацыянальны склад сваёй арміі, у ёй французаў было менш за палову. І ён уяўляў сабе, што будуць рабіць усе гэтыя баварцы, вюртэмбергцы, саксонцы і інш. на тэрыторыі Беларусі, да якіх рэпрэсіяў прыйдзецца звярнуцца для таго, каб гэтае войска ўтрымаць хоць у нейкім нармальным стане. І Напалеон пайшоў на Маскву, насустрач свайму канцу.

* * *

Трэба хоць пункцірам асвятліць жыццё нашых продкаў перад той страшэннай вайной. Вялізарнае расейскае войска на гістарычнай Літве ў значнай ступені ўтрымлівалася за кошт мясцовага насельніцтва. На гэты конт "Курьер Віленскі" пісаў: *"Шляхта Віленскай губерні атрымала імператарскую ўдзячнасць за згоду забяспечваць размешчанае ў Віленскай губерні войска харчаваннем на працягу ўсяго года на вельмі зручных для казны ўмовах"*.

Паводле ўспамінаў капітана І.Т. Радажыцкага, ў сакавіку 1812 г. пад час маршу 2-й артылерыйскай брыгады праз Пружаны - Слонім - Ваўкавыск - Масты - Ліду - Вільню правіянт здабывалі пагрозамі і сілай. Капітану запомніўся нейкі стары пан харунжы ў Беняконях Лідскага павету, які ніяк не хацеў забяспечваць расіян фуражом .

У траўні 1812 г. да *"вышэйшага начальства дайшла інфармацыя, што ў месцах размяшчэння 4 корпуса (Васілішкі, Ішчална), жыхары маюць самую крайнюю патрэбу ў хлебе, і некаторыя ўжо ядуць траву"*.

Знясільвалі край і рэкруцкія наборы ў расійскае войска. Вялікія рэкруцкія наборы пачаліся ў Гарадзенскай губерні з 1802 г. У 1802-1806 г. у расійскае войска было ўзята 7742 рэкруты, у 1808 г. з - 2589 рэкрутаў (з Лідскага павету - 280), у 1809 г. - 2 190 рэкрутаў (з Лідскага - 255), у 1810 г. - 1418 рэкрутаў (з Лідскага - 162), у сакавіку 1812 г. Аляксандр І загадаў правесці дадатковы набор, але дакладных звестак аб ім няма. Увогуле ў 1802 - 1811 гг. рэкрутчына каштавала Літоўска-Гарадзенскай губерні больш за 16 тысяч чалавек,

што нават перавышала натуральны прырост насельніцтва. У гэтыя гады рэзка паменшылася саслоўе беларускіх "месцічаў" - колькасць гараджан-хрысціян скарацілася больш чым напалову, у той час як сялянскае насельніцтва павялічылася. У чатыры разы паменшылася колькасць гараджан-хрысціян у Берасцейскім і Лідскім паветах, у два з паловай разы ў Ваўкавыскім і Слонімскім паветах. Куды "разбеглася" беларускае мяшчанства, пакуль застаецца таямніцай для гісторыкаў .

А край усё напаўняўся расейскімі войскамі. Ігнацы Яцкоўскі ў кнізе "Аповесць з майго часу" піша: *"Ужо з сярэдзіны зімы, гэта значыць, з пачатку 1812 года пачаліся перамяшчэнні расійскіх войскаў у розных кірунках. Але такое відовішча не было новым для Літвы. Выклікаюць яны нейкі страх і абмяжоўваюць свабоду, але з тае прычыны, што рухаліся яны ўсе на Захад, той, хто прыглядаўся да гэтага, міжвольна думаў пра Цюрых, Аўстэрліц і Ену, куды гэтаксама прыгожа і гэтаю самаю дарогаю ішлі войскі, але ніколі не вярталіся ...",* і калі нейкі малады афіцэр спытаў *"бабулю, якая, абапіраючыся на кіёк, прыглядалася да палка, што праходзіў міма: "А што, маці, ці была б ты рада, калі б мы пабілі французаў? О, дай Божа, - пакорна адказала старая, - каб вы іх пабілі, а каб вас пярун пабіў!"* .

## Пачатак вайны

Месца вышэй ад Коўні, там, дзе ў Нёман упадае маленькая рэчка Еся, імператар Францыі абраў для пераходу цераз Нёман для галоўнай часткі свайго войска. Напярэдадні, 23 чэрвеня, ён дбайна агледзеў берагі ракі ў наваколлях Коўні, але лепшага месца знайсці не змог. Пад вечар корпус Даву, які першым павінен перайсці мяжу, падышоў да ракі і заціх сярод узгоркаў і лясоў. Агнёў не разводзілі, і нішто не паказвала на тое, што праз некалькі гадзін дзесяткі тысяч людзей будуць на другім беразе ракі. У гэтую пару цямнее позна, і таму толькі з прыходам ночы падрыхтоўка пераправы пачалася. У цемры рота сапёраў пераправілася на правы бераг, знайшоўшы маленькую вёсачку, французы ўмацаваліся ў ёй. Калі адзін з казачых раз'ездаў спакойна наблізіўся да іх, рускі афіцэр спытаў, хто яны такія?. "Французы", быў адказ. "Чаго вы жадаеце і навошта вы ў Расіі?" працягваў пытаць афіцэр. "Ваяваць з вамі, узяць Вільню, вызваліць Польшчу!". Афіцэр не пытаў далей, павярнуў каня, і патруль хутка схаваўся ў лесе. Сапёры паслалі яму наўздагон некалькі куль. Гэта былі першыя стрэлы той вайны …

У 11 гадзін вечара 24 чэрвеня тры масты цераз Нёман былі гатовыя, і ледзь пачаў святлець усход, вялікае войска пацягнулася жывой бясконцай стужкай. Напалеон пераправіўся адным з першых. Ступіўшы на непрыяцельскі бераг, ён доўга стаяў каля мастоў, падбадзёрваючы салдат і слухаючы крыкі "Vive l'Empereur!". Потым, прышпорыў каня, ва ўвесь апор паскакаў у лес, доўга імчаўся наперад цалкам адзін ... Нарэшце апамятаўся, павольна вярнуўся да мастоў, і, далучыўшыся да аднаго з гвардзейскіх атрадаў, накіраваўся ў Коўню.

24 чэрвеня ў Вільні быў дадзены раскошны баль, на якім Аляксандр I ат-рымаў весткі пра



***На беразе Нёмана 13 (25) чэрвеня 1812 года. Мастак Х.В. Фабер дзю Фор, 1830-я гг.***

пераправу Напалеона цераз Нёман. Прабыўшы яшчэ трохі, ён з'ехаў з балю, а праз два дні рускі імператар выехаў з Вільні.

Такім чынам Напалеон з войскам перайшоў Нёман каля Коўні 24 чэрвеня, а 28-29 чэрвеня Вестфальскі кароль Жаром заняў Гародню.

Французскае "Вялікае войска" хутка рухалася наперад, і рускія не маглі затрымаць яго наступленне. Ужо 28-га авангард Мюрата начаваў у Рыконтах, за 20 вёрст ад Вільні. На наступны дзень, 29-га, адбыліся тры невялікіх сутычкі, якія завяршылі Нёман - Віленскую аперацыю, у ноч з 27 на 28 чэрвеня апошнія аддзелы рускага войска выйшлі з горада, а на наступны дзень Вільня была ўжо ў руках Напалеона.



*Ежы Косак. Пераход Напалеона са штабам цераз Вілію 24 чэрвеня 1812 года.*



*Юзаф (Жазеф) Серакоўскі ў Віленскім саборы заклікае 14 (26) чэрвеня 1812 года насельніцтва стаць на бок Напалеона*

Вось як апісвае ўваход французаў у Вільню відавочца гэтай падзеі гісторык М. Балінскі: *"У гэтую ноч амаль ніхто з жыхароў горада не заплюшчыў вочы. Праўда, на вуліцы не было ніякага шуму, але менавіта начны сумны звон зброі, конскі тупат і глухі стук цяжкіх гармат па бруку, часам прыглушаныя галасы камандзіраў напаўнялі жахам мірных жыхароў, якія, загасіўшы святло і зачыніўшы вокны, прыслухваліся да ўсяго, што адбываецца, сочачы за рухамі войска пры бляску зорак і месяца. Да світанку гэты рух некалькі паменшыўся, а пасля сямі гадзін раніцы наступіла нават хвіліна поўнай цішыні. Наперадзе пешыя жаўнеры ішлі або, дакладней, беглі рыссю, каб не быць заспетымі ворагам у гэтых цесных вуліцах. Потым рухалася конная артылерыя ... лёгкіх гармат, шэсце замыкала кавалерыя, гусары і чырвоныя гвардзейскія казакі, з якіх кожны трымаў у руцэ пісталет з узведзеным курком ці аголеную шаблю. Менавіта гэты атрад быў першым, які сустрэўся з французамі на дарозе паміж Рыконтамі і Вільняй. Увесь гэты адыход працягваўся з паўгадзіны, а потым на вуліцах зрабілася цалкам глуха і пуста. Нідзе не было відаць ні душы, усе адчувалі, што ў такую рашучую хвіліну было б небяспечна быць сярод тых, хто кожную хвіліну мог*

*уступіць у бой. Частка насельніцтва не адважвалася высунуцца з хаты, а больш адважныя і маладыя былі ўжо на Пагулянцы, каб убачыць Напалеона, а каля яго - сваіх землякоў. Але неўзабаве за горадам, каля 9 гадзін раніцы, было жахлівае гледзішча для жыхароў Сніпішак: казакі запалілі вялізныя хлебныя склады, прыгатаваныя для рускага войска, і Зялёны мост, які яшчэ за дзень да таго быў абвязаны саломай і абліты смалой. У 12 гадзін дня Напалеон уступіў у Вільню, сустрэты велічэзным натоўпам, які вітаў яго, як свайго вызваліцеля ... Першым палком вялікага войска, якія ўступіў у сталіцу Літвы, быў восьмы полк польскай кавалерыі Дамініка Радзівіла. Гэта была адна з урачыстых хвілін у жыцці Вільні, і разам з тым гэта быў тонкі тактычны прыём з боку Напалеона, які не рабіў ніякіх абяцанак у дачыненні Літвы, але як бы справай сведчыў аб будучыні, пасылаючы вызваляць горад ад рускага валадарства нашчадка літоўскіх князёў. У Панарах Напалеона сустрэла дэпутацыя мясцовых грамадзян з ключамі ад горада".*

Весткі аб наступе французаў выклікалі сумятню сярод рускага насельніцтва заходніх губерняў. Жыхары паспешліва збіраліся і ўкладваліся, ратуючы сем'і і маёмасць; не маючы належных распараджэнняў, службоўцы не ведалі, што рабіць з казённай маёмасцю. *"Адправіў з Гародні гарнізонны батальён, усіх земскіх службоўцаў і казённую маёмасць з вялікай цяжкасцю,* - даносіць атаман Платаў Баграціёну, - *таму што нічога не было тут прыгатавана, а некаторыя нават не мелі і загадаў аб адступленні адсюль ... я загадаў ім рухацца на Шчучын, Беліцу, Навагрудак і далей да Менска".*

28 чэрвеня 1812 г. у Лідзе камандзір IV расійскага корпуса Дохтураў атрымаў загад рухацца на Вільню. Аднак хутка даведаўшыся, што Напалеон заняў сталіцу Літвы, ён узяў кірунак на паўночны-ўсход: Гальшаны - Смаргонь - Данюшава, дзе апынуўся ўжо 30 чэрвеня. За Дохтуравым з-над ракі Лебяды адыходзіў III расійскі кавалерыйскі корпус графа П.П. Палена 2-га, які каля Ашмянаў сустрэўся ў імклівым баі з французскай кавалерыйскай брыгадай К. Пажоля. Раніцай 30 чэрвеня кавалерыя Пажоля, якая ішла з боку Вільні, атакавала пад Ашмянамі атрад прыкрыцця корпуса Дохтурава. 30 чэрвеня ды 1 ліпеня французскія генералы паведамілі Напалеону, што на Лідскай і Ашмянскай дарогах бачны значныя сілы рускіх з усіх трох радоў войскаў: пяхоты, кавалерыі, артылерыі. Гэта былі адступаючыя з-пад Ліды VI пяхотны і III кавалерыйскі корпусы 1-й расійскай арміі. У Гальшанах з'явіўся невялікі атрад расійскага генерала Дорахава (каля 4 тыс. чалавек), гэта быў авангард IV корпуса, які вайна застала каля Аран у Літве. Па нядбайнасці расійскага камандавання Дорахаву "забыліся" паведаміць аб пачатку вайны, і ён сам пачаў як мага хутчэй прабірацца на ўсход, атрад адступаў у такім тэмпе, што ў егераў замест поту выступала кроў. Пад час гэтага маршу Дорахаў страціў ад стомы 60 чалавек. Частку адстаўшых расійскіх егераў злавілі тутэйшыя сяляне і адвялі ў Вільню.



***Дамінік Еранім Радзівіл*** *(1786-1813). Сын Еранiма Радзівіла і прынцэсы Турн дэ Таксіс, траюраднай сястры імператрыцы Марыі Фёдараўны. Пляменнік Караля Станіслава Радзівіла - "Пане Каханку".*

*Да паходу Напалеона на Маскву Дамінік Радзівіл быў камергерам двара рускага імператара Аляксандра I. Пры наступленні Напалеона ён прысягае Напалеону на вернасць. У 1812 г. ён на свае сродкі падрыхтаваў полк уланаў для Напалеона I. На чале гэтага палка Дамінік Радзівіл першым увайшоў у вызваленую Вільню.*

*Удзельнічаў у паходзе на Маскву. Пасля паразы Напалеона, Дамінік Радзівіл быў змушаны пакінуць Радзіму. Ён паспеў з'явіцца ў Нясвіжскім замку і аддаць распараджэнне свайму эканому схаваць княжую скарбніцу ў загадзя абумоўленае месца. Руския войскі пад кіраўніцтвам адмірала Чычагава, якія ўступілі ў Нясвіж, ведалі пра схованку і спрабавалі яе адшукаць.*

*Памёр Дамінік Радзівіл у Францыі ад ран, атрыманых у бітве пры Ганаў.*

*За тое, што Дамінік Радзівіл ваяваў на баку Напалеона I, яго маёнткі былі секвестраваны Расійскай Імперыяй. У Лідскім павеце былі секвестраваны 18 маёнткаў Дамініка Радзівіла.*

*У гады Вялікай Айчыннай вайны скарбы Радзівілаў, схаваныя Дамінікам, шукалі немцы. Усе наступныя гады пошукам княжага скарбу займаюцца археолагі, чорныя капальнікі і проста авантурнікі.*

*На алтар Бацькаўшчыны паклаў усё - і жыццё, і маёмасць.*

2 ліпеня Вестфальскі кароль Жаром заняў Гародню. Вестфальскі кірасір Рункель адзначаў у лісце да родных, што ўся Гародня выйшла сустракаць караля Жэрома з падзякамі і ўшанаваннямі Напалеона. Дэпутаты ад Гародні паднеслі Жарому ключы ад горада .

На кірунку Гародня - Ліда Жарому Банапарту супрацьстаялі расейскія карпусы Шувалава ў Алькеніках і Дохтурава ў Лідзе. Аднак расейскія войскі пачалі хутка адступаць, і толькі пад Ліпнішкамі адбыўся ар'егардны бой паміж французскімі драгунамі і часткамі корпусам Дохтурава. Напраўдзе дарога з Гародні да Наваградка ішла праз Шчучын, Жалудок і Беліцу. Дарогу трымалі казакі генерала Платава, якія яшчэ 29 чэрвеня спалілі харчовыя магазіны (склады) ў Лідзе. Па гэтай дарозе наступалі войскі караля Жарома ў склад якіх уваходзіў і 5 польскі корпус князя Юзафа Панятоўскага разам з 8-м корпусам вестфальскага генерала Вандама.

3 ліпеня асноўныя сілы 2-й рускай арміі Баграціёна адыходзячы, прайшлі Наваградак. У горадзе застаўся афіцэр, які павінен быў падпаліць вайсковы і харчовы склады. Гэта магло выклікаць вялікі пажар, і таму жыхары адкупіліся ад рускага афіцэра вялікай сумай грошай, а для бачнасці пажару падпалілі на гарадской ускраіне некалькі стагоў сена. Праз тры дні ў Наваградак увайшла французская лёгкая кавалерыя з 4-га корпуса генерала Лятур-Мобура .

"Кур'ер Літоўскі" пісаў *"Адступаючы, не-*

*прыяцель нясе жорсткія страты. Усюды, дзе ён ужо прайшоў, жыхары паўстаюць і наводзяць парадак. Толькі быў ачышчаны Ваўкавыск, там згуртаваўся ўвесь павет і далучыўся да Генеральнай Канфедэрацыі. У Янаве гараджане перавязалі ўсіх рускіх вартавых, якія ахоўвалі склады ... і ў цэласці перадалі французскім войскам. Тое самае спрабавалі зрабіць і жыхары Пінска, але сілы непрыяцеля былі занадта вялікія, таму атрымалася вывезці частку харчоў, усё што засталося, было захавана і перададзена генералу Фрэліху ... войскам князя Шварцэнберга".*

8 ліпеня ў Менск уступіў авангард французскага корпуса Л. Даву, які пасля прывітання мясцовай шляхты, сказаў, што войскі Напалеона прыйшлі не прыгнятаць, а вярнуць былую Радзіму.

Войскі генерала Вандама пакінулі аб сабе дрэнныя ўспаміны ў Лідскім павеце праз рабункі. 26 ліпеня Лідскі падпрэфект жаліўся на генерала Вандама, які пасылаў салдат рабаваць жыхароў. 28 ліпеня атрад вестфальцаў з 500 чалавек, пад камандаваннем Жулье, спыніўся ў Шчучыне, і хоць салдатам было дадзена ўсё, што яны патрабавалі: сена, ялавічына, хлеб, гарэлка, піва - аднак яны з 11 гадзін вечара да раніцы, са згоды сваіх афіцэраў, па-варварску пачалі рабаваць хаты. Пры гэтым былі 3 чалавекі забітыя, 2 параненыя, мноства збіта.

Вестфальскі генерал Вандам (Дамінік Жазэф Рэне Вандам (фр. Dominique-Joseph Rene Vandamme, 1770-1830) быў жорсткім салдатам які праславіўся рабаваннямі і непадпарадкаваннем. Напалеон аднойчы сказаў пра яго: "Калі б я страціў Вандама, дык не ведаў, што б я аддаў, каб зноў яго атрымаць, але калі б меў дваіх, я быў бы змушаны загадаць аднаго расстраляць". Напачатку паходу ў Расію ў 1812 г. Вандам быў прызначаны намеснікам камандзіра 8-га вестфальскага корпуса Жарома Банапарта. Але паколькі няспрактыкаваны Жаром Банапарт камандаваў групай карпусоў, якія дзейнічалі супраць Баграціёна, Вандам фактычна аказаўся камандзірам корпуса. Аднак у самым пачатку кампаніі, у Гародні, Вандам быў адхілены Жаромам Банапартам ад камандавання корпусам з-за рознагалоссяў: жаўнеры яго корпуса былі пазбаўлены рэгулярнага харчавання і не маглі самі здабываць прадукты. Ён меў неасцярожнасць 3 ліпеня напісаць Жарому даволі рэзкі ліст. "Сір, - пісаў генерал, - беды 8-га корпуса дасягнулі сваёй мяжы, і, калі Ваша Вялікасць не зменіць сумную сітуацыю, у якой знаходзяцца ўсе карпусы, я буду змушаны прасіць дазволіць даць мне іншае камандаванне .... . Немагчыма больш выносіць тое, што дзеецца вакол мяне. Парадак знік, паўсюль пануе гвалт". Адпраўляючы гэты ліст, Вандам не ўлічыў, што вестфальскі кароль ужо неаднаразова жаліўся імператару на яго цяжкі характар. Раздражнёны гэтым Напалеон у адзін з момантаў благога настрою дазволіў свайму брату адхіліць камандзіра вестфальцаў .

Жаром Банапарт зняў генерала Вандама з пасады. Генерал прайшоў за войскам да Беліцы, паколькі ён яшчэ спадзяваўся, што яго адновяць на пасадзе. Аднак Напалеон не змяніў выраку, і потым шмат гадоў мясцовыя жыхары памяталі, што Вандам правёў цэлае лета за 30 вёрст ад горада Ліды, у маёнтку Лебяда ў абшарніка Горскага. Распавядалі, што Вандам, маючы пры сабе некалькі ад'ютантаў і паўтара дзесяткі салдат, займаўся сельскай гаспадаркай і вырашаў сялянскія справы, як самы клапатлівы гаспадар. Напалеон загадаў яму вяртацца дахаты за тое, што ён не перашкодзіў адыходу войска Баграціёна .

Толькі ў сакавіку 1813 г. Напалеон зноў прызначыў Вандама камандзірам 32-й вайсковай акругі, а 1 ліпеня ён быў прызначаны камандзірам 1-га армейскага корпуса. Вандам зацята ваяваў і патрапіў у палон у бітве пры Кульме 30 жніўня 1813 г.

24 жніўня ў Гродню паступіла скарга ад пана В. Санкоўскага з Навадворскай парафіі Лідскага павету. Аўтар даводзіў, што ў парафіі затрымалася некалькі дзесяткаў французскіх конных егераў з 1-га корпуса Даву. Гэта былі параненыя салдаты альбо тыя, у каго скалечыліся коні. Салдат пакінулі пад час пераследу Баграціёна ды і забыліся. А французы нікуды не спяшаліся. Штодзень дванаццаць конных егераў з'ядалі ў пана Санкоўскага 24 пінты збожжа, выпівалі 1,5 гарнцы гарэлкі і абавязкова патрабавалі мяса. Уладальнік маёнтка, які ўжо пацярпеў ад вестфальцаў Вандама, цікавіўся, калі яго пазбавяць гэтага клопату.

26 верасня лідскі падпрэфект данёс у Адміністрацыйную камісію, што атрад французаў з 70 чалавек, праходзячы па шляху ў Гародню праз мястэчка Каменка, размясціўся там на два дні і на працягу гэтага часу рабаваў мястэчка: паўсюдна былі выламаны замкі, у насельніцтва забраны рэчы і харчовыя прыпасы: малако, сыр, масла, сена, авёс у снапах і да т.п. Французы білі сялян шаблямі, паранілі 20 чалавек. Гарадзенскі губернатар Лярброн абяцаў падпрэфекту ўсё нарабаванае вярнуць. Для спынення рабункаў, было забаронена без дазволу паліцыі, скупляць у вайскоўцаў рэчы. Урад меў у галоўных гарадах сваіх давераных асобаў. Разрабаваным жыхарам прызначалася дапамога, а 12 снежня было загадана частку выкрадзенай маёмасці залічыць як падатак.

Для мясцовага насельніцтва сітуацыю ўскладнялі дэзерціры рускага войска, якіх было вельмі шмат, і якія таксама рабавалі мясцовае насельніцтва. "Кур'ер Літоўскі" пісаў: *"Усюды сустракаюцца ў вялікай колькасці рускія дэзерціры, асабліва ў тых мясцовасцях, дзе праходзіў Баграціён. Усе дарогі каля Мастоў, Ружан, Салечнікаў поўныя імі".*

Цікавая гісторыя здарылася з распарадчыкам маёнтка Віктарышкі, які знаходзіцца на дарозе з Вільні на Ашмяну, Пятром Былінскім. У час, калі ён пачуў што французы ўжо ў Вільні, маёнтак рабавалі 63 рускія жаўнеры. Былінскі сказаў ім, што французы побач, і ... параіў рускім ратавацца ў кірунку Табарыйскай плаціны. Калі жаўнеры туды рушылі, ён з сялянамі з Віктарышак заняў дарогу і ... прымусіў рускіх здацца. 55 з іх здалося, а 8 уцякло. Усіх палонных ён адправіў у Вільню і здаў вайсковым уладам.

## Адраджэнне ВКЛ

1 ліпеня 1812 г. Напалеон падпісвае дэкрэт пра ўтварэнне дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага і фармуе часовы ўрад - Камісію Часовага Ураду ВКЛ (Komisja Rzadu Tymczasowego Wielkiego Ksiestwa Litewskiego). Яна стваралася з 7 камітэтаў на чале кожнага з іх стаяў адзін з сяброў Камісіі: харчавання і складоў (магазінаў) - Станіслаў Солтан, паліцыі - Юзаф Серакоўскі, вайсковы - Аляксандр Сапега, судовы - Франц Ельскі, унутраных спраў - Аляксандр Патоцкі, асветы і рэлігіі - Ян Снядецкі. Камісія Часовага Ураду з'яўлялася найвышэйшай уладай Княства, якое складалася з 4 дэпартаментаў, утвораных на месцы былых Віленскай, Гарадзенскай, Менскай губерняў і Беластоцкай акругі. Лідскі павет уваходзіў у склад Гарадзенскага дэпартаменту.

Адначасова Напалеон прызначае і вайсковага генерал - губернатара Літвы, графа Гогендорпа (Hogendorp), як сказана ў дэкрэце, для таго, каб рашэнні ўраду мелі больш моцы, бо за імі стаіць камісар Імператара.

Адразу паўсталі два галоўныя кірункі дзейнасці: усталяванне законнага грамадзянскага ладу і стварэнне войска.

Сяляне, якія чакалі ад французаў волі, пачыналі бунтаваць і адмаўляцца выходзіць працаваць на пана. Хваляванні даходзілі да палення двароў і рабункаў. Рапарт Віленскага падпрэфекта да Часовай камісіі ад 6 ліпеня: *"Сяляне хаваюцца па лесе, ... пачынаюць рабаваць, іншыя адмаўляюцца працаваць. Гэта прыводзіць да таго, што войска не атрымлівае неабходнай дапамогі якая яму неабходна, ... гіне ўраджай... што можа прывесці да голаду"*. Расейская армія адступаючы вывозіла з сабой харчовыя магазіны ці нішчыла іх, пры тым, што харчавання было не шмат, бо 1811 г. быў неўрадлівы.

Часовы камітэт прымаў меры, каб спыніць марадзёрства жаўнераў і сялянскія хваляванні. 3 ліпеня ва ўсіх дэпартаментах былі створаныя адмысловыя камісіі з аднаго старшыні і 4 сяброў, мэтай якіх было падтрымліваць грамадзянскі спакой. Рабаўнікоў і марадзёраў пачалі расстрэльваць на працягу 24 гадзін. Былі утвораны "рухомыя калоны" (colonnes mobiles) па 10 чалавек кожная, пераважна з гвардзейцаў генерала Красінскага ці з жандараў, якія шукалі рабаўнікоў і марадзёраў. Аднак меркаванне, што "ўжо праз 2 месяцы ў краі ўсталяваўся спакойны грамадскі лад" , верагодна, не мае рацыі, акрамя жаўнераў дзвюх армій, свой уклад у хвалю гвалтаў унеслі і мясцовыя жыхары. Асабліва небяспечнымі былі Гарадзенскі і Лідскі паветы, дзе пасля праходу арміі Жарома Банапарта амаль не засталося войска. Вайсковец з Вестфаліі Рункель паведамляе, што ад Гародні летам 1812 г. аддаляцца было небяспечна: "Вакол горада бадзяюцца масы бандытаў". Разбой квітнеў ўздоўж дарогі Вільня - Ліда, у навакольных лясах з'явіліся банды па 4 - 20 чалавек. Яны нападалі не толькі на падарожнікаў, але і на асобныя двары, рабавалі, забівалі і калечылі людзей. Некаторыя з іх былі схоплены і пакараны ўладамі, напрыклад за ўзброеныя рабункі шляхціц Скіндар з трыма сынамі і нехта Карэва. Сіл 14-га польскага пяхотнага палка Эўзебія Семяноўскага, вылучанага са складу 17-й (польскай) пяхотнай дывізіі Дамброўскага і размеркаванага для падтрымання парадку залогамі ў Ваўкавыску, Лідзе, Наваградку, не хапала .



***Граф Станіслаў Солтан***

2 ліпеня, Жаром Банапарт прызначыў губернатарам генерала Ражнецкага, які сабраў шляхту і стварыў Канфедэрацыю. Рада Канфедэрацыі павінна была кіраваць губерняй. Аднак днём раней сам Напалеон ў Вільні аднавіў Вялікае Княства Літоўскае і заснаваў вышэйшую ўладу Княства - Камісію Часовага Ўраду, а



***Францішак Ельскі***



***Граф Дзірк-ван-Гогендорп, вайскоўвы генерал - губернатар Літвы***

па губернях - Адміністрацыйныя камісіі. Таму князь Антоні Гейдрайць, упаўнаважаны Часовым урадам, прыбыў у Гародню 17 ліпеня і выказаўшы павагу да ўдзельнікаў закрыў Раду Канфедэрацыі. Ён стварыў Адміністрацыйную камісію падпарадкаваную Вільні, першае пасяджэнне якой адбылося 26 ліпеня .



*Граф Міхал Тышкевіч, камандзір 17-га палка Літоўскай кавалерыі*

Самастойна паўсталі і павятовыя рады Канфедэрацыі. У Лідскім павеце пад кіраўніцтвам маршалка Ігнацыя Скіндара рада была ўтворана 7 ліпеня. Паўстала на Лідчыне і другая рада сканфедэраванай шляхты - у Жалудку, пад кіраўніцтвам графа Рудольфа Тызенгаўза. Сябрамі рады ў Жалудку былі: Караль Лясковіч, Францішак Райскі, Ян Лясковіч, Ян Расудоўскі, Сымпліцыян Паплаўскі, Казімір Кастравіцкі, Адольф Шукевіч, Антоні Скіндар, Антон Крыдаль (былы харунжы Літоўскіх войскаў і былы дэпутат Літоўскага трыбуналу), Казімір Камінскі, Юзаф Сангайла, Вінцэнт Сякліцкі (стражнік Мсціслаўскага ваяводства). Сакратарамі канфедэрацыі былі выбраныя Ігнацы Чачот і Аляксандр Крыдаль (сын Антона Крыдаля). Такім чынам у адным павеце былі створаны дзве Рады. Можна меркаваць, што Рудольф Тызенгаўз - чалавек французскай арыентацыі хацеў супрацьпаставіць сваю канфедэрацыю канфедэрацыі ў Лідзе, якая была па яго меркаванні прарасійскай.

Павятовыя рады Канфедэрацыі былі таксама распушчаны, кіраўніцтва паветамі перайшло да падпрэфектаў. Звычайна падпрэфектам станавіўся маршалак павету, а калі ён быў не здатны да гэтага, дык падкаморы ці харунжы павету. Падпрэфектам Лідскага павету стаў Ігнацы Скіндар. Абавязкі падпрэфекта практычна нічым не адрозніваліся ад абавязкаў маршалка. Для дапамогі ў справах падпрэфект меў 2-х павятовых радцаў, ён жа кіраваў павятовай паліцыяй. Павятовая паліцыя складалася з інспектараў і іх памочнікаў - сотнікаў і дзесятнікаў. Паліцыя павінна была падтрымліваць грамадскі спакой і права ўласнасці. У гарадах былі арганізаваны муніцыпальныя рады на чале з мэрам. У галоўных гарадах дэпартаментаў мэры падпарадкоўваліся адміністрацыйным камісіям, а ў паветах - падпрэфектам. Муніцыпальныя рады кіравалі гарадской маёмасцю, паліцыяй, расквартараваннем войска, "богадагоднымі справамі". Адным з сяброў Лідскай муніцыпальнай рады стаў Аляксандр Крыдаль - уладальнік маёнтка Мялужын.

29 ліпеня Камісія Часовага Ўраду выдала адозву аб выбарах паслоў на сойм канфедэрацыі ў Варшаве. Выбары павінны былі адбыцца 15 жніўня, у дзень імянін Напалеона. У Лідскім павеце адначасова адбыліся два соймікі: першы ў Лідзе пад кіраўніцтвам падпрэфекта Скіндара, другі ў Жалудку пад кіраўніцтвам



*Бляха на ківер афіцэра літоўскіх уланаў*



*Пагоня на ківеры палкоўніка графа Міхала Тышкевіча, камандзіра 17-га палка літоўскіх уланаў*



*Ладунка афіцэра 19-га палка літоўскіх уланаў*

Рудольфа Тызенгаўза. Але паслы ад абодвух соймікаў у Варшаву так і не паехалі.

Да 1812 г. дзякуючы асабістым просьбам сенатара Агінскага і дэлегатаў Віленскай і Гарадзенскай губерняў Сулістроўскага і князя Ксавера Любецкага (са Шчучына), цар Аляксандр І дазволіў плаціць падаткі не срэбрам, а асігнацыямі, якія мелі значна ніжэйшы курс. З прыходам французаў падаткі зноў

пачалі збіраць срэбрам, што азначала іх значнае павелічэнне. Падаткі збіраліся з вялікай цяжкасцю, аднак у Гарадзенскім дэпартаменце гэтая справа ішла лепей, чым у суседзяў .

Французскі імператар, указам ад 5 ліпеня загадаў стварыць войска ВКЛ, ён меў вялікую надзею на гэтае войска.

Старшыня Вайсковага камітэта Камісіі Часовага Ўраду Аляксандр Сапега запэўніў імператара, што адноўленае Вялікае Княства можа выставіць да 100 000 жаўнераў. Аднак гэта было вельмі цяжка, бо край быў знясілены рэкруцкімі наборамі расейцаў і заняпадам гаспадаркі.

Узорам для арганізацыі і ўзбраення палкоў бралася польскае войска Варшаўскага Княства. Былі ўтвораны 18, 19, 20, 21, 22 пяхотныя і 17, 18, 19, 20 кавалерыйскія палкі. У кожным пяхотным палку па штату павінна было быць 2005 афіцэраў і жаўнераў, у кавалерыйскім (уланскім) - 940. Усяго - 14 000 чалавек. Акрамя таго, па ўказу Напалеона падпісаным у Смаленску ад 24 жніўня, па 500 літоўскіх рэкрутаў папоўнілі 129-ы лінейны і 2-і ілірыйскі палкі.

5 ліпеня 1812 г. Напалеон падпісаў загад аб сфармаванні 3-га гвардзейскага лёгкаконнага палка (5 эскадронаў па 2 роты, паспелі сфармаваць 4 эскадроны), які камплектаваўся з добраахвотнікаў - шляхты. У гэты полк запісаліся студэнты Віленскага ўніверсітэта. Штатны расклад палка - 1280 чалавек. У гэты полк залічваліся мужчыны ад 18 да 40 гадоў добрага росту, добраахвотнік павінен быў сам купіць сабе амуніцыю. 3-ці гвардзейскі лёгкаконны полк атрымліваў той жа заробак, што і ўсе гвардзейскія палкі французскага войска. Абмундзіраванне было аналагічным 1-му гвардзейскаму палку польскіх уланаў, аднак прыборны метал формы ўстанаўліваўся не белага а жоўтага колеру. Загадам ад 5 чэрвеня на пасаду камандзіра 3-га гвардзейскага лёгкаконнага палка быў прызначаны генерал брыгады Канопка. 4 жніўня Вайсковая камісія Часовага ўраду прыняла пастанову аб наборы 1000 добраахвотнікаў - шляхты для гэтага палка.

"Кур'ер Літоўскі" ад 24 ліпеня 1812 г. пісаў: *"Больш за 300 выдатных юнакоў з'явілася ў Гародню, дзе генерал Канопка, адзін з герояў Альпухары, ужо амаль што сфармаваў полк Літоўскай гвардыі*".

За фарманне астатніх палкоў Вялікага Княства Літоўскага адказваў Вайсковы камітэт Аляксандра Сапегі (потым камітэт узначаліў Стэфан Грабоўскі). Напрыканцы жніўня Напалеон прызначыў камандаванне войска ВКЛ: генерал дывізіі князь Рамуальд Гейдройц стаў генералам - інспектарам, генералы брыгады граф Ксаверы Несялоўскі - інспектарам пяхоты, Юзаф Ваўжэцкі інспектарам кавалерыі. Яны склалі штаб войска. Літоўскія палкі не ўваходзілі ў склад польскага войска, а падпарадкоўваліся свайму кіраўніцтву, якое ў сваю чаргу падпарадкоўвалася ў вайсковым плане Галоўнаму штабу Вялікай арміі. Па адміністрацыйнай частцы, войска кіравалася Вайсковым камітэтам, за выключэннем гвардзейскага палка



***Ян Канопка (1775-1814)***

Канопкі, які быў часткай Імператарскай гвардыі і насіў французкую трохкаляровую кукарду з белым рыцарскім мальтыйскім крыжам.

25 чэрвеня 1812 г. Вайсковая камісія Часовага ўраду прыняла пастанову аб наборы рэкрутаў у пяхоту. Неабходна было сабраць у Віленскім дэпартаменце - 3000 рэкрутаў, у Беластоцкім - 1500, у Гарадзенскім - 2500 чалавек, у Менскім - 3000 чалавек, усяго 10000 чалавек. Узрост - 17-34 гады, рост не менш за 2 локці і 12 вяршкоў (140 см), тэрмін прызыву - з 5 па 30 жніўня. 1 жніўня была прынята пастанова, якая рэгулявала набор кавалерыстаў: кожны дэпартамент выстаўляў неабходную колькасць уланаў, забяспечваў іх коньмі ва ўзросце ад 5 да 8 гадоў, замест каня можна было заплаціць 500 злотых. Дэпартаменты былі павінны прызваць: Віленскі - 1327 чалавек, Гарадзенскі - 966 чалавек, Менскі - 1307 чалавек, Беластоцкі - 370 чалавек. Усяго - 4000 кавалерыстаў, узросту 18-36 гадоў, рост не меней за 2 локці і 12 вяршкоў (140 см) , тэрмін набору - з 11 жніўня па 25 верасня. Адзін цал-

кам укамплектаваны кавалерыст выстаўляўся з 75-ці дамоў уладальнікаў усіх саслоўяў. Сярод патрабаванняў да рэкрутаў было і патрабаванне, каб яны былі мясцовымі, выпрабаванымі людзьмі .

Тэрмін службы ва ўсіх відах узброенных сілаў - 6 гадоў. Вялікая ўвага звярталася на добрыя адносіны да жаўнераў з боку афіцэраў. Абшарнікі, адпускаючы рэкрутаў на службу, абяцалі, што калі жаўнеры будуць добра служыць, даць ім па вяртанні дахаты, зямельны надзел у маёмасць. Кожнаму жаўнеру выдаваўся паёк: 1,5 фунты хлеба, 0,5 фунта мяса, крупы, 0,1 фунта солі, 0,5 кварты гарэлкі (600 г.), на кожнага каня 2 гарнцы аўсу (10 кг.), 10 фунтаў саломы і сена (4 кг.) Збор рэкрутаў праводзіўся хутка і ўжо пад канец ліпеня, меней чым праз тыдзень пасля ўказу пра набор, войска налічвала 24000 чалавек. Да сярэдзіны верасня палкі былі амаль што цалкам укамлектаваны.

Палкі фармаваліся ў наступных пунктах: 18-ы полк пяхоты - Вільня, 19-ы полк пяхоты - Расіены, 20-ы полк пяхоты - Слонім, 21-ы полк пяхоты - Беласток, 22-ы полк пяхоты - Менск, 17-ы полк уланаў - Купішкі, 18-ы полк уланаў - Нясвіж, 19-ы полк уланаў - Наваградак, 20-ы полк уланаў - Пінск.

13 чэрвеня былі прызначаны палкоўнікі: 18-ы пяхотны полк узначаліў Аляксандр Хадкевіч, 19-ы пяхотны полк - Канстанцін Тызенгаўз, 20-ы пяхотны полк - Адам Бішпінг, 21-ы пяхотны полк - Кароль Пшаздэцкі, 22-ы пяхотны полк - Станіслаў Чапскі, 17-ы полк уланаў - Міхал Тышкевіч, 18-ы ўланскі полк - Юзаф Ваўжэцкі, 19-ы ўланскі полк Канстанцін Раецкі, 20-ы ўланскі полк - Ксаверы Абуховіч. У канцы жніўня Юзаф Ваўжэцкі быў прызначаны інспектарам кавалерыі і атрымаў чын генерала брыгады, таму камандзірам 18-га ўланскага палка стаў Кароль Пшаздэцкі. А 21-шы пяхотны полк узначаліў палкоўнік Антоні Гелгуд.



Wojsko litewskie. Od lewej: ułani z 19. i 17. pułku ułanów z 1812 r.
(Autor: Samanta Glińska)

***Літоўскае войска. Злева направа - уланы 19-га (Наваградак) і 17-га (Купішкі) палкоў уланаў 1812 г. Аўтар Саманта Глінская.***



Wojsko litewskie. Od lewej: piechur 19. pułku piechoty w kożuchu, podoficer 20. pułku piechoty, gwardzista narodowy z Wilna z 1812 r.
(Autor: Krzysztof Komaniecki)

***Літоўскае войска. Злева направа - пехацінец 19 палка пяхоты ў кажуху (Расіены), падафіцэр 20-га палка пяхоты (Слонім), нацыянальны гвардзеец з Вільні ў 1812 г. Аўтар Крыштаф Каманецкі.***

Палкоўнікі павінны былі быць з багатых радоў і мець традыцыйна добры ўплыў на жыццё краю, што дадавала веры жаўнерам і палягчала мабілізацыю, таксама яны часткова бралі на сябе і фінансаванне сваіх палкоў. Для шыхтавання рэкрутаў і агульнага ваеннага кіраўніцтва ў кожным палку быў прызначаны маёр, які меў баявы досвед.

Паводле пасляваенных падлікаў расейскага гарадзенскага губернатара, з губерні ў войска пайшло каля 6400 чалавек, з іх па пастановах аб мабілізацыі - 2495 чалавек у пяхоту і 1103 у кавалерыю, астатнія былі дабраахвотнікамі.

Фармаванне войска ішло не толькі з хрысціянскага насельніцтва. У № 60 "Літоўскага кур'ера" была надрукавана адозва Вайсковага камітэта ад 2 жніўня "Да літоўскіх татар", дзе яны заклікаліся фармаваць нацыянальныя аддзелы дзеля абароны супольнай Бацькаўшчыны. Амаль што за асабісты кошт пачаў фармаваць татарскія аддзелы, падпалкоўнік Мустафа




***Афіцэр эскадрона літоўскіх татар Імператарскай гвардыі паводле манускрыпта Маркальсхайма***

Мурза Ахматовіч, які 23 кастрычніка ў № 86 "Літоўскага кур'ера" надрукаваў адозву да адзінаверцаў. Ахматовічу дапамагалі капітаны Мурза Карыцкі і Самуэль Улан. Сваіх афіцэраў Ахматовіч разаслаў да татараў Лідскага, Ашмянскага, Наваградскага, Менскага, Ковенскага паветаў для набору жаўнераў. Але Ахматовіч паспеў сфармаваць толькі адзін эскадрон, які ў якасці вышуковага ўліўся ў склад гвардзейскага палка Канопкі.

Загадам ад 1 чэрвеня Напалеон распарадзіўся стварыць народную гвардыю ў Вільні і зацвердзіў яе штат: штаб - 22 чалавекі (6 афіцэраў, 2 унтар-афіцэры, 3 рабочыя, 2 медыкі, 9 музыкантаў), 2 батальёны (1450 чалавек) па 6 рот (у кожнай - 3 афіцэры, 14 унтар-афіцэраў, 2 барабаншчыкі, 100 шарагоўцаў, усяго - 119 чалавек). У гарадах якія раней мелі Магдэбургскае права таксама стваралася Нацыянальная гвардыя з уладальнікаў маёмасці - купцоў, рамеснікаў і г.д. У Гародні нацыянальную гвардыю ў складзе 2 рот (290 чалавек) узначаліў Шастакоўскі. У Лідзе, як і ў большасці іншых гарадоў, стварыць гвардыю не паспелі, аднак камендантам лідскай нацыянальнай гвардыі быў прызначаны гараджанін Матусевіч (адступіў разам з французамі і на пачатку 1813 г., як службовая асоба атрымаў з імператарскай касы 300 злотых).

Служба ў нацыянальнай гвардыі была абавязковая для ўсіх гараджан мужчынскага полу, якія мелі маёмасць: уладальнікі дамоў і іншай нерухомасці, купцы і рамеснікі ўзростам з 18 да 50 гадоў, якія не пайшлі на службу ў Літоўскае войска. Трэцяя частка гвардзейцаў атрымлівала вайсковае абмундзіраванне за кошт горада, астатнія куплялі за асабісты кошт. Зброя была часткова французкая, часткова - трафейная, расейская. Раз на тыдзень афіцэры павінны былі праводзіць абучэнне сваіх гвардзейцаў .

Нацыянальная гвардыя ВКЛ прызначалася для забеспячэння парадку ў гарадах і аховы важных дзяржаўных і ваенных аб'ектаў, ўдзел у баявых дзеяннях яна амаль што не прымала, за выключэннем віленскай, якая бараніла ў снежні 1812 года свой горад ад рускага войска.

23 ліпеня Камісія Часовага Ўраду Вялікага Княства Літоўскага прыняла распараджэнне пра сфармаванне корпуса жандараў. У кожным дэпартаменце прызначаўся начальнік жандармерыі ў чыне палкоўніка, пры палкоўніку былі старшыя афіцэры ў чыне эскадронных шэфаў - па два у Віленскім і Менскім, па аднаму у Гарадзенскім і Беластоцкім дэпартаментах. У кожным дэпартаменце фармавалася адна рота жандараў. Роты камплектаваліся з шляхты, афіцэры прызначаліся Камісіяй Часовага Ўраду. Афіцэрам грошы не плаціліся, а шарагоўцы мелі заробак у 1 злот, абмундзіраванне куплялася за свае грошы. Жандары насілі сінія мундзір і райтузы, памяранцавы шалік аксельбанты, чорны ківер з латуневай бляхай на якой напісана: "Жандар", скураныя партупею і ладунку на якой змешчаны герб "Пагоня". Хутчэй працэс фармавання жандарскіх рот ішоў у заходніх частках Княства. Так, па паваенным данясенні рускага грамадзянскага губернатара Гародні штаты жандарскіх рот у Гарадзенскім дэпартаменце былі ўкамплектаваны з разліку па 107 чалавек у роце, а ўсяго - 856 чалавек. Менская жандармерыя ж налічвала ўсяго 71 чалавек і 19 коней,



***Апалчэнцы (кантаністы) ВКЛ. 1812 г. Аўтар Крыштаф Каманецкі.***

г.зн. 6,6% ад штатнага складу. Усяго колькасць копуса жандараў складала 1800 - 1900 чалавек замест меркаваных 3541 (10 старэйшых афіцэраў і 33 роты па 107 чалавек). Палкоўнікамі былі прызначаны: у Віленскі дэпартамент Антоні Храпавіцкі, у Гарадзенскі дэпартамент князь Міхал Радзівіл, у Менскі дэпартамент Леў Оштрап, у Беластоцкі дэпартамент Франц Арсеці.

12 жніўня было вырашага сфармаваць 6 егерскіх (стралецкіх) батальёнаў па 6 рот, у кожнай роце па 9 афіцэраў і унтар-афіцэраў і 130 шарагоўцаў. Для фармавання гэтых батальёнаў Вайсковая камісія вырашыла мабілізаваць 2/3 усіх ляснічых Княства, якія не праходзілі дадатковага шыхтавання, бо па сутнасці гэта была ірэгулярная пяхота. Егерам выдавалася зялёнае абмундзіраванне. Зброя - ружжо і сякера. Акрамя харчавання кожнаму жаўнеру плацілі 10 грошаў. Абмундзіраваны яны былі ў зялёную сярмягу з зялёным каўняром і адваротамі, суконныя порткі, скураныя боты і шапку. У верасні было вырашана ўліць гэтыя батальёны ў склад рэгулярнага войска, у лістападзе з іх пачалі фармаваць два егерскія палкі па тры батальёны, аднак паспелі сфармаваць толькі адзін полк з 1-га і 2-га батальёнаў пад камандаваннем Касакоўскага. 3-ці батальён Плятэра так і не быў уведзены ў склад егерскага палка і да снежня працягваў фармаванне ў Віленскім дэпартаменце. У Гарадзенскім дэпартаменце фармаваўся 4-ты батальён на чале з маёрам Курчэўскім, але да снежня 1812 г. завяршыць яго арганізацыю не паспелі, 5-ы і 6-ы засталіся толькі на паперы. У Гарадзенскім дэпартаменце налічвалася 108 стралкоў, у Лідскім - 84, у Берасцейскім - 20, а ўсяго разам - 212 чалавек .

Ігнат Манюшка атрымаў дазвол сфармаваць за свой кошт кавалерыйскі полк, і 22 верасня ў "Літоўскім кур'еры" была надрукавана ягоная адозва, полк атрымаў назву 21-га коннага-егерскага. Камандзірам палка стаў сам Манюшка, які атрымаў чын падпалкоўніка. Рудольф Тызенгаўз пры дапамозе капітана Кастравіцкага за свой кошт сфармаваў у Вільні батарэю коннай артылерыі. Яна налічвала 124 чалавекі і 131 каня і павінна была атрымаць на сваё ўзбраенне 12 гармат, потым гэтая батарэя была ў складзе войск Княства Варшаўскага.

Асабіста для Імператара пад кіраўніцтвам князя Агінскага была сфармавана Ганаровая гвардыя з 20 маладых шляхціцаў самых вядомых родаў Літвы, гэтая варта суправаджала Напалеона ў Маскву.

Для забеспячэння харчаваннем, былі створаны вялікія склады ў Лідзе і Навагрудку. 8 жніўня Часовы ўрад загадаў стварыць харчовыя склады ў Скідалі, Шчучыне, Беліцы і Турцы, кожны на 10000 порцый. 13 жніўня гэтае распараджэнне было зменена, вырашана павялічыць запасы ў Гародні, Лідзе, Наваградку, а ў іншых складах мець сена, салому, гарэлку і жывую жывёлу.

## Песня ўланаў Тышкевіча, 1812 г.

**17 полк Літоўскай кавалерыі**

***(Са збораў Івана Луцкевіча)***


[illegible] tam żołnierze, czy to nie ułani?
Wszyscy hoże chłopcy, bogato ubrani.
Ułani, ułani siwe konie macie
Przystanę ja do was jednego mi dacie
Uważay mospanie co za figura,
A co za męstwo, co to za postura
Stoją po kwaterze, lub też na komendzie
Szanują Ułanów Tyszkiewicza wszędzie.
On szkody nie robi i krzywdy nie dzieje
Przystać do nich muszę, [illegible]
Gdy z koni zsiadają ostrogami brzęczą,
A za nimi dziewczęta stadami latają.
Dziewczę umierało jeszcze się pytało
Czy na tamtym świecie są ułani jeszcze
Dziewczyno, dziewczyno, co się tobie plecie
I cóż ci po ułanach, bo na tamtym świecie!
Bo na tamtym świecie każdy miłością pała
Tyszkiewicza ułanów ja będę kochała.

Piosnka ułanów Tyszkiewicza 1812 r.
[illegible]

Ze zbiorów Jana Łuckiewicza.

Што там за жаўнеры, ці ж гэта не ўланы?
Гожыя ўсе хлопцы, пышна паўбіраны.

Уланы, уланы, сівых коней многа,
Я да вас прыстану, як дасце такога.

Ты зважай, васпане, што там за пастава,
Ну а што за мужнасць, ну а што за слава.

Стануць на пастоі, ці там на кватэры,
Тышкевіча ўлана любяць тут без меры.

Крыўды ён не ўчыніць і не зробіць шкоды,
Я да іх прыстану і пайду ў паходы.

Як зсядаюць з коней, звякаюць астрогі,
А дзяўчаты гуртам следам ва ўсе ногі.

Памірала дзеўка, аб адным пытала,
А ці б на тым свеце ўлана не спаткала.

Дзеўчына-дзяўчына, вось душа адлеце,
Што ўжо з тых уланаў ды на там-тым свеце?

- І на там-тым свеце, вам хачу сказаці,
Тышкевіча ўланаў буду я кахаці.

*Пераклад Станіслава Судніка.*

## Ліда і лідзяне

Не гледзячы на цяжкасці, насельніцтва радавалася.

Геніяльны паэт Адам Міцкевіч, успамінаючы ў сваім "Пане Тадэвушу" 1812 год, пісаў:

*"Хапае моладзь зброю - стрэльбы і ягдташы,*
*А маткі паўтараюць чутае з амбона:*
*"З Напалеонам Бог, і нам - з Напалеонам!"*

Ва ўспамінах самога Міцкевіча, яго сяброў і



***Улан ВКЛ***

аднагодкаў захаваліся надзвычай яркія карціны настрояў і чаканняў, звязаных з Напалеонам. Напалеона ў нас чакалі, можа быць яшчэ больш горача, чым у свой час у Варшаве.

Паўстанец 1863 г. М. Нарбут у сваіх мемуарах "Ліда і Лідзяне" пісаў: *"Пад час уваходу ў 1812 годзе ў Літву французаў, амаль уся тагачасная маладая шляхта Лідчыны аб'ядналася пад айчыннымі харугвамі. Некаторыя вярнуліся пакрытыя ранамі, іншыя палеглі ў бітвах, а былі і такія, як Каспер Длускі, якія падаліся потым у Амерыку і там біліся за свабоду. Длускі, вярнуўшыся з Амерыкі паранены, стаў ксяндзом. Быў пробашчам у Наваградку, а ў 1831 годзе пакінуў месца пробашча і, як каплан мясцовага аддзелу паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кашыца, сеў на каня. Потым эміграваў з польскім войскам у Францыю. У 1855 годзе пасля амністыі вярнуўся дадому, і тут, у Наваградскім павеце, у свайго ваеннага сябра Уладзіслава Брахоцкага - маршалка Наваградскага ..., скончыў свой слынны жыццёвы шлях".*

Дзеля найхутчэйшага стварэння войска Часовы ўрад ВКЛ накіраваў у паветы дэлегатаў "агульна вядомых сваёй верай і патрыятызмам". У паветы: Лідскі, Ваўкавыскі, Наваградскі, Слонімскі быў накіраваны Сегень. У выніку падпрэфект Лідскага павету Скіндар быў адстаўлены, а на ягонае месца прызначаны Райскі. З тэрыторыі Лідскага павету рэкруты ў асноўным ішлі ў два палкі - 20-ты полк пяхоты Адама Бішпінга з штабам у Слоніме і ў 19-ты полк уланаў Канстанціна Раецкага са штабам у Наваградку. Стварэнне гэтых палкоў ішло дастаткова хутка. 20-ты полк пяхоты потым меў найвялікшую колькасць жаўнераў з усіх літоўскіх палкоў, а полк Раецкага быў гатовы ваяваць ужо ў кастрычніку. Адным з галоўных арганізатараў палка ўланаў быў стары воін, капітан Ксавэры Рымша. Для абмундзіравання палкоў па ўсяму краю вышуквалася сукно, скура і г.д. Таксама лідзяне паступалі на службу ў кавалерыйскі гвардзейскі полк генерала Яна Канопкі, у егерскі батальён, створаны з былых ляснічых, у батарэю коннай артылерыі Рудольфа Тызенгаўза і ў жандармерыю якую ў Гарадзенскім дэпартаменце ўзначальваў Міхал Радзівіл .

Ігнацы Яцкоўскі ў сваёй кнізе "Аповесць з майго часу", якая доўгі час лічылася мемуарнай, апісаў некалькі эпізодаў с жыцця 19-га ўланскага палка ў Наваградку якім кіраваў палкоўнік Канстанцін Раецкі: *"....ніхто больш удала за Раецкага не мог быць прызначаным на палкоўніка, бо фізічна ён адпавядаў усім патрабаванням, неабходным для рыцара: фігура стройная і здароўе жалезнае. З маральнага пункту гледжання - гэта быў персаніфікаваны розум, які не ведаў аніякае слабасці, аніякага хвалявання; гонару быў незвычайнага, але без абразы для іншых, бо ні з кім не быў запанібрата і ніколі не выказваў свайго меркавання, хоць такое меў, што даказваў не словамі, а справаю. Замкнуты ва ўласнай шкарлупіне, не меў ані зацятых непрыяцеляў, ані шчырых сяброў...".*

Пра памочніка Раецкага капітана Рымшу: *"Рымша гэткі ж самы ганарысты, толькі ад прыроды кплівы, ці неасцярожны, як жыхар павету ведаў Раецкага з дзяцінства; давёўшы сваю мужнасць і цвярозасць розуму ў папярэдніх кампаніях, думаў, што возьме верх над сваім новым палкоўнікам, і сам ... будзе камандзірам палка, пакідаючы тытул Раецкаму. Але апошні адразу разгадаў намеры і на першай нарадзе паказаў столькі ведання палкавое гаспадаркі, што Рымша ў той жа момант зразумеў, што мусіць быць падначаленым".*

Раецкі набіраў афіцэраў і ад'ютантаў, не раячыся з Рымшам. Было шмат ахвочых уступіць у полк і нават маладыя сяляне ахвотна станавіліся ў шэрагі. Яцкоўскі апісвае навучанне шыхту якое праводзіў капітан Рымша перад першым аглядам свайго палка палкоўнікам:

*"Рымша на досвітку сабраў на пляцы сваіх добраахвотнікаў у старасвецкіх кабатах, капотах і сярмягах; а ва ўсім невялікім мястэчку* (Наваградку - *Л.Л.*) *адразу стала вядома, што будзе вайсковы парад... Рымша, расставіўшы сваю каманду ў дзве шарэнгі і скамандаваўшы: "Направа!", "Налева!", "Крок наперад!", "Крок назад!" - што не лёгка было выканаць згодна, стаў пасярэдзіне і закрычаў:*

*- Увага, полк! Як прыйдзе камандзір .... і запытаецца: "Як маецеся, дзеці?", адказвайце: "Здароўя жадаем камандзіру!" Потым - апусціць рукі малым пальцам да бёдраў (па-польску)! А тым часам у шарэнгах адзін другога штурхалі локцямі і пыталіся: "А што гэта ён кажа?"*

*Зразумеў Рымша, што слова "бядро" незра-*

*зумелае для большасці ліцвінаў. Дык сам становіцца перад фронтам, энергічна апускае рукі і крычыць:*

*- Вось так! Малыя пальцы да клубоў! Не кланяцца нікому, стоячы ў шарэнзе! Не здымаць шапак! Разумееце цяпер?*

*А тут, як наперакор, прынамсі, чацвёртая частка навічкоў, мяркуючы, што інструкцыя скончаная, змяніла паставу і, хапаючыся за шапкі ды нізка кланяючыся, адказала:*

*- Разумеем, дабрадзею!*

*- Стаяць! Стаяць! - крычыць камендант. - А што ж я вам сказаў?*

*- А пан сказаў "не надзімаць" шапак, - адазваліся тыя, каго ён лаяў.*

*- Ціха! Зважай! Аніякіх у шэрагу размоваў! Няхай у вас пярун лясне, калі не разумееце па-польску! Стаяць проста, вось так!*

*І зноў выпрастаўся:*

*- Не кланяцца і не знімаць шапкі! Рукі прыціснуць да клубоў!*

*Але не было ўжо часу праверыць яшчэ раз гэтыя каманды, бо з Базыльянскае вуліцы ішоў палкоўнік.... Палкоўнік, выступіўшы наперад, выгукнуў, як прадказваў Рымша: "Як маецеся, дзеці?" Але няшмат хто памятаў інструкцыю і адказаў: "Жадаем здароў'я камандзіру!" Большасць, схапіўшыся за шапкі, закрычала: "Няхай будзе пахвалёны Хрыстус!" альбо "На векі вякоў. Аман"....*

*Палкоўнік, нібыта не зважаючы на неналежныя паводзіны, якія ў хуткім часе выправяцца, і не камандуючы: "Крок наперад!", "Крок назад!" - пачаў іх аглядаць з фронту. А заўважаючы людзей са сваіх вёсак, якія стаялі ў адной або другой шарэнзе, пытаўся: "А ты, Юрка, што тут робіш? І ты, Яська, тут? А ці не пойдзеце дадому сваю раллю араць? Гляньце, і яны сабраліся на вайну! Ідзіце мне зараз жа дадому!" І больш за дзесятак падобным чынам настрашаных, названых па імёнах са смуткам пакінулі шарэнгі. Закончыўшы на гэтай селекцыі ўвесь свой агляд, ... дадаў, каб выказаць сваю павагу: "Дзякую пану, пан капітан, усё ў парадку, няхай жа іх пан муштруе".*

Яцкоўскі апісвае жарт, які ўчынілі аднапалчане над сваім баявым таварышам, лідскім шляхціцам: *"У двары Гнаінскіх, які знаходзіўся насупраць францішканскага кляштару, ... месцілася каля трох дзесяткаў маладых людзей, сярод якіх быў ... Багушэвіч, юнак з шляхетнае сям'і з Лідскага павету, флегматычнага тэмпераменту, таўсматы; ён вельмі любіў навуку. Аніішто пустое яго не цікавіла, і калі іншыя вечарам бавіліся картамі альбо шклянкаю, ён распранаўся, клаўся ў свой ложак ды браў у рукі кніжку, досыць значную колькасць якіх меў з сабою, і чытаў, пакуль не засынаў. ...*

*Меў ён слугу, які чысціў яму адзенне і складваў у парадку, а прачытаныя кніжкі забіраў у клункі.*

*Пэўнага ранку прыходзіць аднаму з калегаў - Міхалу Корбуту - ідэя пажартаваць з Багушэвіча. Дык паклікаўшы шарагоўца Янкоўскага, які быў па прафесіі краўцом ..., шапнуў яму, каб завузіў Багушэвічу порткі і мундзір, хутка сфастрыгаваўшы швы па баках. ... Калі гэта зрабілі, дык пра ідэю адразу расказалі іншым калегам, каб пераконваць Багушэвіча, што ён апух... . І дамовіўшыся, у адпаведнасці з гэтым планам, самі ўдаючы сонных, штурханулі Багушэвіча, каб ён прачнуўся.*

*Багушэвіч, першы раз у сваім жыцці прачнуўшыся, як яму здавалася, вельмі рана, помсцячы за даўнейшыя жарты і турботы, пачаў будзіць іншых, каб уставалі, і кожны абуджаны, нібы спрасонку, праклінаў Багушэвіча, што іх непакоіць, але адзін за другім, як бы нехаця падняўшы на яго вочы, крычалі:*

*- Што з табою, Богуш? - Бо гэтак яго коратка называлі. - Як ты апух!*

*І зноў клаліся спаць.*

*Багушэвіч, якога ўжо столькі разоў раней падманвалі, лічыў гэта за жарт і не верыў гэтаму, бо адчуваў сябе як найлепей (і) ... праз нейкую хвіліну гукнуў лёкая, каб даваў яму апранацца.*

*Той, не ведаючы нічога пра змову, у прастаце душы, падстаўляе яму, як гэта называлася ў той час, панталоны, але нага толькі да паловы ўлазіць, а далей не ідзе.*

*- Што гэта такое, Янку, - закрычаў спалоханы Багушэвіч. - Ці я не апух? ...*

*- Пакажы мне, ці гэта не чужыя?*

*А пабачыўшы на падкладцы ўласнаю рукою напісанае сваё імя і прозвішча, упаў на ложак і абліўся потам. Лёкай, які быў моцна прывязаны да свайго пана, трымаючы ў руках тыя няшчасныя порткі, не спускаў з яго вачэй. Урэшце ўстрывожаны пан жаласна закрычаў:*

*- Янку, я захварэў, кінь тое, што трымаеш у руках, і бяжы па доктара.*

*Што ён не трацячы часу і выканаў.*

*Усю тую размову чулі, нібыта сонныя, маладыя свавольнікі і толькі тады адзін за другім, нібы абуджаючыся, пытаюцца:*

*- Што з табою, Богуш?*

*Але Багушэвіч ні слова не адказваў ім на гэта, толькі цяжка ўздыхаў. ...*

*- Ці ж вы не бачыце, што я захварэў?*

*- Які ты там хворы! - кажуць іншыя. - Аб'еўся ўчора, а сёння на муштру ісці не хочаш!*

*На гэты закід Богуш не адказаў.*

*А тут і доктара прывёў запыханы лёкай. Той, наблізіўшыся да пацыента, пытаецца ў яго паважна:*

*- Што з панам такое?*

*Багушэвіч адказвае:*

*- Я сам не ведаю, але мне здаецца, што гэта вадзянка.*

*- Хто гэта пану сказаў? - пытаецца доктар.*

*А ён яму на гэта:*

*- Навошта пытацца пра тое, што відаць.*

*Доктар пытаецца, ці баліць яму што. Маркотны Багушэвіч адказвае, што нічога.*

*Доктар лічыць яму пульс, пульс - добры. Дык пытаецца яго зноў:*

*- Што ж дало повад думаць, што гэта вадзянка? Ці не саснілася яму гэта?*

*- Дзе там саснілася! - адказвае Богуш. - Дык жа ногі так апухлі, што не лезуць у порткі.*

*- Пакажы ж мне, пан, свае ногі.*

*Богуш, асцярожна адхіліўшы коўдру, выстаўляе сваю мясістую лытку. А тут ужо ўсе калегі абступілі ложак пацыента і пераконваюць, што Богуш прыкідваецца. Доктар паціскаў пальцам у нагу і кажа, што цела здаровае, а Богуш сцвярджае іншае.*

*Тым часам Янкоўскі, уціснуўшыся паміж гледачамі, выцягнуў нітку з аднае і другое калашыны і паклаў порткі на ранейшае месца. Доктар, раззлаваны ... кажа:*

*- Хто пана ўпаўнаважыў тэрмінова падымаць мяне і весці сюды, калі не было прычыны?*

*Багушэвіч тлумачыць, што ён апух, і што ягоныя ногі не лезуць у порткі.*

*Доктар заяўляе, што хацеў бы гэта пабачыць, а пацыент стаіць на сваім, што і спрабаваць няма чаго, бо ён упэўнены ў сваёй апухласці. Нарэшце, каб пераканаць доктара ў факце, кліча Янку:*

*- Падай порткі!*

*Янка зноў іх падставіў яму, але - О! дзіва! - улезлі ў іх ногі без аніякае цяжкасці. Богуш крычыць:*

*- Янку, што гэта такое?*

*Янка адказвае:*

*- Я не ведаю, пане.*

*- Аднак жа ногі раней не лезлі?*

*- Не лезлі, пане.*

*Доктар, страціўшы цярпенне кажа:*

*- Пане, пан з мяне пажартаваў, а я ў пана не заслужыў на гэта. Дык заяўляю пану, што буду скардзіцца на яго палкоўніку.*

*Калегі бяруць на сябе ролю пасярэднікаў і націскаюць на Багушэвіча, каб заплаціў доктару і захаваў сакрэт. Богуш, які не мог зразумець, што з ім сталася, дастаў дукат, упіхнуў доктару ў руку і, калі той адыходзіў, самым пераканаўчым чынам яго запэўніў, што гадзіну таму насамрэч быў апухлы.*

*Пасля таго, як доктар выйшаў, - калегі ў смех і сцвярджаюць, што Богушу апрыкла ўжо вайсковая служба, і ён хоча вызваліцца ад яе, выдумаўшы сабе хваробу. Але той, засмучаны, не адказвае, спяшаецца з туалетам, каб як хутчэй пазбыцца калегаў. Моўчкі памыўшыся і выцершыся, ён напаўголаса кліча Янку, каб падаваў яму мундзір. Янак падае мундзір, але, уздзеўшы, той не хоча зашпіляцца ні якім спосабам. Дык Богуш крычыць:*

*- Янку! Што тут за халера? ...*

*Але цяпер ужо, узяўшыся той мундзір уважліва разглядаць, абодва разам выкрылі нітку-фастрыгоўку, што звужала шво на плячах. Толькі цяпер раз'яснійся твар Богуша, пачаў ён смяяцца разам з іншымі, бо не быў запальчывы, і кіраваўся больш непакоем пра ўласнае здароўе, каб мог служыць Айчыне, чым якою помстаю ...*

*... праз два гады шмат хто з тае самае моладзі, ужо ў чыне афіцэраў, пасля завяршэння вайны, вярнуўся дадому аздоблены крыжамі. Між імі быў і Багушэвіч, бо даказаў пры нагодзе, што мог быць мужны, і яго любілі ўсе калегі" .*

15 жніўня ва ўсіх беларускіх гарадах былі зладжаны ўрачыстасці з нагоды дня нараджэння Напалеона. Пра святкаванні у Лідзе пісаў "Kurier Litewski" № 68, 1812: *"15 жніўня дзень нараджэння і тэзаімянінства Яго Імператарскай Вялікасці, Найусеміласцівага Імператара і Караля Вялікага Напалеона, быў адсвяткаваны ў нас у Лідзе з пышнасцю, прыстойнай нашага вялікага збаўцы. Словы, вымаўленыя гэтым Манархам, што ён уступае ў зямлю Ягелонаў, каб вызваліць яе ад ярма рабства, абудзілі ў жыхарах Літвы самыя шчырыя пачуцці адданасці, падзякі, павагі, пакланення і здзіўлення. Пачаўся і скончыўся гэты знамянальны дзень наступным чынам:*

*У 10 гадзін раніцы, падпрэфект Лідскага павету, Ігнацы Скіндар, акружаны абывацелямі і мясцовымі службоўцамі розных ведамстваў, адправіўся з прэфектуры ў Фарны касцёл для прынясення самых гарачых малітваў Каралю Каралёў за цуд, створаны Яго творчай правіцай для нашай Радзімы.*

*Шматлікія дамы занялі ў касцеле пярэднія месцы, а натоўп простага народу напоўніў бакавыя прыдзелы. Па знаку, дадзенаму гарматным стрэлам, у Касцёл увайшоў атрад размешчанага ў горадзе 14 палка фузілераў і пашыхтаваўся пасярэдзіне касцёла ў два шэрагі. Прыгожы выгляд жаўнераў і іх пакорлівыя паводзіны перад алтаром Усявышняга расчулілі ўсіх прысутных, якія ўжо больш за дваццаць гадоў не бачылі свайго войска.*

*Пасярэдзіне храма быў усталяваны транспарант з вензелем Найусеміласцівага Імператара і Караля з надпісам пад вензелем: "Magne Cesar! Vive diu felix locuplexque omnium prosperitatum".*

*Пасля другога гарматнага стрэлу пачалася абедня, якую служыў, са шматлікім клірам, Станіслаў Нарбут, канонік Смаленскі і ён жа пробашч Косаўскі. Падчас набажэнства патрыятычную і адпаведную акалічнасцям прамову сказаў ксёндз Гаўлоўскі, прафесар мясцовай вучэльні піяраў.*

*Пасля блаславення Св. Дароў, пасля трэцяга гарматнага стрэлу, атрад войска выйшаў з касцёла і пашыхтаваўся на могілках, дзе Вікенці Нарбут, канонік Інфлянцкі, пробашч і дэкан Лідскі, са шматлікім клірам праспявалі "Te Deum", пад бесперапынны салют з гармат і ручной агнястрэльнай зброі. Пасля Набажэнства ўсе прысутныя былі запрошаныя на абед да падпрэфекта.*

*Увечар, на шырокай Віленскай вуліцы была бачна трохкантовая піраміда, упрыгожаная шматлікімі агнямі.*

*На пярэднім боку яе гарэў транспарант з вялікім вензелем Імператара і Караля, унізе быў надпіс: "Найяснейшаму, Магутнейшаму, Непераможнаму Герою, Імператару і Каралю, Вялікаму Напалеону, свайму Збаўцу, зямля магутных некалі Ягелонаў, вызваленая яго магутнай правіцай, жніўня 15 дня 1812 г.".*

*На паўночным баку піраміды, на транспаранце, было чатырохрадкоўе наступнага зместу:*

*"За нашу Айчыну велікадушны мсцівец,*
*Ганарлівай Поўначы магутны пераможца,*

*Хай польскі Арол і Літвы Пагоня*
*Служаць тваім намерам, Напалеон!"*

*На трэцім баку піраміды, звернутай да сцен старажытнага замка, якіх не маглі разбурыць амаль пяць стагоддзяў, быў вершаваны надпіс:*

*"У нашых мурах племя Ягелонаў*
*У пятнаццатым стагоддзі*
*атрымлівала перамогі.*
*Калі зараз татары ўварваліся ў Радзіму,*
*Імя ліцвінаў астрашыла ворагаў.*

*Цяпер прыйшоў герой Сусвету*
*Вызваліць вас, мужы, ад кайданаў,*
*Спяшаецеся ж на поле славы,*
*Вярніце сабе зямлю, права і зброю.*

*Тады рака Лідзея цякла крывёй чужакоў.*
*Цяпер з ёю змешваюцца Нёман, Днепр і Дзвіна.*
*Спраўджваюцца надзеі Пагоні,*
*Мінуў час нашага цярпення."*

*Пасля новага гарматнага стрэлу, шматлікія дамы і гараджане, быўшыя на абедзе ў падпрэфекта, адправіліся да піраміды, каб каля яе ўшанаваць таго, каму яна была прысвечана. Падчас агляду раздаваліся воклічы: "Жыве, на многія гады, Імператар і Кароль, Наш Збавіцель" і грукатаў салют з гармат і стрэльбаў. Пасля агляду піраміды і надпісаў, падпрэфект, разам з усімі гасцямі, вярнуўся дахаты, дзе адкрыў баль паланезам.*

*Вясёлыя танцы працягваліся да вячэры, на якой падпрэфект (пад бесперапынны салют з гармат і стрэльбаў) абвясціў тост за здароўе Найусеміласцівага Імператара і Караля. Усе прысутныя па чарзе паўтарылі гэты тост.*

*Асвятленне і ілюмінацыя вуліц ператварала ноч у светлы дзень. Вароты Фарнага касцёла былі хораша ўпрыгожаны зелянінай і агнямі.*

*Пасля вячэры баль у падпрэфекта працягваўся да світанку, а крыкі народа: "Жыве Імператар і Кароль, Вялікі Герай, Наш Збаўца!", - спыніліся толькі з узыходам сонца."* .

У лістападзе падпрэфектам Лідскага павету быў прызначаны Раецкі.

Дадам яшчэ некалькі ваенных біяграфій лідзян:

*Граф* ***Ваўжынец Путкамер*** *(1794-1850), будучы уладальнік маёнтка Больценікі, муж Марылі Верашчакі, маршалак шляхты Лідскага павету ў 1847-49 гг., як раз паспеў у 1812 г. закончыць філасофска - матэматычны факультэт славутага Віленскага ўніверсітэта. Як большасць ягоных сяброў, Ваўжынец запісаўся ў зноў створанае войска Вялікага Княства, у гвардзейскі кавалерыйскі полк генерала Канопкі, а потым у полк лёгкай кавалерыі імператарскай гвардыі Вінцэнта Красінскага. Васямнаццацігадовы юнак быў з войскам Напалеона ў Маскве, выжыў у катастрофе на Бярэзіне. Адступаючы з войскам каля Вільні, заехаў дахаты і тут захварэў тыфам. А калі вылечыўся, вайна ўжо ішла далёка на захад ад дому. Гонар жаўнера і вера ў зорку Напалеона не дазволілі яму адседзецца ў хаце, праз тылы расейскіх войскаў, абмінуўшы казацкія патрулі, ён прабраўся ў Мерач на Нёмане і ў люты мароз перайшоў Нёман, па спустошанаму вайной краю Путкамер ішоў да сваіх. Час ад часу злазіў з каня і, каб сагрэцца, бег побач. Сілы ўжо пакідалі юнака, калі ён сустрэў інспектара дывізіі кавалерыі, які ехаў у Варшаву ў полк Красінскага. Афіцэр падабраў задубелага маладзёна і давёз яго ў полк.*

*Малады вайсковец ваяваў усю кампанію 1813 г., трапіў у прускі палон і пасля амністыі, у 1814 г. вярнуўся дахаты ў чыне паручніка. Напалеон застаўся кумірам Ваўжынца Путкамера да канца жыцця, потым ён часта расказваў: "Вы маладыя, не разумееце, што з намі адбывалася... у нас ускіпела кроў, і мы былі здольныя на усё, калі вялікі чалавек ... у шэрым сурдуце галапіраваў перад фронтам нашага палка і паказваючы на непрыяцеля казаў: "Mes braves et fideles Polonais en avant!".*

*Параза пад Ватэрлоа прывяла Путкамера да гарачкі, а калі ён пачуў пра вяртанне імператара, так званыя "сто дзён Напалеона", дык ужо прыгатаваў свой уланскі мундзір гатовы быў ехаць ваяваць. Нават будучы ў сталым веку ніколі не мог спакойна расказваць пра тыя часы і пра Напалеона.*

*Граф* ***Ігнацы Тызенгаўз*** *(1750-1822), палкоўнік і шэф літоўскай гвардыі, за службу Вялікаму Княству Літоўскаму быў узнагароджаны ордэнамі Белага Арла і Св. Станіслава. Пад час Напалеонаўскай кампаніі атрымаў Залаты Крыж Ганаровага Легіёна. Ва ўладанні графа Ігнацыя, апроч Жалудка і Паставаў з навакольнымі вёскамі і фальваркамі, былі дзесяткі тысяч гектараў зямлі і населеныя пункты з тысячамі сялян у розных паветах. Быў жанаты з Марыяннай Марыяй Пшаздзецкай, меў трох дачок: Юзэфу, Эльфрыду і Эмеранцыю, і двух сыноў - Рудольфа (1783-1830) і Канстанціна.*

*Граф Канстанцін Тызенгаўз нарадзіўся 3 чэрвеня 1786 г. у родавым маёнтку ў мястэчку Жалудок. Верагодна ў 1804 г. паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Любімым выкладчыкам у маладога Тызенгаўза быў знакаміты батанік Станіслаў Баніфацы Юндзіл. Другім вядомым настаўнікам Канстанціна быў выдатны мастак Ян Рустэм, які ў гэты час працаваў ад'юнктам на кафедры малярства.*

*У 1812 г. 19-ты пяхотны полк, які фармаваўся ў Расіёнах, узначаліў 26-ці гадовы палкоўнік граф* ***Канстанцін Тызенгаўз****. Яго брат граф* ***Рудольф Тызенгаўз****, на свае грошы, сфармаваў конна-артылерыйскую роту. Канстанцін Тызенгаўз разам са сваім палком мужна змагаўся пад Вільняй, Кёнігсбергам, прымаў удзел у знакамітай абароне цвердзі Модлін, а потым і ў бітвах у Германіі. У 1813 г. ён быў узнагароджаны Крыжам Ганаровага Легіёна. Вайна для яго скончылася вясною 1814 г. Канстанцін*

*Тызенгаўз спачатку застаўся ў гарадку Клермон, а пасля ўказу аб амністыі Аляксандра І ад 30 жніўня 1814 г., вярнуўся ў Паставы.*

*У гэтым 1815 г. Ігнацы Тызенгаўз падзяліў большую частку сваіх уладанняў паміж сынамі. Старэйшы Рудольф атрымаў Жалудок і бліжэйшыя да яго землі, а Канстанцін - графства Паставы з навакольнымі фальваркамі. Менавіта пры Канстанціне быў дабудаваны Пастаўскі палац Тызенгаўзаў. Паўстанцам 1831 г. дапамагаў матэрыяльнымі сродкамі і супрацоўнічаў з Дзісенскім Урадавым камітэтам.*

*Асноўным заняткам Канстанціна Тызенгаўза сталася заалогія, найперш - арніталогія. Ён з'яўляецца бацькам беларускай арніталогіі .*

*Месцам пахавання К. Тызенгаўза па адной версіі лічыцца родавы склеп у парафіяльным Жалудоцкім касцёле, па другой - крыпта касцёла св. Мацвея ў літоўскім горадзе Рокішкіс.*

## Ваенныя дзеянні

Тым часам з усходу пачалі прыходзіць весткі з Вялікай Арміі пра ўзяцце Масквы і пажары, потым аб надыходзе з поўдня рускай Дунайскай арміі Чычагава, пагрозе Менску і камунікацыям. З паловы лістапада звесткі перасталі прыходзіць, а 28 лістапада, як гром з яснага неба ўсіх ускалыхнула чутка пра адступленне Вялікай Арміі ад Масквы. Пануючым стаў прыгнечаны настрой і страта веры ў перамогу. Па загаду Часовага ўраду на месцах пачалі рыхтаваць фураж і харчаванне для войска, якое, як планавалася, павінна было зімаваць у Літве. Хочучы зрабіць усё, каб неяк змяніць сітуацыю, Часовы урад выдаў ухвалу аб "паспалітым рушэнні", але часу ўжо не заставалася.

Калі з поўдня пачала набліжацца армія Чычагава, галоўныя сілы літоўскага войска: 18-ы, 19-ы, 20-ы, 21-ы пяхотныя, 17-ы, 19-ы, 20-ы ўланскія палкі, 21-ы конна-егерскі полк, 3-ы егерскі батальён і коннаартылерыйская рота, сканцэнтраваліся ў Вільні. Гвардзейскі кавалерыйскі полк Канопкі і татарскі эскадрон дафармоўваліся ў Варшаве. 1-ы егерскі і 22-і пяхотны полк, а таксама частка 23-га пяхотнага і 18-га ўланскага палка, пад камандаваннем генерала Касецкага месціліся ў Менску. Усяго, да сярэдзіны лістапада, не ўлічваючы гвардзейскіх аддзелаў (уланаў Канопкі і татар Ахматовіча), літоўскія войскі налічвалі 18 батальёнаў, 15 эскадронаў, 1 артылерыйскую роту - агульным лікам, разам з жандарамі, 19 000 чалавек - за вельмі малы тэрмін было створана войска, якое па колькасці было роўным войскам іншых саюзных дзяржаваў.

Атрад генерала Касецкага (5 батальёнаў, 4 эскадроны - каля 3500 чалавек) дзеля прыкрыцця, быў накіраваны Менскім губернатарам Бранікоўскім да Новага Свержаня. Тут атрад быў атакаваны войскамі генерала Ламберта, якія колькасна значна пераўзыходзілі атрад Касецкага: раніцай, 13 лістапада, расейскія егеры выбілі Касецкага з занятых пазіцый, на наступны дзень пасля яшчэ адной сутычкі, войскі ВКЛ зноў адышлі (тут 18-ы ўланскі полк супрацьстаяў Жытомірскім драгунам). На працягу 48 гадзін атрад Касецкага быў амаль цалкам знішчаны, рэшта адышла да Менска. Вораг быў значна мацнейшы якасна і колькасна, маладыя, хутка сфармаваныя палкі ВКЛ пакуль што не маглі супрацьстаяць кадраваму войску. Тое ж бачым і ў справе каля Барысава 18 лістапада: палкоўнік Лафіт у сваім рапарце дакладаў аб 2 літоўскіх батальёнах з нізкай дысцыплінай і нізкай баявой загартаванасцю пад час бою .

Гвардзейскі полк генерала Канопкі быў далучаны да 7-га армейскага корпуса Ранье. Гэты корпус спачатку дзейнічаў на Валыні, а потым адступіў на Беларусь. У Слоніме ў 5.00 гадзін раніцы 20 кастрычніка гвардзейскі полк Канопкі быў нечакана атакаваны расейскімі войскамі і разбіты расейскім атрадам генерала Чапліца (28-мы і 30-ты егерскія, Паўлаградскі гусарскі, Данскі казачы Дзячкіна палкі, тры эскадроны Цвярскога драгунскага палка і 13-я конна-артылерыйская рота), які нечакана напаў на Слонім. Гвардзейцы не здолелі ўратавацца і былі разбіты ўшчэнт. Сам Канопка быў паранены дзідаю казачым палкоўнікам Дзячкіным і ўзяты ў палон, у палон таксама трапілі 13 афіцэраў і 253 жаўнеры. Рэшткі гвардзейцаў адступілі, перайшлі па мосце цераз Нёман і спалілі мост. Канопка абвінаваціў у сваім паражэнні мясцовую адміністрацыю і жыхароў, якія не папярэдзілі яго аб надыходзе непрыяцеля. На гэта Чапліц - паляк на расійскай службе - рэзка адказаў, што Канопка сам "змарнаваў полк і згубіў людзей". Пасля перамогі Чапліц адпачываў у Слоніме ў доме Пуслоўскага. Ён хацеў развіць свой поспех і прарвацца праз Беліцу да Ліды, каб *"паспець розныя палкі, якія тут фармуюцца ў розных месцах, знішчыць, таксама і магазіны іх забраць на сваю карысць"*. Аднак Чычагаў загадаў Чапліцу вярнуцца да Ружанаў .

Загадам ад 22 сакавіка 1813 г. гвардзейскі полк Канопкі быў расфармаваны як самастойная частка, а ў ліпені таго ж года, як 7-ы эскадрон быў далучаны да 1-га гвардзейскага польскага палка. Пасля адрачэння Напалеона, 1-шы гвардзейскі полк вярнуўся на дахаты і ўвайшоў у склад войска Царства Польскага як 4-ты ўланскі.

Татарскі эскадрон Ахматовіча таксама панёс вялікія страты пад Слонімам, але потым, у снежні 1812 г., бараніў Вільню. Ад эскадрона засталася адна рота, якая ў 1813 г. у колькасці 3 афіцэраў і 15 жаўнераў была далучана да палка польскіх уланаў Красінскага як 15-я рота, потым, 9 снежня 1813 г. нашы татары былі далучаны да 3-га палка гвардзейскіх разведчыкаў і ў ягоным складзе прымалі ўдзел у апошняй бліскучай кампаніі Напалеона 1814 г.

18-ы і 19-ы ўланскія палкі ахоўвалі пераправу цераз Бярэзіну.

Агульную карціну фармавання палкоў пяхоты войска ВКЛ на канец лістапада дае рапарт падпісаны старшынём вайсковай камісіі генералам Стэфанам

Грабоўскім (*табліца 1*).

Напрыканцы лістапада 1812 г. для забеспячэння камунікацый з войскамі Ранье і Шварцэнберга з Вільні на поўнач былі пасланы тры пяхотныя палкі. 20-ы пяхотны полк заняў Ліду, 21-ы пяхотны полк - Воранава, а трэці полк размясціўся ў Рудзішках .

З 5 на 6 снежня Напалеон перадаў камандаванне войскам аднаму са сваіх лепшых маршалаў Мюрату і ад'ехаў у Францыю ствараць новае войска. 10 снежня ў абароне Вільні разам з французскімі войскамі, прымала ўдзел жандармерыя, нацыянальная гвардыя палкоўніка Казельскага і егеры. Мюрат пакінуў Вільню і пачаў адход на Коўню. Разам з ім сталіцу пакінуў і Часовы ўрад з архівамі.

Прэфект Лідскага павету адступаў разам з часткамі аўстрыйскага войска генерала Мура. Войскі Мура налічвалі 3 батальёны пяхоты пры 7 гарматах і 8 эскадронаў гусараў Хесен-Хомбурскіх. Некалькі дзён аўстрыйцы стаялі для адпачынку ў Беліцы. За войскамі Мура ішлі расейскія войскі ў складзе 4-га корпуса кавалерыі генерал - ад'ютанта Васільчыкава і казацкія палкі генерал - ад'ютанта графа Ажароўскага.

Ажароўскі 3 снежня ў Лідзе напісаў рапарт генерал - ад'ютанту Васільчыкаву: *"Я з атрадам якім непасрэдна камандую, знаходжуся ў горадзе Ліда, маючы два данскія палкі ў мястэчку Беліца, а адзін у Ішчалне. Аўстрыйскі генерал Мур пакінуў Беліцу трэцяга дня і пайшоў па гасцінцы да Гародні, а прыбылы сюды са Слоніма габрэй данёс мне, што там яшчэ знаходзіцца князь Шварцэнберг, але ўсе абозы і лазарэты ён накіроўвае ў Беласток.*

*Я ўчора атрымаў загад спыніцца ў Беліцы. Спадар генерал - лейтэнант Канаўніцын піша, што генерал Тармасаў рухаецца з атрадам генерал - маёра Тучкова ад Менска да Новасвержаня, а Ваша Правасхадзіцельства будзеце з лятучым атрадам знаходзіцца направа ад мяне, у Мастах".*

У палове снежня Ажароўскі арганізаваў паштовую сувязь паміж мястэчкам Каменка і Вільняй, праз Шчучын, Ішчалну, Радзівонішкі, Ліду, Жырмуны, Воранава.

Усім войскам не хапала харчавання, захаваўся рапарт палкоўніка расійскіх драгунаў Дзімітрыя Юзэфовіча ад 1 снежня да генерал-ад'ютанта Васільчыкава: *"Розныя часткі войскаў пачынаюць ужо паміж сабой сутыкацца... . Сёння ў Табарышках размяшчаецца пяхота 6-га карпуса, у дзвюх вёрстах ад мяне прыбыў атрад Юркоўскага, мноства каманд фуражыраў арміі Чычагава, усе наязджаюць адны на другіх ... такія тры каманды сустрэліся мне на дарозе ... не мелі яны пісьмовага дазволу, і я іх запасы адабраў для нашых войскаў. ... заўважыць трэба, што ад Нарвялішак да Вільні наогул ідуць дробныя вёсачкі ... ужо пройдзеныя ... злачыннымі натоўпамі казачых марадзёраў ... . Тым часам вельмі багатая крыніца знаходзіцца ... у абшарніка Умястоўскага, які мае двор у Жэмаслаўлі, валодае ён 10 багатымі фальваркамі".*

Маршалкам Лідскага павету зноў стаў Аляксандр Нарбут, які 26 снежня 1812 г. у Лідзе атрымаў спецыяльны ліст ад камандзіра II кавалерыйскага корпуса генерал-лейтэнанта Панчулідзева, дзе падкрэслівалася, што А. Нарбут "у дні смутнага часу паехаў у свае вёскі, не займаўся ніякімі справамі, зараз жа аказвае войску разнастайныя дапамогі".

4 лютага 1813 г. лідскі спраўнік падаў ваеннаму губернатару Літвы генералу ад інфантэрыі А. М. Рымскаму-Корсакаву рапарт, які, думаю, цікава будзе прывесці тут з невялікімі скаротамі:

*"У выкананне прадпісанняў Вашага правасхадзіцельства ад 21 студзеня за № 542 гонар маю ... данесці:*

*1-е, што разам з атрыманнем гэтага прадпісання прыбылі ў горад Ліду кватараваўшыя перад гэтым у павеце 1-шы і 12-ты запасныя рухомыя паркі артылерыі, якія далей рушылі ў Мерач. [...] ... у горадзе Лідзе застаецца адзін 11-ы запасны рухомы парк, які мае 91 каня і 51 чалавека, яго камандзір, унтар-цэйхвахтар Зейдаль адправіўся ў Вільню для прыняцця дадатковых коней і людзей ... .*

*2-е, аб дастаўленні звестак у Віленскую правіянцкую камісію пра магазіны і прадукты, сабраныя для войска, я паведаміў у часовую камісію Лідскага павету, бо яна з даўняга часу ведае наогул усімі магазінамі і прадуктамі.*

***Табліца 1***

| Палкі пяхоты | Месца фармавання | Стан палка | | | Колькасць адсутных ад штату | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | афіцэры | падафіцэры і жаўнеры | разам | афіцэры | падафіцэры і жаўнеры | разам |
| 18 полк | Вільня | 64 | 1854 | 1918 | 2 | 156 | 158 |
| 19 полк | Расіены | 51 | 1694 | 1745 | 15 | 316 | 331 |
| 20 полк | Слонім | 59 | 2009 | 2068 | 7 | 1 | 8 |
| 21 полк | Беласток | 43 | 1844 | 1887 | 23 | 166 | 189 |
| 22 полк | Менск | 30 | 53 | 83 | 36 | 1957 | 1993 |
| Агулам | | 247 | 7454 | 7701 | 83 | 2596 | 2679 |

З табліцы бачна, што да поўнага штату пяхоты (10 380) чалавек не хапала 2697 жаўнераў. Трэба аднак улічваць, што 22 полк да часу складання табліцы быў ужо разбіты і налічваў толькі 83 чалавекі. Рапарт Грабоўскага мае некалькі рэдакцый, трошкі пазнейшая версія рапарта, паказала змены ў дыслакацыі палкоў пяхоты: 18-ты полк - Салечнікі і ваколіцы, 19-ты полк - Свянцяны і ваколіцы, 20-ты полк - Ліда і ваколіцы, 21-шы полк - Кодзень і ваколіцы, 22-гі полк у дарозе да Вільні .

*3-е, сабраныя мною звесткі аб змешчаных у горадзе Ліда хворых воінскіх чынах, маю гонар прадставіць на разгляд вашага высакароддзя.*

*Земскі спраўнік Кузімовіч".*

У межах Гарадзенскай губерні пасля вайны 1812 г. знаходзілася каля 2 900 ваеннапалонных напалеонаўскай арміі. Палонныя дзяліліся на дзве катэгорыі: улічаныя вайсковымі і цывільнымі ўладамі і тых, хто адстаў пры адступленні "Вялікай арміі" і шукаў выратавання ад голаду і холаду ў мясцовага насельніцтва. Жыхары адносіліся да "французаў" лаяльна. Напрыклад, Лідскі земскі суд 17.11.1813 г. даносіў Гарадзенскаму грамадзянскаму губернатару Ленару, што пры пошуку ваеннапалонных у Лідскім павеце ў маёнтку Крупа (зараз вёска Крупава) памешчыка Казіміра Шукевіча быў знойдзены прускі ўраджэнец Віктар Скляроўскі: *"... знойдзены ў маёнтку Крупа у памешчыка Шукевіча Віктар Скляроўскі, які раней служыў у польскім войску, Шукевіч тлумачыць, што прыняў яго да сябе на жыхарства, таму што, сказаў пра сябе што паходзіць з Прусіі, а ... Прусія знаходзіцца з намі ў саюзе. Такое яго тлумачэнне знаходжу ... марным і не заслугоўваючым ніякай павагі, ... саюз наш з Прусіяй не дае нікому права хаваць у сябе бяспашпартных, ды і думаць яму пра справы такога роду, яго не датычныя, не варта ..., а павінен быў выконваць тое, што ад начальства неаднаразова патрабавалася ... прыкладаецца пры гэтым у арыгінале яго тлумачэнне. Прашу Вашае правасхадзіцельства загадаць ў прыклад іншым аштрафаваць яго за ўтрыманне названага ... Скляроўскага на 200 рублёў ..."* .

Антоні Грымайла-Прыбытка ў артыкуле "Год 1812 у павеце Лідскім" напісаў: *"Край аддадзены на ласку ворага аплакваў свае мары і надзеі і чакаў страшнай помсты за свае дзеянні. Волатаўскі сон скончыўся".* Нягледзячы на амністыю, якую цар Аляксандр I выдаў 24 снежня, і ў якой ён вызначыў тэрмін вяртання тых, хто ваяваў на баку Францыі ў 2 месяцы (потым гэты тэрмін быў падоўжаны), улады накладалі секвестры і канфіскоўвалі маёнткі. Асабліва вылучыліся гэтым віленскія генерал-паліцмайстар Эртэль і губернатар Лапіцкі. Эртэль Ф. падчас вайны праявіў сябе няздольным генералам, аднак пасля вайны ён пачаў слаць даносы ў Пецярбург і пачаў рэпрэсіі супраць мясцовай шляхты. Князь Чартарыйскі так характарызаваў гэтага чалавека: *"Чалавек бяздушны, без пачуцця справядлівасці, але ад яго залежала жыццё жыхароў Літвы. Меў правы пакараць і выслаць кожнага, хто яму быў не да спадобы, людзі гінулі не могучы нават даць аб сабе весткі родным".*

Разрабаваны і вынішчаны край утрымліваў вялізарныя войскі Расеі. Рэпрэсіі расейскай адміністрацыі адштурхнулі насельніцтва ад супрацоўніцтва, і ў 1813 г. нават пайшлі размовы аб новым паўстанні. Але гады зацягвалі раны, жыццё ўваходзіла ў сталае рэчышча.

* * *

А армія ВКЛ працягвала ваяваць. На пачатку 1813 г. дыслакацыя літоўскіх войскаў была наступная:

- каля Варшавы - 18-ты пяхотны полк Хадкевіча, 20-ты Бішпінга, 21-шы Гелгуда, рэшта 22-га палка Чапскага;

- накіроўваліся да Варшавы - 18-ты полк уланаў Пшаздзецкага, 20-ты полк уланаў Абуховіча, рота коннай артылерыі Тызенгаўза, конна - егерскі эскадрон Манюшкі, 4-ты егерскі батальён Курчэўскага, аддзелы конных жандараў і нацыянальнай гвардыі;

**Ведамасць аб колькасці хворых, пакінутых у горадзе Лідзе непрыяцельскімі войскамі, складзена 27 студзеня 1813 г.**

| № | Імя і прозвішча | Якіх каманд і палкоў | З якога часу | Хто за імі мае нагляд | Хто лечыць | Адкуль атрымліваюць харчаванне |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1<br>2<br>3<br>4<br>5<br>6<br>7<br>8 | Сымон Калюта<br>Тадэвуш Мазура<br>Юры Кучка<br>Стэфан Яршэвіч<br>Іван Дарафеіч<br>Лаўрын Годл<br>Тодар Грыматовіч<br>Стэфан Кучкоў | 20-га пяхотнага палка, набранага з Гарадзенскай губерні<br><br>Расейскі казак, які служыў у 20-м пяхотным палку | 10 лютага 1812 г. | Былі пад наглядам утворанай падпрэфектуры, а цяпер 1-га павятовага маршалка | Раней лячыў вольны практыкант 1-шы лекар Янкоўскі, а цяпер з-за яго хваробы, лечыць старэйшы лекарскі вучань Маеўскі | Харчаванне атрымліваюць з Лідскага магазіна, які знаходзіцца ў падпарадкаванні спадара павятовага маршалка, а лекі былі пакінутыя, камандзірам іх палка |

Колькі ўсяго паступіла з 10 лістапада мінулага 1812 г., паправілася, з іх ліку колькі памерлых і колькі цяпер у лазарэце знаходзіцца на лячэнні Лідскага старэйшага лекарскага вучня Маеўскага.

| Паступіла ў нагляд | Паправіліся | Памёрлі | Зараз на лячэнні |
|---|---|---|---|
| 350 | 272 | 60 | 8 |

- да Кёнігсберга адступалі 17-ты і 19-ты палкі ўланаў, 19-ты пяхотны полк Тызенгаўза, рэшта егерскага палка Касакоўскага і батальён егераў Плятара, ад Кёнігсберга войскі пайшлі да Варшавы.

Уся гэтая армія налічвала каля 6000 чалавек пры 2000 коней. У сярэдзіне студзеня 1813 г. Напалеон узяў літоўскія палкі на сваё ўтрыманне: Часовы Урад паведаміў, што літоўскія палкі захоўваюць сваю нумарацыю, але пераходзяць на французскае фінансаванне. Усім чыноўнікам службоўцам адміністрацыі і жыхарам, вымушаным адступіць разам са сваімі войскамі, было прызначана грашовае ўтрыманне ажно да вяртання дахаты.

20-ы полк уланаў быў накіраваны ў Гданьск і злучаны з 9-м польскім палком уланаў. Эскадрон Манюшкі стаў часткай 5-га польскага конна-егерскага палка, артылерыйская рота Тызенгаўза ўвайшла ў склад польскай артылерыі, 17-ы і 19-ы палкі прымалі ўдзел у ваеннай кампаніі 1813-14 г. у Германіі. У ноч з 11 на 12 лютага 1813 г. 17-ы полк уланаў быў атакаваны ў мястэчку Цырк на рацэ Варце і страціў шмат жаўнераў. У палон патрапіў сам князь Рамуальд Гейдройц, генерал-інспектар літоўскага войска. Полк біўся мужна, бо расейцы нават завысілі ўзровень баявой адзінкі, назваўшы ў "Журнале баявых дзеянняў" полк "двухтысячнай дывізіяй".

Літоўскія пяхотныя аддзелы, у тым ліку і 20-ы полк Бішпінга ў якім было шмат лідзян, увайшлі ў 5-ці тысячную залогу цвердзі Модлін. Цвердзь была адбудавана ў 1811-12 гг. і мела вялікае стратэгічнае значэнне. 6 кастрычніка 1810 г. у запісцы "Аб цвердзях княства Варшаўскага" Напалеон пісаў: *"Гэта будзе галоўная цвердзь княства. У ёй можна будзе захоўваць арсенал, артылерыйскія магазіны, правіянт, фураж, і ўсе запасы так, што калі б і Варшава была бы страчана, то гэтая цвердзь засталася б і панавала бы над абодвума берагамі Віслы і Нарава".* Расейскае войска ў 50 000 жаўнераў блакавала Модлін, але цвердзь здалася толькі 25 снежня 1813 г., калі войска антынапалеонаўскай кааліцыі было ўжо на берагах Рэйна і рыхтавалася да ўступлення на тэрыторыю Францыі.

17-ы і 19-ы палкі ўланаў прымалі ўдзел у славутай абароне Гамбурга, дзе непераможаныя войскі здалі горад толькі пасля адрачэння імператар Напалеона і асабістага загаду новага караля Францыі Людовіка XVIII.

Пасля вайны літоўскія войскі ўліліся ў склад арміі Царства Польскага.

* * *

Вайна 1812 г. была адной з найбольш хуткіх і разбуральных у гісторыі Беларусі. Яна доўжылася поўгода, але панесеныя страты аднаўляліся амаль чвэрць стагоддзя. Агульныя страты насельніцтва Гарадзенскай губерні ацэньваюцца гісторыкамі ў 8,6%, прычым мужчынская палова насельніцтва страціла 17,7% сваёй колькасці. У 1802 г. шляхта Лідскага павету налічвала 9809 чалавек, Гарадзенскага 6384. У 1816 г. засталося ў Лідскім павеце 5523, у Гарадзенскім 4357 шляхціцаў. Тут сказаліся ваенныя страты, эміграцыя, і ад'езд вялікай колькасці шляхты ў Варшаўскае княства. Сярод мужчынскага насельніцтва губерні па саслоўных групах страты падзяліліся наступным чынам: шляхта страціла - 43,7% сваёй колькасці, мяшчане хрысціяне - 26,67%, яўрэі - 17,64%, сяляне - 14,04%. Агульныя страты мужчынскіх рэвізскіх душ у Лідскім павеце склалі 21,4%., гэта найбольшыя страты ў губерні (другое месца па агульных стратах мужчынскіх рэвізскіх душ займаў Наваградскі павет - 14,3%.). З гарадоў найбольш пацярпелі Кобрын, Ваўкавыск і Ашмяны, якія апынуліся ў эпіцэнтры баёў. У Кобрыне з 1187 дамоў было спалена 927. У Ваўкавыску не засталося ніводнай прыстойнай пабудовы, і павятовыя ўлады вымушаны былі пераехаць у Ізабелін. Цяжка давяося Бярэсцю, Пружанам, Слоніму, дзе затрымліваліся значныя сілы. Амаль не пацярпелі Гародня і Ліда. У Гародні, як цэнтры дэпартамента падтрымліваўся адпаведны парадак, а Ліду вялікія войскі абмінулі. У Літоўска-Гарадзенскай губерні па ўказу ад 5.10.1809 г. былі канфіскаваны маёнткі 50 абшарнікаў (у Гарадзенскім, Ваўкавыскім, Наваградскім паветах - у 7 абшарнікаў, Лідскім - 19 абшарнікаў, Слонімскім - 9 абшарнікаў, Кобрынскім - 1 абшарніка). Сярод падпаўшых пад канфіскацыю на Лідчыне былі браты Іван і Ануфры Шукевічы, Леанард і Фелікс Лясковічы, Ваўжынец Путкамер. 12 (24) снежня 1812 г. Аляксандр І выдаў маніфест, у якім дараваў ліцвінам удзел у вайне на баку французаў, але папярэджваў тых, хто не вернецца на працягу двух месяцаў дадому і застанецца на службе у "нашых непрыяцеляў" пра канфіскацыю маёнткаў. 24 кастрычніка (5 лістапада) 1813 г. быў прыняты царскі ўказ пра такую канфіскацыю. У 189 уладальнікаў было канфіскавана 234 маёнткі з агульнай колькасцю сялян 42527 рэвізскіх душ мужчынскага полу. Па паветах размеркаванне склалася такім чынам: Лідскі - 101 маёнтак з колькасцю 14 287 душ; Наваградскі - 70 маёнткаў, 15 999 душ; Ваўкавыскі - 22 маёнткі, 2 850 душ; Слонімскі - 15 маёнткаў, 3 682 душы; Гарадзенскі - 12 маёнткаў, 546 душ; Берасцейскі павет - 7, 3926 душы; Кобрынскі - 5, 1133 душы; Пружанскі - 2, 104 душы. У Лідскім павеце найбольш пацярпеў князь Дамінік Радзівіл - 18 маёнткаў з 5975 душамі. У Лідскім павеце землі канфіскавалі ў графіні Ганны Патоцкай (17 маёнткаў, 2075 душ), графаў Людвіка Паца (6 маёнткаў, 1147 душ), Рудольфа Тызенгаўза (7 маёнткаў, 1001 душа), Аляксандра Хадкевіча (1 маёнтак, 1684), князя Міхала Радзівіла (8 маёнткаў, 1200 душ) .

Лепшыя сыны Вялікага Княства Літоўскага дзеля адраджэння Бацькаўшчыны сталі пад сцягі кааліцыі дзяржаў, якой кіраваў Напалеон. Але ў 1812 г. зорка Напалеона ўжо схілялася. Паразай скончылася другая, пасля паўстання 1794 г., спроба адрадзіць дзяржаўнасць, наперадзе былі паўстанні 1831 і 1863 гг.

# Людвік Нарбут

## *180 гадоў з дня нараджэння*



**Людвік Тодар НАРБУТ** (7 верасня 1832, м. Шаўры, Лідскі павет - 4 траўня 1863, вайсковец, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-64 на Беларусі і ў Літве, сын Тодара Нарбута.

Людвік Нарбут нарадзіўся ў сям'і архітэктара, інжынера і вядомага гісторыка Літвы Тодара Нарбута. Вучыўся ў Лідскай павятовай вучэльні, потым у Віленскай гімназіі, дзе ў канцы 1850 быў арыштаваны за спробу стварыць "общество патриотов с целью произвести восстание". У сакавіку 1851 публічна пакараны розгамі і аддадзены ў салдаты.

Служыў на Каўказе, атрымаў званне афіцэра рускай арміі. З 1859 у адстаўцы. Вярнуўся на радзіму ў пачатку красавіка 1860. Жыў у бацькі, вёў гаспадарку. Калі ажаніўся, пасяліўся ў маёнтку Сербянішкі, недалёка ад Шаўроў.

У час падрыхтоўкі паўстання прыхільнік партыі "чырвоных", звязаўся з К. Каліноўскім, бываў на канспіратыўных сходах. У падпольнай арганізацыі выконваў абавязкі акруговага арганізатара. Адным з першых арганізаваў партызанскі аддзел на Беларусі, з якім тры месяцы (люты-красавік 1863) паспяхова вёў барацьбу супраць карнікаў. 13 лютага загадам Віленскага камітэту быў прызначаны вайсковым начальнікам Лідскага павету. Ад паўстанцкіх уладаў меў званне палкоўніка. Загінуў у баі.

Хоць царскія ўлады вельмі стараліся, каб постаць Людвіка Нарбута хутка была забытая, аднак гэта ім не ўдалося. Для жыхароў Ліды і Лідчыны вайсковы начальнік студзеньскага паўстання стаў сімвалам гарачага патрыятызму і вялікай мужнасці. Пасля скону паўстання, у перыяд найвялікшых праследаў у нашых хатах доўга апавядалася пра яго лёс а таксама пра гераічную смерць у веку 31 года. А лёс Людвіка Нарбута быў цікавы і няпросты, як і лёсы большасці жыхароў гэтых зямель у перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай.



*Шаўры. Паводле Напалеона Орды.*

Людвік Остык-Нарбут нарадзіўся 7 верасня 1832 года у маёнтку Шаўры ў Лідскім павеце. Яго бацька - Тодар Нарбут - быў знакамітым і прызнаным гісторыкам. Выводзіўся з вельмі старога ліцвінскага вялікакняскага роду Даўспрунгаў. Маці яго была Крысціна Падзэўская. У школу Людвік Нарбут хадзіў у Лідзе. Была гэта школа папіярская. Дома, як і большасць моладзі выхоўваўся ў патрыятычным духу.

У 1850 годзе ўжо ў Віленскай гімназіі Людвік Нарбут пачаў арганізоўваць у сваім класе - відавочна таемна - патрыятычны саюз. Назваў яго "Арол і Крыж". Саюз той доўга не праіснаваў - ледзь некалькі месяцаў - да вясны 1851 года. Тады Нарбута першы раз у яго жыцці здрадзілі. Пра дзейнасць патрытяычнага саюза данеслі царскім уладам яго два таварышы. Падчас праверкі знайшлі ў Нарбута абцяжвальныя для яго матэрыялы. Быў арыштаваны. Падчас заслухвання прызнаўся ў сваёй віне і тым самым зрабіў магчымым абараніць сваіх таварышаў з саюзу. Карай за змоўніцкую дзейнасць была публічная лупцоўка. Пры ўсім класе і прывезеных бацьках

адмералі яму 25 розгаў. Царскія ўлады не дазволілі Нарбуту вучыцца далей. У якасці кары забралі яго ў войска. Як шараговец быў накіраваны на вайну з Турцыяй. Пазней яго полк Разанскіх стральцоў перавялі на Каўказ, дзе ён змагаўся з жыхарамі тых гораў. На Каўказе Л. Нарбут здабыў досвед у партызанскай барацьбе. Гэтыя навыкі ён пазней скарыстаў у часе студзенскага паўстання. Падчас баёў на Каўказе Людвік Нарбут вызначыўся адвагай, за якую быў адзначаны крыжам Св. Андрэя IV ступені.

У 1855 годзе Л. Нарбут атрымаў падафіцэрскае званне. А праз два гады прадставілі яго да прапаршчыка. У войску, дзякуючы амністыі, абвешчанай у 1858 годзе, Нарбут прабыў яшчэ толькі два гады. Войска ў званні паручніка пакінуў па ўласнай просьбе ў 1860 годзе. У наступны год вярнуўся ў родныя Шаўры. Аднак у бацькавым доме адпачываў не доўга. Вырашыў выехаць у Варшаву і Кракаў, каб паглядзець сталіцы Рэчы Паспалітай. У тым самым годзе ажаніўся з удавой Анэляй Сядліняўскай. Пасля шлюбу пасяліўся ў маёнтку сваёй жонкі ў Сярбянішках.

Пачатак 60-х гадоў 19-га стагоддзя быў гарачым перыядам перад паўстаннем. На Лідчыне, як і на большасці тэрыторый даўняй Рэчы Паспалітай, якія ўваходзілі ў зону расійскай акупацыі, пачала нарастаць патрыятычна-канспірацыйная дзейнасць.

У 1862 годзе да Людвіка Нарбута прыехаў з Вільні яго малодшы брат Баляслаў. Ён прывёз з сабой адозву варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэту. З тэкстам адозвы пазнаёміўся Людвік Нарбут. Папера тая найпраўдападобней спрычынілася да таго, што ён вырашыў актыўна ўключыцца ў змоўніцкую дзейнасць. Пад канец 1862 года ён пайшоў пад каманду Правінцыйнага камітэту ў Вільні, які кіраваў канспірацыйнай дзейнасцю на Літве. З падачы Крыла чырвоных Камітэт прызначыў яго вайсковым начальнікам Лідскага павету і зрабіў адказным за падрыхтоўку да паўстання.

З ускладзеным абавязкам скрывіўся добра. Перад выбухам паўстання аб'язджаў навакольныя двары і домаўладанні, каб будучым удзельнікам баявых дзеянняў забяспечыць тыл у частцы кватэр, узбраення, правізіі, а таксама медычнай дапамогі. З апасення перад дэмаскаваннем інспекцыі гэтыя праводзіў пад выглядам падрыхтоўкі да паляванняў.

Нацыянальны ўрад або так званы Цэнтральны камітэт абвясціў у дзень паўстання 22 студзеня 1863 года зварот, у якім чытаем: *“...У першы дзень адкрытага выступлення, у першую хвіліну пачатку святога змагання Цэнтральны нацыянальны камітэт абвячшае ўсіх сыноў Польшчы, без розніцы веры і роду, паходжання і стану вольнымі і роўнымі жыхарамі краю. Зямля якую сяляне выкарыстоўвалі датуль на правах чыншчу ці паншчыны становіцца ад той хвіліны безумоўнай іх уласнасцю, вечнай спадчынай. Уладальнікам, пацярпелым ад гэтага будзе выплачана кампенсацыя з агульных фундушаў дзяржавы... Да зброі ўсе. Народзе Польшчы, Літвы і Русі да зброі! Бо, час агульнага вызвалення ўжо прабіў, стары меч наш аголены, святы штандар Арла, Пагоні і Арханёла разгорнуты...”*

Пасля выбуху паўстання ў Кароне Людвік Нарбут адзін з першых 2 лютага з’арганізаваў аддзел на Літве і 14 лютага з малодшым братам Баляславам і



***М.Э. Андрыёлі. Лагер паўстанцаў Л. Нарбута.***



***Бітва Л. Нарбута пад Руднікамі.***

шасцю вяскоўцамі вырушыў з маёнтка Сербяні-шкі ў лясы ў ваколіцах Эйшышак.

У той жа дзень, па дарозе далучыліся да яго Лявон Краінскі з Грышанішак з некалькімі людзьмі. Гэта быў пачатак аддзелу Нарбута. Аддзел хутка рос, таму што Людвік Нарбут быў незвычайна папулярны сярод людзей. У Эйшышках пад канец лютага далучыўся да яго вялікі аддзел пад кіраўніцтвам ксендза Юзафа Гарбачэўскага, вікарыя Эйшышскай парафіі, які першым у Лідскім павеце абвясціў з амбона маніфест Нацыянальнага ўраду.

У лютым аддзел прамаршыраваў праз вёскі Папішкі, Калітанцы, Рудню, Салкі, Гудэлі ў кірунку Рудніцкай пушчы. Затрымаліся ў маёнтку Парадунь Ксаверага Турскага, і маёнтку Подзітва Яна Карловіча.

Нарбут са сваім аддзелам кружыў па наваколлі, зачытваючы жыхарам паўстанцкі маніфест. Віленскі камітэт вырашыў, што Нарбут са сваёй партыяй павінен перабрацца на Меншчыну, з мэтай злучэння ў большы аддзел з паўстанцкай групай, якая дзейнічала там.

Аднак загаду Нарбут не выканаў. Палічыў, што павінен застацца на тэрыторыі, якую лепей ведаў. Начальнік паўстання ў Лідскім павеце выбраў тэрыторыю дзейнасці, а ў пушчы над ракой Котра заснаваў лагер і распачаў барацьбу. Аддзел Нарбута ў перыяд найбольшай колькасці налічваў каля 300 чалавек, быў узброены пераважна паляўнічай зброяй, косамі, а пасля пераможных баёў штуцарамі і вайсковымі карабінамі. Партыя, якой кіраваў здольны правадыр і дасканалы знаўца партызанскай барацьбы, нанесла шэраг адчувальных паразаў расейскай гвардыі.

Першае ўзброенае сутыкненне аддзела Нарбута з расійскім войскам адбылося 9 сакавіка 1863 года пад Руднікамі, якія размешчаны на невялікай адлегласці ад Вільні. Сутыкнне закончылася поспехам паўстанцаў. Аддзел Нарбута налічваў на гэты момант ужо каля 100 чалавек, а ўзбраенне ў большасці складала паляўнічыя зброя. Ад'ютантам Нарбута быў яго брат Баляслаў.

Пасля 9 сакавіка пасля пераможных бітваў пад Руднікамі, у ваколіцах станцыі Рудзішкі, над рэчкай Мерачанкай да паўстанцаў далучылася група віленскіх дабраахвотнікаў пад кіраўніцтвам Эльвіра Міхала Андрыёлі. Наступныя баі адбыліся пад Новым Дваром, пад Пілоўняй, каля Бершт, пад Кавалькамі, над возерам Думбля.

Вясной партыя Нарбута дзейнічала ў Нацкай пушчы паміж Лідай і Аранамі. Знаёмасць тэрыторыі, а таксама набытыя на Каўказе навыкі вядзення партызанскіх дзеянняў дазволілі начальніку пазбегнуць многіх аблаў, арганізаваных царскім войскам. Аддзел Нарбута аднак з вайсковага погляду быў слаба ўзброены і слаба абучаны. Была гэта перш за ўсё мясцовая шляхта і мужыкі.

Уменне пазбягаць аблаў, спраўнае кіраўніцтва аддзелам, а таксама выйграныя сутычкі, як, напрыклад, пад згаданымі Руднікамі 9 сакавіка, ці пад Дубічамі 10 красавіка і пад Кавалькамі 20 красавіка, спрычыніліся да ўзнікнення яшчэ пры жыцці Нарбута легенды пра яго і яго партыю. За заслугі на полі бою, найпраўдападобнай 30 або 31 сакавіка Нацыянальны ўрад прадставіў яго да звання палкоўніка. Аднак



***М.Э. Андрыёлі. Аддзел Л. Нарбута на маршы.***

афіцыйнага пацверджання гэтаму пакуль не знойдзена.

Занепакоеныя ўлады спецыяльна для задушэння "бунтаўшчыкоў" прысылаюць некалькі батальёнаў, але арганізацыйныя здольнасці і веданне вайсковай справы Нарбутам, набытыя на Каўказе ў вайне з чачэнцамі, дазваляюць яму ў хвіліны небяспекі бліскавічна арыентавацца ў сітуацыі і ўхіляцца ад баёў з большымі сіламі ворага. На працягу трох месяцаў аддзел Нарбута быў сапраўдным страхам для маскалёў таму, што дзейнічаў хутка і дакладна. Добра знаёмы з тэрыторыяй размяшчэння Нарбут займаў цяжка даступныя месцы ў лесе. Акрамя таго камандзір заўсёды пільна сачыў за неабходнасцю зацірання за сабой слядоў, а пры любой аказіі шкодзіў ворагам, дзе то-льکі мог. Перайма ў чыноўнікаў, па дарогах, адбіваў партыі рэкрутаў, вешаў здраднікаў нацыянальнай справы, забіраў зброю ў леснікоў і да т. п. Дзейнасць Нарбута прывяла да таго, што генерал-губернатар Назімаў выдаў спецыяльны загад для сцягвання вялікіх аддзелаў лейб-гвардыі Паўлаўскага палка с трох пунктаў: з Вільні, Горадні і Ліды. Тыя аддзелы атрымалі загад любой цаной разбіць аддзел няўлоўнага "бунтаўшчыка" Нарбута. А вось, апісанне аднаго з баёў паводле Э.М. Андрыёлі:

*"Акружаныя і заціснутыя маскалямі, якія мелі за справу гонару разбіццё аднаго аддзелу, што меў славу на Літве, цэлую ноч адступалі без дарог, змучаныя, галодныя, замёрзлыя. Ксёндз Гарбачэўскі, Краінскі, Нарбут і пра-ваднік са свечкаю ў руках шукаюць дарогі па пушчы. Мы парамі, хістаючыся ад стомы і сплючы на маршы, чапляючыся за калоды і вываратні, сунемся следам за агеньчыкам. Бываюць хвіліны, што нашы праваднікі губляюцца ў велізарнай пушчы, кажуць аддзелам спыніцца, а самі разыходзяцца шукаць слядоў дарогі: тады адны стоячы, другія прысеўшы, іншыя абапёршыся зноў засынаюць чуткім сном. Зноў каманда: "Марш" і цягнецца сонная, змучаная дружына.*

*Пад раніцу пераканаўшыся, што кружым вакол, кідаем асцярожнасць і галодныя спыняемся недалёка ад хаты лесніка ва ўрочышчы Лакштунцы. Пра выбар пазіцыі няма мовы. Бо мы думаем, што маскалі, страпаныя нашым начным бадзяннем, пакінуць нас у спакоі. Затрымаліся ў сярэдзіне вялізнага лесу, маючы за сабой балота, а перад вачамі невялікую прасеку, цераз якую вілася сцежка да лесніка. Сонца пачынае прыпякаць, пад адзінаццаць раніцы становіцца горача. Кожны размясціўся, як мог, захоўваючы аднак баявую лінію павернутую франтам да прасекі. Адны спяць, другія ядуць, іншыя выграваюцца на сонцы, некаторыя чытаюць кніжкі альбо лісты.*

*Каля другой ад паўдня зменены пікеты, цішыня*

*ў лагеры нечуваная, чуцён піск мух і камароў. Нарбут на хвіліну адышоў за зараснік, звыклая пільнасць на гэты раз аслабла, цяпло і стома апанавалі ўсімі.*

*Раптам стрэл здалёку, а за ім два іншыя. "За зброю, за зброю!". Нарбут ужо паміж намі. Забурліла, як ў катле, падхопліваюцца задрамалыя... пытанні, неспакой, замяшанне. Толькі начальнік спакойны, гаворыць пасунуцца наперад на 300 крокаў і заняць баявую лінію па трое ўздоўж краю лесу і прасекі.*

*Пераканаліся тады, што можа халодная адвага аднаго чалавека. Усе хвіліну назад трывожныя, неспакойныя, гатовыя ўцякаць, зараз прытомныя, зручна пазаймалі прызначанае сабе месца. Касінеры з афіцэрам ў баявой калоне залеглі праз 200 крокаў за стралкамі. Тыя ж хаваючыся за пнямі і ў кустах, галавой наперад з руляй перад сабой і пальцам на спуску, чакалі каманды да стральбы, а здалёку ўжо гралі маскоўскія трубы баявы сігнал: "Рассыпались молодцы! За камни, за кусты, по два в ряд!" Знаёмы той сігнал дагэтуль гучыць ў вушах. У лесе, дзе кожны куст, кожнае дрэва хавае засаду, дзе ніколі нельга палічыць непрыяцеля, дзе кожнаму здаецца, што толькі ён і некалькі бліжэйшых яшчэ бароняцца, а рэшта ўжо ўцякла, дзе рэха сто разоў паўтарае стрэлы і рык маскалёў, а небяспека, здаецца, атачае з усіх бакоў – вайсковая труба робіць немалое ўражанне.*



**М.Э. Андрыёлі. Да бою.**

*"Пане Пілецкі – гукае Нарбут, - вазьмі 10 чалавек і марш на рэкагнасцыроўку, - а праз хвіліну, - калі ласка, не рызыкуй". Пілецкі, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, смелы, талковы, разважлівы, а прытым ветлівы і далікатны хлопец быў улюбёнцам ўсяго аддзела.*

*Яму то Нарбут давяраў найрызыкоўнейшыя справы, пэўны ў тым, што з іх смела і разважліва выйдзе.*

*Пасля адходу Пілецкага наступіла ціша, якой, нават, маскоўская труба не перарывала. Толькі сэрцы біліся хутчэй. Нарбут перабегае ўздоўж ўсёй лініі з шашкай ў адной і шапкай ў другой руцэ, спыняецца, слухае і зноў выглядае, ці ўсе на месцы.*

*Страшную цішу неспадзявана разрываюць выбухі некалькі стрэлаў, загралі трубы і даляцела: "Ура-Ура!", якое лес падхапіў і на тысячу таноў паўтарыў. Зашамацелі кусты, і з стрэльбамі, якія яшчэ дыміліся, выскачылі нашы рэкагнасцыроўшчыкі. Твары белыя, дыханне прыспешанае: "Пане начальнік! Ідуць шасцёркамі, лінія вялізарная, займаюць крылы!"*

*- Добра! На месца! Ціха... ніякіх галасоў! Хто крыкне – расстраляю! Страляць прыцэльна! Чакаць, пакуль не загадаю! Каб мне ніхто не піснуў!*

*А ад стрэлаў маскоўскіх здавалася, што ломіць лес, кулі капаюць зямлю. Ужо сям-там чуваць: "Езус, Марыя! Правядзіце мяне на воз! " Але загадана не страляць. І кожны сэрцам, што гучна б'ецца, з стрэльбай наперад чакае, пакуль яму пакажацца маскаль.*

*Гулка грыміць лес. Стрэлы і крыкі ў 100 раз гусцейшыя і бліжэйшыя, ломяцца галіны, чуваць марш цяжкай масы. Праз хвіліну ўбачым маскоўцаў, а перад намі прасека, ціхая аблітая сонцам.*

*Замігалі шэрыя шынялі, бліснула зброя і белыя акруглыя аблочкі на фоне лесу. Маскалі займаюць супрацьлеглы край прасекі. Хаваюцца за дрэвы, але наперад, не гледзячы на загады афіцэраў, не рухаюцца. Відаць іх непакоіць ціш з нашага боку. Нарэшце з трэскам і стрэламі рухаюцца шасцёркамі. Была то хвіліна збавення, сэрцы біліся гвалтоўна, яшчэ 40 крокаў, і вытнуць ў штыхі, але раздаўся знаёмы нам моцны голас: "Агонь, хлопцы, усёй лініяй!" І ад канца да канца праляцеў выбух больш сотні стрэлаў, а потым ціша і дым.*

*Не граюць трубы, маўчыць "Ура!"*

*- Добра, добра, спраўна, набіць зброю, востра хлопцы! - гукае расчырванелы Нарбут абабягаючы ўсю лінію.*

*Зноўку граюць трубы і чуваць маскоўская каманда, зноўку грымяць стрэлы і: "Ура, вперёд ребята!" Ломяцца кусты. Прымушаныя гнаныя сілай паслушэнства, кідаюцца маскалі галавою ўніз з штыхамі наперад. Ужо, ужо сядзяць нам на карку. Яшчэ хвіліна, і ўсе кінемся наўцёкі.*



***М.Э. Андрыёлі. Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў.***

*Але на выгук: "Агонь, прыцэльна!" запаляюцца 150 стрэльбаў на нашай лініі. Воблака дыму закрывае ўсё, уціхае трэск чуваць толькі енкі параненых і канаючых з абодвух бакоў.*

*Але не доўга трывае ціішыня, падходіць падмога. Зноў заенчыў лес, стрэлы, крыкі, паніка... Даём агню некалькі разоў, яшчэ трымаемся. Раптам пабегла левае крыло, зламанае націскам маскалёў, стараемся ўтрымацца, але ўжо позна. Кідаемся направа, за малое балотца дзе ўсё фармуецца вакол начальніка. Масква раз'юшана кідаецца ўсім кагалам за левым крылом міма нас, як бура, страляюць, крычаць, дратуюць раненых, агонь аддаляецца, чуваць толькі адзіночныя стрэлы, галасы ціхнуць, лес замаўкае, ціша, але як яна адрозніваецца ад раней-шай. Бітва скончылася. Пунцовае сонца села за лесам. Здалёк даходзіць да нас глухі шум размоў, водгалас трубы і ад часу да часу далёкі стрэл. Ноч..."*

Чуць больш, чым праз месяц пасля прадстаўлення да годнасці палкоўніка, Людвік Нарбут быў смяртэльна паранены ў другой бітве пад Дубічамі 5 траўня 1863 года.

Становішча што раз станавілася ўсё больш небяспечным. Паўстанцы адступалі ў глыб пушчы. Другога траўня Нарбут размясціўся з лагерам на пагорку пасярод балот недалёка ад Дубіч на поўдзень ад возера Пеляса. Доступ да лагера быў немагчымы для тых, хто не знаў таемных перамычак і вузкіх сцежак паміж багнамі. Але якраз там пятага траўня адбыўся апошні бой. Лагер паўстанцаў выдаў ворагам гаёвы дзяржаўных лясоў здраднік Адам Базылевіч Карповіч, даверaны чалавек Нарбута. Супрацоўнічаў ён з капітанам Цімафеевым. Была гэта другая здрада, якую спазнаў у сваім жыцці Людвік Нарбут - пра першую, у школьныя часы, згадвалася раней. Акружаны адусюль пераважнымі сіламі ворага (якімі кіраваў капітан Цімафееў), паранены ў нагу ў пачатку бітвы, Нарбут праз увесь час кіраваў боем, і як даносяць пазнейшыя рапарты "паранены куляй у грудзі, сканаў з апошнім намаганнем гаворачы да таварышаў, што прыемна памерці за Айчыну". Разам з начальнікам загінулі яго таварышы па змаганні: **Аляксандр і Францішак Беразоўскія (Бразоўскія), сыны Францішка** з Гарнофеля, **Стэфан Губарэвіч, сын Стэфана** з Галавічполя, **Станіслаў Ян Ёдка** з Петрашунцаў, **Лявон Краінскі сын Антонія** з Грышанішак, **Юзаф Пакемпіновіч** з маёнтка Подзітва, **Уладзімір Паплаўскі** з Крэвіна, **Вандалін Жукоўскі** з Лацка, **Казімір Грэмза, сын Стэфана** з Ліпкунцаў, **Ігнацы Тарашкевіч** - фельчар з Ліды, **Адам Н., Томаш Скірмунт**- жыхар Піншчыны. У няволю трапілі **Пётр Янкоўскі** – сасланы ў Іркуцк,

дзе памёр, **Уладзіслаў Клімантовіч** – сасланы ў Сібір, **Уладзіслаў Нікалаі** (паручнік расейскага войска) – расстраляны ў Вільні 25.09.1863 г. на вядомым пляцы Лукішкі, доктар **Цыпрыян Пясецкі** з Пескаў – высланы на катаргу ў Табольск, **Уладзіслаў Пілецкі**, былы студэнт Пецярбурскага універсітэта, прыгавораны да 6 гадоў катаргі, **Фелікс Ройша** з Ліды, **Цыпрыян Коркуць** з Ліпкунцаў, **Адольф Краінскі** з Палашак (высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр), **Ян Глушыцкі**.

Пахаванне Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў адбылося на цвінтары пры кас-цёле ў Дубічах праз месяц пасля бітвы. Час чакання афіцыйнага пахавання мусіў быць такім доўгім з-за неабходнасці атрымання абавязковай згоды з боку царскіх уладаў. Па такі дазвол звярнуўся да віленскага генерал губернатара В. Назімава сам капітан Цімафееў. У пахаванні Нарбута і яго падначаленых узялі ўдзел натоўпы навакольных жыхароў Аднак магіла паўстанцаў не прастаяла доўга. Праз колькі месяцаў пасля пахавання па загаду М. Мураўёва-вешальніка, душыцеля паўстання на Літве, касцёл і магілу зраўнялі з зямлёй. Зроблена гэта было ў рамках рэпрэсій. Царскія ўлады баяліся, каб магіла Людвіка Нарбута не стала месцам патрыятычных выступленняў і напамінам, што на гэтай тэрыторыі геройскі змагаўся аддзел паўстанцаў.



***Крыж у Дубічах на месцы апошняга бою Людвіка Нарбута***

Пасля смерці Нарбута паўстанне ў Лідскім павеце, здавалася, ужо толькі дагарала. Рэшткі аддзела ўдалося сабраць **Баляславу Нарбуту**, які не ўдзельнічаў у бітве пад Дубічамі. **Баляслаў** стараўся захаваць аддзел для далейшай барацьбы. Загадаў паўстанцам трымацца ў лесе ў ваколіцах вёскі Паддуб’е, куды меўся прыбыць новы начальнік.

Цэнтральныя паўстанцкія ўлады ў гэтай сітуацыі прызначылі начальнікам на Лідскі павет тагачаснага начальніка Ашмянскага павету **Астрогу** або **Аляксандра Парадоўскага**. Задачу ён меў цяжкую. Належала сабраць раскіданых паўстанцаў і падняць ся-род іх ранейшы запал і энтузіязм. Першым важным заданнем Астрогі было пакаранне здрадніка Карповіча. У дзень зялёных свят (сёмуха) Карповіч быў павешаны ў вёсцы Мантаты каля Дубіч. Падобны лёс спаткаў іншага здрадніка селяніна Яна Шумялевіча 15 чэрвеня 1863 года ў маёнтку Сумарокаўшчына.

Намаганні Астрогі ў справе ажыўлення паўстання не давалі вынікаў. Дзейнасць цывільных ўлад паўстанцаў пачала прабуксоўваць. Жывёла, зброя часта не даходзілі да рук паўстанцаў, або даходзілі з вялікім спазненнем, у недастатковай колькасці. Смерць Нарбута і ўсё больш суровыя рэпрэсіі, якія праводзіліся новым губернатарам Міхаілам Мураўёвым (прыбыў ў Вільню 14 траўня) былі таму прычынай. У той самы час на мяжы Лідскага павету ў Рудніцкай пушчы мелі месца дзве буйныя сутычкі паўстанцаў Трокскага павету з царскімі войскамі. Першая з іх 31 траўня каля Зыгмунцішак з аддзелам генерала Вельямінава, а другая 17 чэрвеня з казакамі палкоўніка Алхазава.

Астрога правёў некалькі баёў у чэрвені, з якіх найбуйнейшым і найлепш прадуманым быў бой пад Каркуцянамі на поўдзень ад Эйшышак 23 чэрвеня з аддзелам палкоўніка Ўласава. Пасля той бітвы ў Эйшышках быў размешчаны вялікі аддзел расейскіх войскаў палкоўніка Крамера.

Праз пару тыдняў Астрога мусіў пакінуць межы Лідскага павету і перамясціцца на Гарадзеншчыну, дзе пад напорам царскіх войскаў 9 жніўня перайшоў Нёман і аказаўся ў Аўгустоўскай губерні.

У верасні 1863 года быў схоплены і прыгавораны да смерці Баляслаў Нарбут. Аднак з увагі на малады ўзрост смяротная кара была заменена на высылку ў Краснаярск.

У гэтым месцы належыць прыпыніцца над пытаннем - чаму сярод мясцовых жыхароў постаць Людвіка Нарбута карысталася ў перыяд акупацый і міжваеннай Польшчы такой вялікай пашанай і цікавасцю. Неаспрэчны адказ просты. Побач з ксендзам Адамам Фалькоўскім Людвік Нарбут - адна з найвыбітнейшых постацяў Лідчыны. Так жа як і ксёндз Фалькоўскі атрымаў ён прызнанне, дзякуючы сваёй жыццёвай пазіцыі. Абодва былі гарачымі патрыётамі, гатовымі прысвяціць сваё жыццё для дабра Айчыны. Постаць Нарбута, яго змаганне і геройская смерць сталі сімвалам, а разам і ўзорам для наступных пакаленняў.






***Помнік у Дубічах. Праект Фердынанда Рушчыца.***

Яшчэ пры жыцці Людвіка Нарбута яго суправаджала легенда. У пачатковы перыяд падтымлівала яе найпраўдападобней сям'я. Распавядалі, што на пачатку вайсковай службы малады Нарбут даў аплявуху расейскаму афіцэру за тое, што той назваў яго польскім бунтаром. За гэты ўчынак Нарбуту пагражаў вайсковы суд. Аднак няма пацверджання гэтаму здарэнню ў захаваных дакументах.

Пазней да яго легандарнасці спрычынілася вайсковая дзейнасць і перш за ўсё ўменне вядзення партызанскай барацьбы. Поспехамі яго аддзела жыла ўся Лідчына. Таму не можа здзіўляць факт, што ў пахаванні ўдзельнічалі натоўпы. Паўстанцкая магіла ад самага пачатку была аточана вялікай пашанай.

Пасля зраўнянняя з зямлёй касцёла і магілы паўстанцаў, каб яшчэ больш зацерці след, царскія ўлады пасадзілі на тым месцы бярозы. Аднак навакольны люд увесь час памятаў, што бярозавы гаёк хавае парэшткі паўстанцаў. Праз некалькі гадоў ужо ў бярозавым лесе быў пакладзены, а, дакладней, схаваны ў высокай траве ад царскіх уладаў камень з выбітым надпісам: **"SP. Leon Krainski"**. Такім спосабам, дзякуючы сям'і Краінскіх - Лявон быў ад'ютантам Нарбута - было пазначана для нашчадкаў месца вечнага спачыну паўстанцкага правадыра.

Праз семдзесят гадоў гэты камень быў адзіным бачным знакам, які паказваў на месца паўстанцкай магілы. Праз увесь час няволі мясцовы люд пакрыёма клаў кветкі да каменя. У 1933 годзе, дзякуючы ініцыятыве жаўнераў і афіцэраў 76 Лідскага палка пяхоты паставілі ў Дубічах помнік памяці Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў. Сродкі на яго пабудову былі сабраны спецыяльным, для той мэты сабраным Камітэтам Лідчыны, на чале якога стаяў генерал Эдвард Рыдз-Сміглы. Праект выканаў прафесар Універсітэта імя Стэфана Баторыя Фердынанд Рушчыц. Камень, які да тога часу сведчыў пра магілу паўстанцаў, умуравалі ў падножжа абеліска. Адкрыццё помніка 6 жніўня 1933 года было вялікай падзеяй і святам для мясцовага люду. З гэтай нагоды з'явіліся спецыяльныя публікацыі, прысвечаныя Людвіку Нарбуту і студзеньскаму паўстанню, а таксама гісторыі 76-га Лідскага палка пяхоты, якому было нададзена імя геройскага камандзіра (полк дыслакаваўся ў Гародні).

Мінула пяць гадоў - быў год 1938 - 75 угодкі студзеньскага паўстання. Жыхары Лідчыны пастанавілі ўшанаваць памяць свайго героя. За найбольш прыймальную форму прызналі ўфундаванне памятнай дошкі, якую намерыліся ўмураваць у сцяну касцёла піяраў у Лідзе. На карысць гэтага можа быць заважыў факт знішчэння раней драўлянага крыжа пастаўленага на месцы бітвы і смерці Нарбута. Крыж быў скрадзены і пушчаны найпраўдападобней на апал. На месцы скрадзенага вайскоўцы паставілі жалезны крыж.

Несумненна, гэтае смутнае здарэнне з крыжам навяло жыхароў Ліды і Лідчыны на задуму мемарыяльнай дошкі. Месца яе размяшчэння гарантавала трываласць і мела ахоўваць дошку ад вандалаў.

Далейшыя лёсы дошкі паказалі аднак, якой зменлівай можа быць гісторыя, і як, часам, цяжка прадбачыць лёс. Не будзем, аднак, апераджаць факты. У "Ziemi Lidzkiej" у нумары 5-6 з тарўня-чэрвеня з'явіўся артыкул пяра Аляксандра Снежкі, названы "Людвік Нарбут - нацыянальны герой". Гэты тэкст запачаткоўваў падрыхтоўку да адзначэння 75-годдзя студзенскага паўстання. Аўтар паказаў у сваім артыкуле лёс Людвіка Нарбута.

У тым самым нумары знаходзіўся таксама тэкст успамінаў Юлія Грымайлы-Прыбыткі. Аўтар яго, які ў 1863 годзе быў малым хлопцам, успамінаў, што для яго і для ўсёй яго сям'і вялікай падзеяй было наведванне Людвікам Нарбутам іхняга дому. Грымайла-Прыбытка такім чынам апісаў тое спатканне: *"(...) мы мелі вялікае шчасце бачыць героя, правадыра ўсяго народу..."*. З пададзенага фрагменту выразна відаць, якое значэнне мела ў часы паўстання і ў наступныя семдзесят пяць гадоў для жыхароў Лідчыны, і нават і ўсёй Літвы постаць Людвіка Нарбута. Належыць дадаць, што пашанай карыстаўся і ўвесь, моцна разгалінаваны род Нарбутаў. Для прыкладу можна назваць Казіміра Нарбута, аўтара падручніка логікі, сябра Таварыства элементарных кніг (Таварыства вучэбнай літаратуры) ці згадванага раней Тодара Нарбута з-пад яго пяра выйшла "Старажытная гісторыя літоўскага народу". Аляксандр Снежка ў першым нумары "Ziemi Lidzkiej" за 1937 год змясціў артыкул, які апісваў маёнтак Шаўры - радавое гняздо Нарбутаў. Ён ацалеў і не падпаў пад канфіскацыю пасля задушэння паўстання студзеньскага дзякуючы заступніцтву сярэдняга сына Тодара Нарбута, які быў паручнікам у расейскай арміі[1]. У многіх перадваенных нумарах "Ziemi Lidzkiej" друкаваліся рэдакцыяй фрагменты запісак Браніслава Нарбута, які апісваў жыццё Ліды і ваколіц трыццатых і саракавых гадоў пазамінулага стагоддзя.

Справамі фундавання мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту актыўна цікавілася грамадскасць Ліды. У красавіцкім нумары 1937 года рэдакцыя змясціла тэкст пад загалоўкам "Толькі з годнасцю, панове" выданне інфармавала чытачоў, што Ліда і Лідчына рыхтуецца да ўгодкаў выбуху студзеньскага паўстання на наступны год. Кульмінацыйным пунктам мерапрыемстваў будзе адкрыццё памятнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту. Каб надаць урачыстасці вагу і забяспечыць спраўную арганізацыю, быў створаны камітэт мерапрыемстваў. Апроч нагляду над ходам урачыстасці перад камітэтам паўстала складаная задача - збіранне фундушаў на пакрыццё кошту дошкі. Сябры камітэту адразу звярнуліся з гарачым заклікам аб дапамозе. Збор грошай арганізавала рэдакцыя "Ziemi Lidzkiej". Акцыя збірання ішла спраўна. Ужо ў травеньскім нумары 1937 года быў змешчаны артыкул, які прадстаўляў праект будучай дошкі. Выканаў яго мясцовы скульптар Ежы Кацешчанка. Адліў у бронзе, як запаўняў артыкул, меў быць выкананы мясцовай ліцейкай. Надпіс змешчаны на дошцы паведамляў:

*"1832 - 1863.*
*Вучню былой школы айцоў піяраў у Лідзе*
*Людвіку Нарбуту,*
*правадыру студзеньскага паўстання на Літве*
*у 75 - годдзе*
*геройскай смерці.*
*1863 - 1938.*
*З пашанай Лідчына"*

Надпіс на дошцы, зроблены ў арыгінальнай форме, тлумачыў чаму вырашана было размясціць яе на сцяне касцёла. Прычына была відавочнай. Людвік Нарбут вучыўся ў той школе, хоць тады яна не належала піярам. У 1834 годзе школа была адабрана ў ксяндзоў і перададзена расейскім адукацыйным уладам. У




***Праект мемарыяльнай дошкі Людвіку Нарбуту.***
***Выява з паштоўкі.***
***Рэалізацыя ў матэрыяле значна адрозніваецца.***

той школе, але яшчэ піярскай, вучыўся бацька Людвіка - Тодар Нарбут, а таксама бацька Яна Аляксандра Караловіча, вядомага этнаграфа.

У гэтым месцы патрэбна тлумачэнне: касцёл, у сцяну якога ўмуравалі дошку, пабудавалі піяры, пераведзеныя ў Ліду Ігнацыем Сцыпіёнам дэль Кампа, падстолім Вялікага Княства Літоўскага. Першы касцёл, драўляны, паўстаў у 1758 годзе. У 1770 годзе ксёндз Аляксандр Вольмар купіў фальварак Пастаўшчына, дзе праз восем гадоў, г.зн. у 1778 г. было распачата будаўніцтва уласнага касцёла і калегіюма. Работы, асабліва па будаўніцтве касцёла, ішлі вельмі павольна. У 1801 годзе ксёндз Казімір Нарбут асвяціў кутні камень і фундаменты будынка. Святыня да канца была завершана і асвечана ў імя Св. Юзафа Каласантага ў 1829 годзе.

Піярам касцёл і калегіюм не належалі доўга. У 1834 годзе зачынілі школу. А ў 1843 годзе царскія ўлады аддалі касцёл і кляштарныя будынкі праваслаўнай царкве[2]. Праз тры гады піяры пакінулі горад. Пасля заняцця Ліды польскім войскам у 1919 годзе святыню нанава памянялі на касцёл рымска-каталіцкі. Пасля I Сусветнай вайны піяры распачалі старанні пра вяртанне страчанай святыні: У поўнай меры ўдалося ім гэта ў 1926 годзе. Тады ж адбылося аднаўленне даўняга калегіюма. У сакавіку 1927 года, афіцыйна ад імя сходу правінцыял Тамаш Альшоўка прыняў даўнюю піярскую ўласнасць. З часам паўстаў калегіюм з пачатковай школай, гімназіяй і гандлёвым ліцэем. У верасні 1939 года касцёл быў зноў адабраны ад піяраў. Камуністычныя ўлады зрабілі ў святыні планетарый. У 1993 годзе пачаліся старанні за вярнанне касцёла айцоў піяраў. Аднак улады Беларусі пасля паразумення з папскім нунцыем у Беларусі, біскупам Гарадзенскай дыяцэзіі і генералам ордэна піяраў, вырашылі ізноў передаць яго праваслаўнай царкве.

Вернемся аднак да галоўнай тэмы. У артыкуле, які абгаворваў праект дошкі, змешчана ілюстрацыя, якая прадстаўляла яе макет, з якога і ўзяты далучаны надпіс. Відаць у ім выразная памылка ў прозвішчы Нарбута. Напісана яно праз адно "t" Памылка тая была папраўлена, і, канешне, на самой дошцы прозвішча было напісана папраўленае.

За усім комплексам падрыхтоўкі да ўрачыстасці адкрыцця дошкі наглядаў спецыяльна з той мэтай створаны Камітэт мерапрыемства пад пратэктаратам самога Эдварда Рыдз-Сміглага. Несумненна постаць маршала падавала дзейнасці камітэту характар агульнадзяржаўны. Каб падняць ранг мерапрыемства, скліканы быў - акрамя выканаўчага камітэту - таксама ганаровы камітэт. У склад ганаровага камітэту ўвайшлі ў тым ліку: Адам Сакалоўскі - наваградскі ваявода, ксёндз арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі - мітрапаліт віленскі, генерал Альшына-Вільчынскі - начальнік АК. III, М.Б. Гадэцкі - віленскі школьны куратар, Людвік Бацінскі - ваявода віленскі, Мар'ян Янкоўскі - віцаваявода беластоцкі, прафесар доктар Вітольд Станевіч - прарэктар універсітэта Стэфана Баторыя, ксёндз Геранім Стусінскі - правінцыял піяраў; Юзаф Пшылускі - старшыня апеляцыйнага суда ў Вільні, а таксама Юзаф Ігнацы Парчэўскі - пракурор апеляцыйнага суда ў Вільні.

У склад выканаўчага камітэту ў той час увайшлі: Юльян Грымала-Прыбытка - старшыня, палкоўнік Людвік Маеўскі - віца-старшыня, ксёндз Клеменс Чабаноўскі - II віца-старшыня і скарбнік, рэдактар Уладзіслаў Абрамовіч - сакратар. Чальцамі камітэту сталі: стараста Станіслаў Гусоўскі (Гансоўскі), бурмістр Юзаф Задурскі, а таксама яшчэ некалькі знакамітых жыхароў Ліды. Склад камітэту бясспрэчна сведчыў пра вялікае значэнне, якое мела для жыхароў гэтага краю ўрачыстае ўмураванне дошкі.

Як падае "Ziemia Lidzka" кошт выканання дошкі выцягнуў пад 1500 злотых, што на тыя часы складала не такую малую суму. Аўтар дошкі атрымаў ганарар у памеры 480 зл. Адліўку яе выканаў, не як пісалі ў "Ziemi Lidzkiej" за год да гэтага мясцовы адліўнік, а спецыяліст з Вільні Савул Пупко. За вы-кананую працу атрымаў 300 зл. Гранітную пліту, да якой была прымацавана адліўка з бронзы выканаў камнярэз з Міра - Антоні Грыневіч. Яго аплата склала 350 зл.

У дзень адкрыцця дошкі вуліцы Ліды выглядалі выключна святочна. Увесь горад быў увешаны дзяржаўнымі сцягамі. Касцёл піяраў - галоўнае месца ўрачыстасці - быў ілюмінаваны. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел між іншых ваявода віленскі Адам Сакалоўскі, арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, генерал Альшына-Вільчынскі, куратар М. Гадлеўскі, правінцыял піяраў Геранім Стусінскі, стараста Станіслаў Гусоўскі (Гансоўскі), князь Людвік Чацвярцінскі, а таксама Эміль Томас, цесць маршала Рыдз-Сміглага. Дэлегатам ад палка імя Людвіка Нарбута быў камандзір падраздзелу, палкоўнік Станіслаў Чурыла.

Перад сабранымі пры касцёле піяраў адбыўся агляд мясцовых падраздзяленняў войска і розных арганізацый, якія дзейнічалі на Лідчыне. Сабраных ад імя арганізацыйнага камітэту прывітаў яго старшыня - суддзя Юльян Грымайла-Прыбытка. Далей вайсковы аркестр сыграў дзяржаўны гімн, пасля якога прамову сказаў прафесар Люцыян Брыльскі - выкладчык польскай мовы ў піярскім калегіюме. У сваім выступе ён нагадаў сабраным асноўныя факты з жыцця Людвіка Нарбута. Акт адкрыцця шыльды - умураванай у франтальную сцяну касцёла - здзейсніў генерал Альшына - Вільчынскі. Ад імя палка, які носіць імя героя ўрачы-стасці, прамовіў палкоўнік Чурыла. Да ўдзельнікаў мерапрыемства прыйшла віншавальная дэпеша з Варшавы, прыслаў яе сваяк Людвіка Нарбута - Нестар Нарбут.

Атмасферу тых дзён перадае “Ziemia Lidzka”. У спра-вaздачы з урачыстасці рэдакцыя падкрэсліла выключна ўзняты настрой, які панаваў сярод сабраных. На вуліцы Ліды выйшла вельмі шмат жыхароў, каб удзельнічаць у мерапрыемствах.

Адкрыццё шыльды было таксама святам для лідскіх піяраў. Да ўрачыстасці ксяндзы падрыхтаваліся вельмі старанна. Занатавана гэта было ў "Кроніцы калегіюма айцоў піяраў у Лідзе". На мерапрыемства

ўжо за дзень прыехаў ксёндз - правінцыял Геранім Стусінскі ў кампаніі асістэнта Польскай правінцыі - ксендза Баныventуры Кадэі, а таксама ксендза Людвіка Руска - рэктара калегіюма ў Кракаве. Лідскіх піяраў рэпрэзантаваў ксёндз Антоні Чабаноўскі. Падчас урачыстасці ксендзу правінцыялу і ксендзу Чабаноўскаму былі ўручаны адзнакі 76 палка Лідскіх стральцоў імя Людвіка Нарбута. Па паўдні, што таксама было занатавана ў "Кроніцы...", адбыўся ў калегіюме раскошны прыём, у якім узялі ўдзел годныя госці, сабраныя на ўрачыстасць адкрыцця шыльды.

У тым самым травеньскім нумары "Ziemi Lidzkaj" 1938 года, у якім пададзена справаздача з урачыстасці, быў змешчаны ліст ахвярадаўцаў на шыльду. На першым месцы ліста рэдакцыя памясціла віленскага ваяводу Адама Сакалоўскага. Ён ахвяраваў суму 100 зл. Адвакат Вішнеўскі, напрыклад, даў 30 зл., а Міхал Слюсарскі - 1 зл.

Урад горада Ліды даў на тую высакародную мэту 200 зл., а Красовы саюз землеробаў, аддзел Лідска-Валожынскі ў Лідзе сабраў і перадаў 125,50 зл. На лісце ахвярадаўцаў аказалася некалькі дзесяткаў прозвішчаў і назваў структур і арганізацый, якія пералічылі грошы. Змешчаны спіс не быў поўны. Рэдакцыя абяцала, што ў наступных нумарах будзе пададзены працяг ліста. Пералік ахвярадаўцаў паказвае нам, які вялікі водгук у супольнасці Лідчыны выклікаў праект уфундавання памятнай дошкі. Сведчыць гэта таксама пра тое, якой вялікай павагай карыстаўся сярод жыхароў тых зямель Людвік Нарбут. Быў ён несумненным героем, а жыццё яго і любоў да Бацькаўшчыны былі бяспрэчным прыкладам для моладзі. Жыхары Ліды, якія ў такой колькасці прыбылі пад касцёл піяраў і аддалі пашану кіраўніку студзеньскага паўстання, паказалі разам з гэтым свой гарачы патрыятызм і прывязанасць да ідэі свабоды. Акт адкрыцця дошкі стаўся як бы нябачным, сімвалічным клямарам, які злучаў ідэі незалежнасці з часоў акупацыі з патрыятызмам вольнай Польшчы міжваеннага перыяду. Улады Ліды, запрошаныя госці, жыхары горада і ўсёй Лідчыны давялі, што смерць Людвіка Нарбута 75 гадоў таму назад не была дарэмнай. Ідэі, за якія ён загінуў, жылі далей ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Для ўсіх тых, для каго барацьба і смерць Нарбута былі такія важныя, словы *Айчына* і *патрыятызм* мелі адзін нязменна праз вякі сэнс. Жыхары Лідчыны даводзілі гэта як у гады акупацыі, у 1918-1919 гады ў бітвах за тую зямлю, так і ў перыяд Другой Сусветнай вайны.

У хвілю, калі дошка, прысвечаная Людвіку Нарбуту, была ўрачыста адкрытая, можна было б закончыць прэзентацыю яе лёсаў. Але і тым разам гісторыя аказалася на шмат больш складаная, чым можна было падумаць. Лёс дошкі стаўся не менш драматычным чым пакручастыя і складаныя лёсы жыхароў тых зямель. Пасля заняцця паўночна-ўсходніх крэсаў у верасні 1939 года савецкім войскам, Ліда сталася асяродкам прапольскіх маніфестацый. Падобныя маніфестацыі адбыліся і ў Дубічах - месцы смерці Нарбута. Новая ўлада ад самага пачатку паставіла сабе на мэту разгром хоць якіх праяў польскага патрыятызму. Пачалі знішчаць помнікі, якія сведчылі пра польскую прысутнасць на тых землях. Абеліску ў Дубічах удалося перажыць Другую Сусветную вайну. Ён ацалеў, хутчэй за ўсё, дзякуючы таму, што мясцовасць гэтая ляжыць па ўзбоччы, здалёк ад галоўны дарог. Помнік той стаіць да сёння. З дошкай, размешчанай на пярэдняй сцяне касцёла, лёс не абышоўся так ласкава.

18 верасня 1939 г., калі да Ліды набліжаліся бальшавіцкія войскі, ксёндз Чабаноўскі вырашыў дошку затынкаваць. Неўзабаве саветы зачынілі піярскую гандлёвую школу. Людзі, вывучаныя ў іншым стылі і ў духу іншай улады не былі патрэбныя. У пэўнай меры шчасліва прайшлі гады акупацыі, падчас шматлікіх бамбардзіровак горада касцёл амаль не пацярпеў, пасля вайны быў адрамантаваны. Але ў 1958 г. улады пастанавілі яго зачыніць і зрабіць у будынку спачатку спартовую залу, а потым планетарый. Разам з касцёлам адабралі і ордэнскі дом. Было дадзена некалькі дзён, каб упакавацца і забраць мэблю. Ксяндзам не далі ніякага памяшкання ўзамен. Незаконнасць дзеянняў гарадскіх уладаў пацвярджае той факт, што афіцыйную згоду на забранне ў піяраў касцёла і плябаніі яны атрымалі толькі ў 1962 годзе.

Хоць дошка была невідочная, аднак яна існавала ў сэрцах і думках мясцовай супольнасці. Людзі ўвесь час пра яе памяталі. Была яна сімвалам гарачага патрыятызму і ўжо не толькі польскага, але і беларус-



***Малітва вернікаў каля касцёла аа. піяраў у Лідзе 2 лютага 1991 г. Добра відны польская і беларуская дошкі.*** *Здымак А. Колышкі.*



***Малітва вернікаў каля касцёла аа. піяраў у Лідзе 2 лютага 1991 г.*** *Здымак А. Колышкі.*

кага.

Католікі ніколі не перапынялі барацьбы за вяртанне касцёла. Пісаліся шматлікія петыцыі ў Менск і Маскву. Найчасцей яны заставаліся без адказу. Сітуацыя змянілася з пачаткам "перабудовы". Найперш, у 1989 годзе быў зняты тынк з дошкі. Адбылося як яе другое адкрыццё. У 1990 годзе з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы пад асноўнай дошкай была памешчана мармуровая дошка з перакладам тэксту на беларускую мову.

У снежні 1990 года аддзел Саюза палякаў у Лідзе разам з вернікамі прасіў улады рэспублікі і горада вярнуць святыню. Якраз тады Ціхан Аўдзеенка, тагачасны намеснік старшыні гарадскога Савета па культуры і асвеце, адказаў, упэўнены ў сабе:

- Гэта наша справа. Захочам - то аддамо вам той касцёл, захочам - не аддамо.

На грамніцы. 2 лютага 1991 г. лідскія католікі пасля набажэнства ў фарным касцёле рушылі пад касцёл піяраў. Агулам звыш 200 чалавек, укленчыўшы пад мурамі святыні, накіроўвалі да Бога малітвы аб справядлівасці.

У кастрычніку 1993 года Таварыства польскай культуры на Лідчыне (ТПКЛ) з'ініцыявала штотыднёвыя малітвы пры касцёле. У першую нядзелю прыйшло ледзь 20 чалавек. Але з кожнай наступнай іх лічба расла. Калі на малітву пачало прыходзіць да ста чалавек, быў накіраваны ліст (9.11.1993 г.) да гарадскіх уладаў з просьбай аб вяртанні святыні вернікам.

Копіі ліста былі высланы Апостальскаму нунцыю ў Менск, біскупу Аляксандру Кашкевічу, а таксама дзякану Станіславу Роеку, паколькі не было ніякай рэакцыі ўладаў на зборы вернікаў. Праз колькі дзён пасля ліста старшыня ТПКЛ быў запрошаны ў гарадскі савет, і гарадскі пракурор у прысутнасці намесніка старшыні савета паведаміў, што ТПКЛ праводзіць нелегальныя акцыі, арганізуючы малітвы пры публічным будынку. Хоць для католікаў гэты будынак заўсёды заставаўся святыняй, рацыю ў гэтай краіне заўсёды мела ўлада, і Таварыства фармальна адмовілася ад правядзення тых акцый. Але вернікі, як і сябры ТПКЛ арганізоўвалі малітвы ажно да перадачы касцёла праваслаўным. Улада фармальна не заўважала лістоў, так жа, як і лістоў-водгукаў на заклік Таварыства, надрукаваных у многіх польскіх газетах (у т.л. у "Ladzie", "Tygodniku Powszechnym", "Slowie - Dzienniku Katolickim", "Mysli Polskiej"). У "Echu Podlasia" за 15.4.1994 г. напісана: *"Старшыня Таварыства польскай культуры на Лідчыне - Аляксандр Колышка ў сувязі з тым быў выкліканы ў мясцовую пракуратуру, дзе яго паінфармавалі па "нелегальнасць такіх малітоўных збораў"*. Некаторыя падазраюць, што з-за гэтага ён быў звольнены з тагачаснай працы".

Адначасова перадачы будынка пад цэркву дамагаліся праваслаўныя вернікі. Са згоды каталіцкага духавенства. На знак паяднання, гарадскія ўлады рашэннем ад 7.3.1996 г. передалі будынак праваслаўнай парафіі. Пасля перадачы касцёла адразу была знята беларуская дошка (была замацавана на шрубах). Прадбачачы пагрозу для польскай дошкі ТПКЛ з'іні-

цыявала шэраг дзеянняў. Супольна з беларускімі арганізацыямі і аддзелам Саюза палякаў на Беларусі (разам 7 няўрадавых арганізацый) накіравалі лісты да гарадскіх уладаў, у міністэрствы культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, праінфармавалі старшыню Таварыства аховы помнікаў у Гародні Зміцера Аляшкевіча. Паводле яго слоў, ён таксама звяртаўся да гарадскіх уладаў і быў запэўнены, што дошка не будзе парушана і застанецца на месцы.

7 траўня 1996 г. у гарсавеце абылося спатканне з прадстаўніком Міністэрства культуры, які прыбыў у горад па той справе. У спатканні ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый (падпісанты лістоў) кіраўнік гарадскога аддзела культуры, настаяцель праваслаўнай парафіі. Адназначна было сцверджана, што гэты будынак з'яўляецца помнікам культуры і знаходзіцца пад аховай дзяржавы, і бацюшку абавязалі падпісаць ахоўны дакумент (аднак ён гэтага не зрабіў, а перадача будынка без гэтага дакумента не мае праўнай моцы).

Прысутныя на сходзе былі запэўнены, што з дошкай нічога не станецца. Звыш таго вяліся размовы пра паўторнае замацаванне беларускага тэксту таблiцы. Аднак 17 чэрвеня 1996 г. каля 17.30 сябар ТПКЛ Мечыслаў Хвайніцкі заўважыў, што салдаты выбіваюць дошку з мура. Адразу пад будынак з'явілася некалькі іншых сяброў ТПКЛ (Аляксандр і Андрэй Сямёнавы, Ганна і таэвуш Комінчы, Ліля Тумялевіч, Мечыслаў Хвайніцкі, Чеслаў Колышка -старэйшы), якія засведчылі, што выбіты дзве дзіркі ўздоўж дошкі. Сал-датаў ужо не было. Гэтыя людзі былі каля касцёла да 21 га-дзіны. У гэты ж час старшыня ТПКЛ А. Колышка спрабаваў скантактавацца з прадстаўнікамі ўладаў. Аднак час працы ўжо скончыўся. Вечарам дамовіліся з старшынём гарадской рады Беларускага Народнага Фронту Станіславам Суднікам, што раніцай наступнага дня разам пойдуць да гарадскіх уладаў. Назаўтра перад 9 гадзінамі былі пры касцёле - дошкі ўжо не было. Гаварылі, што была вырвана недзе каля 6 раніцы. Нейкі час захоўвалася пры ўваходзе ў царкву, пазней была перанесена ў гарадскі краязнаўчы музей, дзе некаторы час ляжала каля музейнага хлевушка, пакуль на яе з большага не забыліся.



**Мемарыяльная дошка па Людвіку Нарбуту, выламаная са сцяны і пакладзеная ў прадсенні сабора.** *Здымак А. Колышкі.*

Візіт да гарадскіх уладаў быў бессэнсоўны. У гэтай сітуацыі былі напісаны заявы пракурору аб узбуджэнні крымінальнай справы, былі паінфармаваны Міністэрства культуры, а таксама Таварыства аховы помнікаў у Гародні. Адказ з аддзела ўнутраных спраў быў цікавы:

*"Старшыні Лідскай рады БНФ*
*Судніку С.В.,*
*г. Ліда*
*В.А. Лідскага міжрайпракурора,*
*Дарадцу юстыцыі Скакуну В.В.,*
*г. Ліда*

*Паведамляем, што па Вашай заяве праведзена праверка. Мемарыяльная дошка як помнік удзельніку паўстання Л. Норбуту ўтрымоўвае дзяржаўную сімволіку "Белы арол з каронай і Пагоня", у непашкоджаным выглядзе вернікамі знята са сцяны храма. Пра зняцце дошкі даведзена да ведама Лідскаму гарвыканкаму, які павінен прыняць рашэнне аб пераносе яе ў дазволенае законам месца.*

*Гэтая дошка была ўстаноўлена на Саборы ў 1938 г. і да пабудаванага ў 1863 г. праваслаўнага храма не мае дачынення. Згодна з арт. 7 Канстытуцыі Р.Б. у месцах набажэнстваў не дапускаецца выкарыстанне дзяржаўнай сімволікі, правядзенне сходаў і інш.*

*Згодна з рашэннем Лідскага гарвыканкаму № 38 ад 07.03.96 г. будынак перададзены ў безаплатнае карыстанне праваслаўнай рэлігійнай грамадзе Свята-Міхайлаўскай царквы.*

*Начальнік аддзела - В.Г. Макаранка"*

У чарговы раз рабілася насуперак права. У адказе на наступную заяву старшыні ТПКЛ пракурор паведаміў, што ён цалкам згаджаецца са зместам адказу Аддзела ўнутраных спраў.

Справа была скандальная, уся незалежная прэса пісала пра гэта. Гарадзенская рэгіянальная газета "Пагоня" пракаментавала здарэнне наступным чынам: *"Людвіка Нарбута спрабуюць забіць у другі раз"*. У Лідзе з'явіліся ўлёткі на беларускай мове, надрукаваныя на звычайнай друкарскай машынцы:

*"Шаноўныя жыхары. У Лідзе ўчынены чарговы*

*акт вандалізму і бяспраўя супраць нашай гісторыі, гонару і годнасці беларусаў і палякаў, усіх патрыётаў Лідчыны. Поп Аляксандр і тыя, хто сарваў з будынка планетарыя дзве памятныя дошкі ў гонар героя паўстання 1863 г, змагара за незалежнасць Беларусі, паплечніка Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання на Лідчыне Людвіка Нарбута абразілі нашыя нацыянальныя і патрыятычныя пачуцці. Шаноўныя лідзяне, праваслаўныя і каталікі, заклікаем вас пратэставаць усімі мажлівымі спосабамі супраць злачынства, учыненага ворагамі беларускасці, супраць бяспраўя і беспакаранасці злачынцаў гарадскімі ўладамі. Не слухайце тых, хто заклікае да маўчання. Ідзіце ў выканаўчы камітэт, пішыце ў газеты, звяртайцеся да пракурора пачынайце судовыя справы. Сёння яны топчуць нашую гісторыю, заўтра будуць таптаць нас".*

Узнікла некалькі ініцыятыў упарадкавання справы з нарбутаўскай дошкай. Улады разумелі, што трэба нешта рабіць. Падчас будаўніцтва Дома польскага ў Лідзе была высунута прапанова, каб памясціць дошку на сцяне гэтага будынка. Аднак, што агульнага мае новы будынак Дома польскага на вул. Кірава (даўнейшай Школьнай) з той дошкай? Толькі тое, што належыць палякам. Акрамя таго супраць такой прапановы выступілі ўсе беларускія арганізацыі, якія супрацоўнічалі з Таварыствам польскай культуры, але не надта давяралі Саюзу палякаў, магчыма безпадстаўна, і апасаліся, што калі дошка трапіць у іхнія рукі, то можа быць вывезена ў Польшчу.

У сакавіку 1997 г. у лістах да старшыні Лідскага гарвыканкаму У.М. Мальца Таварыства польскай культуры і Лідская гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэньне" ўзгонена звярнуліся з прапановамі паставіць каля касцёла піяраў помнік з размяшчэннем на ім дошкі Людвіка Нарбута, а таксама дошак : а) Валерыю Ўрублеўскаму і сям'і Далеўскіх - удзельнікаў паўстання 1863 г. на Лідчыне; б) сям'і Нарбутаў - Казіміру Нарбуту аўтару першага падручніка логікі на польскай мове, які нарадзіўся на Лідчыне і які ў 1801 годзе пасвяціў фундаменты касцёла айцоў-піяраў, а таксама Тодару Нарбуту, аўтару знакамітай гісторыі старажытнай Літвы; в) ксяндзам піярам - таму ж Казіміра Нарбуту і Станіславу Баніфацыю Юндзілу, вучню піярскай школы ў Лідзе, батаніку, арганізатару першых батанічных садоў у Шчучыне і Вільні, аўтару першага падручніка па батаніцы ВКЛ. Не атрымалі на тыя прапановы ніякага адказу.

Тым часам гісторыя з дошкай пачала патроху забывацца. У адзін з летніх вечароў да будынка музея падышла грузавая машына, дошка была загружана ў кузаў і вывезена. Ніхто яе не спахапіўся. Можна было думаць, што дошку ўкралі. На самай справе па ўзгадненні паміж Таварыствам польскай культуры і Лідскай гарадской арганізацыяй БНФ "Адраджэньне" і з вуснага дазволу супрацоўнікаў музея дошка была вывезена ў раён аднаго з касцёлаў, дзе была пакладзена да лепшых часоў.




***Кніга пра Людвіка Нарбута, выдадзеная ў Лідзе, першая ў серыі пра славутых лідзян.***

Лепшыя часы пачалі наступаць, калі ў Лідзе на месца перададзенага праваслаўным касцёла піяраў на імя Юзафа Каласантага па вуліцы Савецкай пачалося і было завершана будаўніцтва касцёла піяраў на імя таго ж Юзафа Каласантага ў мікрараёне Індустрыяльны. У 2011 годзе Таварыствам польскай культуры на Лідчыне, Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны і Лідская раённая арганізацыяй ГА БНФ "Адраджэньне" прынялі ўзгодненае рашэнне аб установоўцы дошкі пры гэтым касцёле, як спадчаемцы былога касцёла піяраў.

Калі не ўзнікне моцных перашкодаў, то дошка ў памяць Людвіка Нарбута будзе ўстаноўлена да 150-годдзя паўстання 1863 года. Папярэдне адкрыццё і асвячэнне спланаваны на пачатак 2013 года.

*[1] Такая версія падаецца ў кнізе польскага даследчыка Паўла Камароўскага "Людвік Нарбут". У беларускай гістарыяграфіі гэты момант падаецца з дакладнасцю да наадварот - маёнтак Шаўры быў канфіксаваны, разбураны і зраўняны з зямлёй. Ні пра якога сына Тодара Нарбута на рускай службе не згадваецца.*

*2. Для аб'ектыўнасці трэба сказаць, што меў месца пажар, і праваслаўным была перададзена фактычна выгаралая каробка касцёла.*

*Артыкул скампанаваны паводле матэрыялаў*
***Паўла Камароўскага,***
***Аляксандра Колышкі,***
***Часлава Малеўскага.***

# Этапы прафесійнага навучання на шклозаводзе "Нёман"

## Частка 1

Працэс гутніцтва быў вядомы славянам даўно. На тэрыторыі Беларусі ён узнік у XII - XIII стст., пра што кажуць знаходкі ў Гародні, Полацку, Наваградку і іншых населеных пунктах [8, с.21-29].

Найвялікшую вядомасць беларускаму шклу прынесла дзейнасць Урэцкай і Налібоцкай мануфактур, якія выраблялі шкляную прадукцыю каля 150 гадоў і толькі ў 1860-я гг. спынілі сваё існаванне. Яны былі самымі буйнымі і выраблялі, акрамя люстэркаў і падсвечнікаў, мноства мастацкага посуду, аздобленга гравіроўкай і шліфоўкай.

У параўнанні з раменай майстэрняй тэхнічнае абсталяванне мануфактур было больш складаным і дасканалым. Там нароўні з ручной працай выкарыстоўваліся і простыя машыны. Напрыклад, Налібоцкая мануфактура была арганізавана на высокім тэхнічным і тэхналагічным узроўні па ўзоры Дрэзданскай каралеўскай шкляной мануфактуры. Тут у 1720-40 гг. працавалі замежныя спецыялісты, досвед якіх перанялі мясцовыя гутнікі і гравёры.

Ва Урэцкой і Налібоцкай мануфактурах працавалі майстрамі і рабочымі пераважна прыгонныя сяляне. У 40-60-я гады XVIII ст. тут працавалі таксама вольнанаёмныя майстры, у тым ліку іншаземныя спецыялісты з Саксоніі, аплата працы якіх залежала ад кваліфікацыі. Радзівілы (уладальнікі мануфактур) з часам замянялі вольнанаёмных майстроў рамеснікамі з прыгонных сялян. На гуце існаваў падзел работ, спецыялізацыя майстроў і іншых працаўнікоў.

Побач з гутай размяшчаліся шліфавальны, паліравальны цэхі, "рысавальны" (гравіравальны), ганчарны, сталярны, паташны, кафляны, зборачны. Працавалі дапаможныя цэхі і кузня. З 1740 г. ліставое люстранове шкло, якое выраблялі на мануфактурах, шліфавалі пры дапамозе воднага рухавіка магутнасцю 4 конскія сілы. Якасць люстэркаў Урэцкай шкляной мануфактуры не саступала лепшым заходнееўрапейскім узорам. Люстраное шкло выраблялася шляхам выдзімання цыліндрычных балонаў, якія ў мяккім стане разразаліся і фармаваліся ў плоскасці. Пазней люстэркі пачалі адліваць на адмысловых сталах. Расплаўленую шкляную масу набіралі ў адмысловыя каўшы, пераносілі і вылівалі ў адмысловыя каркасы, затым прасавалі. Пасля зацвярдзення шкляныя лісты вымалі з каркаса металічнымі крукамі і накіроўвалі для "гарту" ў печы. Затым люстэркі шліфавалі на шліфавальных станках, якія рухаліся вадзяным колам. Спілоўвалі бакі люстэркаў пры дапамозе адмысловых гэбляў. Посуд жа вырабляўся выдзіманнем. Малюнкі і ўзоры на шкло наносіліся пры дапамозе дыямента, срэбнага напільніка, маленькага долатца і гранільнага кола. На паверхню вырабу наносіліся геральдычныя кампазіцыі, партрэты каралёў і княжых асоб, у пазнейшы час - надпісы фальклорнага характару, геаметрычны і раслінны арнамент, кветкі, сельскія і архітэктурныя пейзажы, выявы жывёл.

Урэцкую і Налібоцкую мануфактуры сапраўды можна разглядаць як нацыянальную школу шкла, бо не гледзячы на ўплыў заходнееўрапейскага мастацтва на формы і дэкоры беларускага мастацкага шкла, беларускія гутнікі творча пераасэнсоўвалі чужы досвед і стварылі шэраг самабытных формаў, якія ў XVIII ст. сталі ўжо традыцыйнымі. За доўгі час іх дзейнасці - у Рэчы Паспалітай і Расійскай Імперыі - тут з'явіліся свае прафесійныя гутнікі, мастакі-гравёры і мастакі-шліфоўшчыкі, якія прынеслі шырокую вядомасць гэтаму шклу.

Але толькі пасля адмены прыгоннага права[1] прамысловасць Беларусі, як і ўсёй Расійскай Імперыі, пачала развівацца хутчэй, чаму спрыялі наступныя прычыны:

- расслаенне вёскі стварыла значны рэзерв працоўнай сілы;
- унутраны рынак, які хутка развіваўся, прад'яўляў усё большы попыт на прамысловыя вырабы;
- будаўніцтва чыгунак стварыла новыя транспартныя магчымасці для сувязі Беларусі з усерасійскім рынкам і асобнымі крыніцамі сыравіны.

Але былі таксама і акалічнасці, якія неспрыяльна ўплывалі на развіццё шкляной прамысловасці ў Беларусі. Да такіх адносіліся:

- для забеспячэння сыравінай і палівам шклозаводаў неабходны былі параўнальна шырокія ўчасткі зямлі і лясы;
- законы 1864 і 1865 гг. стваралі перашкоды для ўжывання купецкага капіталу ў гутніцтве (абмяжоўвалі куплю зямлі мясцовай, каталіцкай і габрэйскай буржуазіяй);
- навадненне мясцовых рынкаў замежнымі вырабамі са шкла, канкурэнцыі з якімі не вытрымлівалі мясцовыя вырабы. Па законе 1857 г. адбылося празмернае зніжэнне тарыфных мыт, а паколькі за мяжой выраблялася содавае шкло, а не паташнае, як у Беларусі, якое было нашмат даражэй у вытворчасці, чым першае, то натуральна ўзнікалі адпаведныя

[1] Сялянская рэформа 1861 года адбілася на становішчы ўсіх шкляных заводаў як казённых, так і прыватных, паколькі ўсе яны карысталіся прыгоннымі, у якасці рабочых. Найболей магутныя прадпрыемствы лёгка справіліся з узніклымі цяжкасцямі, а дробныя не вытрымалі канкурэнцыі. Заводы прадпрымалі розныя меры, каб утрымаць рабочых, абяцаючы ім палёгкі.

цяжкасці;

- на сваіх шкляных мануфактурах прыгоннікі-абшарнікі не адразу пачалі ўжываць вольнанаёмную рабочую сілу, а выкарыстоўвалі малапрадукцыйную працу былых прыгонных у парадку "адпрацовак", таму аказваліся неканкурэнтаздольнымі і зачыняліся.

У 1860 - 80-я гг. шкляная прамысловасць была ўсяго толькі дапаможнай галіной для абшарнікаў і лесапрамыслоўцаў [8, с.55], таму што вядучае месца займалі галіны апрацоўчай і лёгкай прамысловасці, што было абумоўлена рознымі фактарамі: ад геаграфічнага становішча да эканамічнай палітыкі царызму. Менавіта ў гэтыя гады і ўзнікла шкляная справа ў наваколлях сучаснага горада Бярозаўкі. У 1875 г. на хутары Устронь Боркі была заснавана гута, якая належала мясцоваму абшарніку Зянону Антонавічу Ленскаму [32, с.133-134]. У 1883 г. абшарнік Ленскі падаў прашэнне ў Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне з просьбай пабудаваць у сваім маёнтку Зайчыцы гуту [5, с.6]. Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне разам з пратаколам агляду мясцовасці накіроўвае прашэнне ў Віленскае губернскае кіраванне, а яно, у сваю чаргу, адкрывае "Справу пра дазвол абшарніку Ленскаму З.А. пабудовы шклянога завода". Скончана ж "Справа" была 15 снежня 1884 г. [5, с.7]. На будаўніцтва самога завода пайшло каля паўтара гадоў [5, с.10]. Менавіта гэты завод Ленскага і лічыцца пачаткам сучаснага шклозавода "Нёман", які знаходзіцца ў горадзе Бярозоўка.

Як бачна, шкляная справа ў гэтай мясцовасці ў вышэйпаказаны перыяд уяўляла сабою ўсяго толькі дзейнасць гуты мясцовага абшарніка, у якога на 1885 г. прыбытак складаў 2000 руб. і працавала 28 чалавек [5, с.13]. З'яўленне гуты менавіта тут не выпадковае, бо ў Расіі гуты ўзнікалі і развіваліся выключна ў мясцовасцях, асабліва багатых лесам, таму што найгалоўным і асноўным матэрыялам гутніцтва было драўнянае паліва.

Сітуацыя змяняецца ў 1890-я гг. Шкляная прамысловасць пачала развівацца больш інтэнсіўна, чаму спрыялі наступныя фактары:

1. Агульны прамысловы ўздым Расійскай Імперыі;

2. Інтэнсіўнае будаўніцтва чыгунак, якія злучалі гуты Беларусі з аддаленымі рынкамі збыту і крыніцамі некаторых відаў сыравіны (сода, сульфат, вогнетрывалыя гліны), размешчанымі ў Расіі і на Ўкраіне;

3. Урбанізацыя, што павялічвала попыт на шкло;

4. Усталяванне дзяржавай віннай манаполіі - быў зацверджаны парадак продажу гарэлкі толькі ў шкляным посудзе, што стварыла вялікі попыт на бутэлькі і ператварыла дзяржаву ў сталага і плацежаздольнага замоўцу;

5. Рост хімічнай прамысловасці ў 1890-я гг. пашырыў вытворчыя магчымасці гутаў, бо з'явілася магчымасць замены шчолачаў расліннага паходжання (паташ) шчолачамі прамысловай вытворчасці (сульфат, сода);

6. Ннаяўнасць шкляных пяскоў добрай якасці, мяла і змарнаваць, палівы і таннай сілы, у тым ліку і кваліфікаваных майстроў шкляной справы, якія выраслі за працяглы перыяд існавання шкляной вытворчасці.




***Вільгельм Краеўскі. Фота 1905 г.***

У святле ўсяго вышэй сказанага Зянон Антонавіч Ленскі разумеў, што недахоп ведаў, досведу і прафесійных кадраў у вытворчасці шкляной прадукцыі, вельмі хутка прывядзе яго саматужную вытворчасць у заняпад і ў перспектыве да закрыцця, таму, як дальнабачны прадпрымальнік, прымае рашэнне здаць сваё "стварэнне" ў арэнду прафесіяналам. І такіх ён знаходзіць у асобах кампаньёнаў: двараніна, інжынера па адукацыі, - Вільгельма Альбінавіча Краеўскага, які ў 31 год ужо меў багаты досвед працы ў шкляной справе і працаваў галоўным інжынерам на Дяцькаўскай шкляной мануфактуры Мальцовых; і спадчыннага мастака па шкле з Паўночнай Чэхіі - Юліюша Аўгусцінавіча Столе, які ўжо ў 36 гадоў кіраваў сваёй мастацкай майстэрняй




***Ю.А. Столе з жонкай, 1914 г.***

там жа, на Дяцькаўскай шкляной мануфактуры Мальцовых. У 1891 годзе яны арандуюць і рэканструююць прадпрыемства, і праз некаторы час гута дае ўжо і крыштальную прадукцыю. Аднак на гэтым яны не спыніліся.

У 1894 г. В.А. Краеўскі і Ю.А. Столе заснавалі "паравы шклозавод" на арандаванай імі зямлі пані Ганны Смальян ва ўрочышча Маладзіно (па іншых крыніцах Магадзіно) Ганчарскай валасці, за 4 км ад гуты З.А. Ленскага "Старой гуты" ці "Нёман-А". 13.08.1896 г. уладальнікі даклалі Віленскаму кіраванню, што завод "уладкаваны канчаткова" і назвалі яго "Новая гута" ці "Нёман-Б". Для свайго часу гута была добра абсталявана найновымі машынамі і прыстасаваннямі, якія дазвалялі вырабляць мастацкія шкляныя і крыштальныя вырабы нават па мадэлях, чарцяжах і эскізах замоўцаў. У справаздачах завода яны зваліся "прадметы раскошы". З 1900 г. "Новая гута" звалася "Крыштальная фабрыка "Нёман-Б"". [33, с.134].



***Від з поўдня на шклозавод "Нёман". Фота 1926 г.***

У 1894 г. гарадзенскі надворны дарадца Андрэй Феліцыянавіч Квіцінскі прасіў дазволу пабудаваць гуту ва ўрочышча "Астроўня. Аформіўшы адпаведным чынам дакументы, Квіцінскі атрымлівае дазвол на будаўніцтва, і на грошы рэальных уладальнікаў будучай гуты, мясцовых купцоў-лесапрамыслоўцаў Каплінскага, Бронера і Трубовіча ў 1898 г. ва ўрочышчы Бярозаўка была пабудавана гута, усталявана паравая машына, працавала 185 рабочых. І гэты завод у 1900 г. набылі В.А. Краеўскі і Ю.А. Столе.

У 1899 годзе В.А. Краеўскі і Ю.А. Столе выкупляюць "Старую гуту" ў З.А. Ленскага. Годам раней кампаньёны падалі ў Будаўнічае аддзяленне Менскага губернскага кіравання праект на будаўніцтва ў маёнтку Ганцавічы завода па вытворчасці шкла. І ўжо ў 1899 г. гэта прадпрыемства запрацавала. А для забеспячэння завода сыравінай былі адкрыты чатыры гуты.

Да 1900 г. у Беларусі налічвалася 32 буйныя шкляныя прадпрыемствы. Па аб'ёме шкляных вырабаў і колькасці працоўных гутніцтва Беларусі стаяла на трэцім месцы ў Расіі.

З прыведзенага матэрыялу відаць, што ў апошняе дзесяцігоддзе XIX ст. на месцы сучаснага горада Бярозаўка і прылеглых наваколляў асабліва інтэнсіўна ішло будаўніцтва гут, якія з часам пераходзілі ў валоданне В.А. Краеўскага і Ю.А. Столе, а пасля смерці апошняга ў 1905 г. сталі ўласнасцю Ю.А. Столе, які, па сутнасці, з гэтага часу стаў манапалістам шкляной вытворчасці ў рэгіёне.

У канцы XIX ст. назіраецца прыкметнае перасоўванне шклозаводаў з паўднёвага ўсходу Беларусі (сучасныя Магілёўская і Гомельская вобласці) у цэнтральныя і паўночныя раёны (сучасныя Менская, Гарадзенская і Віцебская вобласці).

Самымі буйнымі гутамі, па дадзеных на 1910 г., былі "Нёман-А" (454 працоўныя), "Нёман-Б" (552). Шклозаводчыкі Беларусі ўдзельнічалі таксама ва ўсерасійскім аб'яднанні шклозаводчыкаў, якое паўстала ў 1906 г. і збіралася на штогадовыя з'езды. Задача гэтага аб'яднання шклозаводчыкаў Расіі складалася ў тым, "каб перашкодзіць той неразумнай і стратнай канкурэнцыі, якая прымушае змяншаць выгаднасць прадпрыемстваў" [33, с.74 - 77].

Да 1914 г. Нёманскі завод налічваў 1023 чалавекі. Ды і наогул "па колькасці працоўных і валавай прадукцыі шкляная прамысловасць стаяла на трэцім месцы (пасля харчовай і апрацоўчай прамысловасці)" [8, с.56].

Пра значныя прыбыткі ад вытворчасці шкла фірмы "Краеўскі і Столе" кажа і той факт, што ў 1908 г. прадпрыемствы былі злучаны вузкакалейкай з чыгуначнай станцыяй "Нёман" [9, с.121].

Як відно, напачатку XX ст. у шкляной вытворчасці дадзенага рэгіёна змяніліся суадносіны фабрычнай і саматужнай вытворчасці на карысць фабрычнай - гуты паступова становяцца заводамі; захавалася частка дробнай вытворчасці, але ішло яе паступовае ўзбуйненне; адбываецца канцэнтрацыя вытворчасці - у вышэйпаказанай мясцовасці дзейнічала па сутнасці тры заводы. У цэлым пераважалі экстэнсіўныя метады, што выявілася ў павелічэнні выкарыстання рабочай

[2] У слоўніках XIX - пачала XX стст. ёсць наступнае тлумачэнне паняцця "гута": "падстрэшак, адрына, хата, у якой ёсць печ, для якога-небудзь вырабу" [7, з.411], "шкляны завод" [7, з.405]; "плавільны завод" [29, з.479]; "будынак са шклоплавільнай печчу і камяніцамі, які служыць для падрыхтоўкі і выпрацоўкі шкла" [30, с. 937].

сілы. Таксама, што немалаважна, адбываецца манапалізацыя вытворчасці - усе шкляныя прадпрыемствы сталі належаць Ю.А. Столе.

Асобна варта распавесці пра працэс навучання на заводзе, пра ўмовы працы і жыцця працоўных, таму што з часоў Урэцкай і Налібоцкай мануфактур ужо адбыліся значныя змены ў гэтым плане, і ў той жа час, мала чым змяніліся ў наступныя гады.

Шкляная вытворчасць у другой палове XIX ст. уяўляла сабою наступную карціну. Усе будынкі - гуты[2], кузні, слясарныя і скрыневыя майстэрні, склады для сыравіны і гатовай прадукцыі - былі драўлянымі.

Тэхналогія выпрацоўкі шкла (крышталю) практычна не адрознівалася на ўсіх дзейных тады заводах Расійскай імперыі. У будынку гуты ў вялікай круглай печы са скляпеннямі ў гліняных гаршках варылася шкло. Гаршковыя печы працавалі на дрывяным паліве, якое папярэдне абязводжвалася ў адмысловых сушыльных печах. Затым сухія дровы загружаліся ў ацяпляльныя сістэмы печаў - шурнікі. Гаршкі выраблялiся ў ганчарні з вогнетрывалай гліны і мелі, як правіла, канічную форму вышынёй і дыяметрам адзін метр, завужаную да дна. Натуральная сушка гаршкоў звычайна працягвалася 5-6 месяцаў, затым яны абпальваліся ў печках.

Гаршковая печ была круглай, з драўляным кругавым варштатам для майстроў і баначнікаў. Па перыметры печы былі сіметрычна размешчаны рабочыя вокны (ляткі) па ліку гаршкоў у печы. Перад кожным лятком ляжалі чыгунныя пліты (шустаны), якія служылі для папярэдняй апрацоўкі шкла, набранага на майстравую трубку. Шкло варылася з шыхты, якая складалася з белага (кварцавага) пяску, мыльнай скваркі, паташу, саламянага попелу, гліны, драўнянага вугалю і дробнага каменнага вугалю ў вызначаных прапорцыях адзін да аднаго па ўказанні састаўшчыка. Змешванне шыхты рабілася ў драўляных карытах. Затым гатовая аднастайная шыхта змешвалася са шклабоем, засыпалася ў гаршкі і пачыналася варэнне шкла.

Тэмпература ў гаршковай печы даводзілася да 1400-1500 градусаў па Цэльсію. Шклавары металічнымі тычкамі змешвалі ў чыгунах расплаўленую шкламасу і скрабкамі здымалі з яе паверхні шумавінне. Варылі шкло 36 гадзін, а затым на працягу 10 -14 гадзін адбываўся працэс апрацоўкі шкламасы з гаршкоў. Ёмістасць кожнага гаршка дасягала да 12 пудоў[3] зваранага шкла. Затым каля 14 гадзін адбывалася новая наварка шкломасы ў гаршкі.

Важнай часткай вытворчасці было выкарыстанне працы моладзі, як "вучнёўства", так і пры выкананні дапаможных і часовых прац. Перш чым патрапіць у вучні, дзіця павінна было за драбязу прапрацаваць не меней за 8 - 9 гадоў, на працягу якіх яны выконвалі цяжкія і брудныя работы. На шкляной вытворчасці малагадовыя працоўныя выконвалі разнастайныя апе-рацыі, а тыя, хто пастарэй, працавалі вучнямі балоннікаў. Шкловыдзімальнікі - балоннікі выдзімалі са шкла, узятага на трубку з даёнкі, толькі першую бурбалку. Затым майстравы па шкляных вырабах надаваў гэтаму "балону" форму. Хлопчыкі памаладзей займаліся тым, што прымалі ад майстроў посуд і адносілі яго да абпальнай печы.




***Герман Шаль. Фота 1926 г.***

Хлопчык, паступаючы на завод, праходзіў усе стадыі навучання: "разносчык" - пераносіў гатовыя вырабы шкловыдзімальніка па клецях, замацаваных за кожным майстрам; "прыёмшчык" - прымаў вырабы ад майстра на драўляны шуфлік і аддаваў разносчыкам на складзе; "балоннік" набіраў першы набор масы і падаваў яго майстру-шкловыдзімальніку. Лепшым майстрам лічыўся "майстар першай рукі".

Такім чынам навучанне моладзі ішло без адрыву ад вытворчасці і вучань, стаўшы майстрам "першай рукі", ведаў і мог выконваць усе аперацыі тэх. працэсу ад самых дробных да вельмі адказных і тонкіх. І ў выпадку неабходнасці, мог замяніць любога працаўніка ў сваёй брыгадзе і быў запатрабаваны на любым профільным прадпрыемстве.

Ля кожнага гаршка працавалі адзін балоннік і два майстры. У гуце каля вялікай печы стаяла спапяляльная гарачыня і густа чадзіла куравой. Гутныя майстры, падмасцер'і ці, па-іншаму, балоннікі, амаль голыя, абутыя ў драўляныя калодачкі, цягалі з печавых вокнаў расплаўленае шкло і перадавалі шкловыдзімальнікам. У гуце пад столлю плаваў шызы чадны дым. Шкловыдзімальнікі жалезнымі трубкамі бралі з гаршкоў - таўстасценных пасудзін - глейкае шкло і выдзімалі агністы шар. Потым апускалі ў форму, каб ператварыць яго ў штоф, графін, куфель ці чарку. Нярэдкімі былі выпадкі, калі працоўныя каля агнядышных печаў літаральна падалі з ног ад цеплавога перагрэву. Такіх "самлеўшых" адцягвалі ў далёкі кут гуты і рупліва адлівалі халоднай вадой да прывядзення чалавека ў прытомнасць. Узімку, у самыя траскучыя маразы, у гуце, бывала, людзей адлівалі халоднай вадой, каб апрытомнелі. А як было ўлетку, у самую спякоту? Як толькі шкломаса ў гаршках выпрацоўвалася, майстры-шкловыдзімальнікі сыходзілі дахаты, а шклавары тым часам ізноў наварвалі шкло ў гаршках.

На заводзе быў заведзены такі парадак: як толькі шкло ў гаршках было наварана, па вуліцах мястэчка ішоў абходчык з доўгай палкай і стукаў па

[3] 1 пуд = 16,3804815 кг



***Дэмантаж гаршкоў. У цэнтры Герман Шаль. Фота 30-х гадоў XX ст.***



***Праца каля печы. Фота канца 30-х гадоў XX ст.***

вокнах, выклікаючы майстра - шкловыдзімальніка на працу, пры-чым гэта адбывалася ў любы час сутак. А пазней з развіццём паравой тэхнікі даваўся гудок, які быў чутны нават у навакольных вёсках і ху-тарах, дзе жылі "гутнякі".

Пасля таго, як майстар выдзьмуў выраб, яго ўпрыгожвалі "вензелямі", узорамі праз траўленне ці "алмазную нарэзку". Малюнкі, матывы ўзораў былі рознымі. Пасля нарэзкі валавы посуд паліравалі "паліроем" на ракітавых колах, а алмазны раней - на валасяных колах, а пазней - на "скарынках" з пемзавым парашком.

"Палірой" рабіўся наступным чынам: жанчыны сядзелі вакол бочкі з вадой і пяском і білі палкамі па краі бочкі гадзіны паўтары. Потым ваду злівалі. На версе пяску заставаўся цёмны пласт, які і зваўся "паліроем". Самы дробны пясок пад пластом паліроаю ішоў на завострыванне тарцоў чарак, куфляў, лям-павых шклоў. Пры паступленні посуду ў "вязальню" яе пакавалі, вязалі саломай "вянком", ці "кры-

жом". За змену працаўніца магла звязаць тысячы дзве адзінак. За 100 штук плацілі 3 капейкі.

Яшчэ горш было працаваць у састаўным аддзяленні завода. У драўляных карытах (калодках) працоўныя лапатамі змешвалі шыхту - сумесь соды, пяску, паташу і іншых кампанентаў, з якіх варылі шкло. Умовы працы тут былі неймаверна цяжкія - працоўныя затыхаліся ад задушлівага пылу. Ад такой працы рэдка хто з іх дажываў да старасці.

Працэс варэння шкла з наступным выкананнем вырабаў адбываўся спосабам, які патрабаваў ад працоўнага-гутніка вялікай фізічнай сілы, цягавітасці і спрыту. Вось як апісваюць пачатковы этап працэсу вырабу ліставога шкла:

*"Уся тэхніка - гэта двухкілаграмовая металічная трубка, якая на працягу 12-14 гадзіннага працоўнага дня амаль не выходзіла з рота і мазольных рук майстра. Каб гарачая трубка не абпальвала рукі, на палову яе насоўваўся цыліндрычны муштук - попышталь... Балоннік, выгінаючыся ад спякоты, якая пыхкае з акна гаршковой печы, браў на канец трубкі*



***Адзін з першых рабочых баракаў у Бярозаўцы. Здымак 1970-х гадоў.***



***Рабочы барак у Бярозаўцы, перавезены з Новай гуты ў 1909-10 гг. Сучасны выгляд.***



***Рабочы барак у Бярозаўцы, перавезены з Новай гуты ў 1909-10 гг. Сучасны выгляд.***

*вадкае, глейкае шкло, ураўноўваў невялікі шкляны шар - балон, злёгку астуджаў яго і перадаваў трубку з балонам майстру, які набіраў з гаршка яшчэ вадкай шкламасы і, дзьмучы ў трубку, рабіў кульку. Яна мела выгляд вялікай кроплі, полай у верхняй частцы, але з тоўстым дном. Затым, разагрэўшы ў агні гаршковай печы дзве кулькі, майстар пачынаў мыкать у канаве паміж вёрсткамі і круціць у руках трубку з залацістым, мяккім шкляным шарам, выцягваючы яго паступова цяжарам разагрэтага шклянога дна кулькі і паветрам з лёгкіх у вялікі цыліндрычны балон-халяву".* [25]

Сярод працоўных з-за цяжкіх умоў працы частымі былі такія хваробы, як сухоты, раўматызм і моцная страта зроку.

Працоўны дзень доўжыўся не больш за 12 - 13 гадзін агульнага часу з абедам у 1,5-2 гадзіны, а на некаторых заводах былі перапынкі "на чай"[4] па паўгадзіны, гэта значыць чыста працоўны час доўжыўся 10 - 10,5 гадзін, што, вядома, таксама шмат. У шкловарных цэхах, дзе тэхналагічны працэс быў бесперапынным, працавалі пазменна "спражкамі". У дапаможных цэхах і для непаўнагадовых працоўных дзень доўжыўся 8 гадзін. Адпачынкаў не было, але было шмат святочных дзён - рэлігійных свят. Распарадак дня быў адзін: і для рабочых, і для службоўцаў. Трэба заўважыць, што і гаспадар пачынаў свой працоўны дзень разам з усімі.

Рабочыя галоўным чынам жылі ў "казённых" хатах, пабудаваных заводаўладальнікамі. У сваёй большасці гэта былі невялікія, невысокія пабудовы, утрыманне якіх залежала ад саміх жыхароў. Справядлівасці дзеля трэба сказаць, што на той час рабочыя баракі зайздросна адрозніваліся ад пабудоў прыватнага характару. Усе баракі мелі пячны апал з кругавым размяшчэннем жылых памяшканняў і асобныя дапаможныя памяшканні (адрыны, скляпы, сховішчы для рознага інвентару). Гэтак жа будаваліся двухпавярховыя шматсямейные баракі з выкарыстаннем "вытанчанай" архітэктуры. Цікавае пытанне пра вытворчую і асабістую санітарыю, якая была на даволі высокім узроўні. Можна з упэўненасцю сказаць, што працоўнае месца ўтрымоўвалася ў чысціні і парадку, на колькі гэта магчыма было ў той час: бяліліся платы і жылыя хаты, абсталёўваліся грамадскія прыбіральні, віталіся заняткі садовай і агароднай культурай, не дапушчалася нагрувашчванні смецця, усюды меліся пажарныя рэзервуары з вадой. Пры адсутнасці вулічнага асвятлення, па абочынах гарадскіх вуліц размяшчаліся вялікія камяні, якія бяліліся і былі добра прыкметныя нават у поўнай цемры. За парадкам на вуліцах і тэрыторыі завода сачылі дворнікі і пажарная служба.

Падчас працы адбываліся няшчасныя выпадкі. Частымі яны былі сярод маладых ва ўзросце 19,5 гадоў. Прычым, траўмы атрымлівалі, галоўным чынам, па ўласнай няўважлівасці.

Нельга сказаць, што на заводзе не сачылі за тэхнікай бяспекі працы. За няспраўную працу штрафавалі, а таксама за прагул і парушэнне парадку (крадзёж, п'янства, бойка). Сума штрафаў не была строга вызначана, а вагалася ў залежнасці ад часу парушэння. Гэта значыць, за прагул на якое-небудзь рэлігійнае свята прызначаўся штраф меншы, у параўнанні з іншымі днямі. Велічыня штрафу залежала таксама ад спецыяльнасці парушальніка. Чорнарабочыя атрымлівалі меншыя штрафы ў параўнанні з майстрамі і шліфоўшчыкамі, за адны і тыя ж парушэнні.

Асобна варта адзначыць і той факт, што кіраўніцтва аказвала адпаведную дапамогу сваім падначаленым: за прагулы па хваробе выплачвалася кампен-

[4] Па некаторых дадзеных на ўсе 12 гадзін працы рабілі два перадыхі (сучасны перакур) па чвэрці гадзіны і адну закладу (перапынак) на гадзіну, каб даць людзям каля печаў адпачынак. У першы перадых пілі чай, каб зусім не самлець, у закладу - сямейныя людзі хадзілі дахаты абедаць, а ўлетку, у самую спякоту не абедалі зусім, толькі бралі з сабой лусту хлеба, ды што-небудзь па дробязі - яйка, агурок, рэпу і запівалі квасам.




***Мапа Бярозаўскага рэгіёну, 1929 г.***

сацыя, выдаваліся дапамогі на пахаванні дзяцей, блізкіх сваякоў, а таксама дапамогі на беднасць, пенсіі. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што дапамогі на беднасць выдаваліся са штрафных сум.

Зарплата ж адрознівалася ў высокакваліфікаванага працоўнага і дапаможнага. Тым часам разрыў у аплаце шкляроў розных груп і кваліфікацыі насіў рэзкі характар.

Натуральна, што добрыя майстры атрымлівалі больш. І калі ўлічыць, што часта на фабрыцы працавала ўся сям'я: муж, жонка, старэйшыя дзеці з 12 - 13 гадоў, то ў выніку атрымліваецца сума па тых часах не маленькая.

Варта адзначыць, што акрамя асноўнай працы, на заводзе працоўныя маглі мець дадатковы заробак: распілка дроў, выгрузка соды, пераплёт кніг для канторы фабрыкі.

Трэба яшчэ ўлічваць наяўнасць гаспадаркі ў працоўных, а таксама тое, што многае давалася гаспадаром бясплатна: хаты, зямля, гасінвентар. Хоць, натуральна, усё гэта пакрывалася ўзмацненнем эксплуатацыі на вытворчасці.

Працоўныя мелі права браць з завадскіх крам патрэбныя ім прадметы і харч. Усе дадзеныя з правіянцкай, мануфактурнай і крыштальнай крам, а таксама з кузні, лясного кіравання і кіравання чыгункі паступалі ў адмысловы журнал, пасля чаго ўсё сумавалася і адымалася з заработнай платы рабочых і службоўцаў.

Разглядаючы ўмовы жыцця рабочых, нельга абыйсці бокам ахову здароўя, бо цяжкія ўмовы працы і тагачасныя прыёмы вырабу шкла адмоўна адбіваліся на здароўі рабочых, асабліва шкловыдзімальнікаў і шклавараў. На многіх заводах працягласць жыцця гэтых катэгорый працоўных была даволі кароткай, часта людзі сыходзілі з жыцця паміж 30-ю і 40-ка гадамі. Шмат было лёгачных захворванняў. Дадзеныя пра лякарню яшчэ адрывістыя і скупыя, але і яны даюць падставу сцвярджаць, што была лякарня, радзільня, "каса помачы" (паліклініка) і аптэка.

Такім чынам, заўважым, што хоць умовы працы і былі цяжкімі, усё ж выразна бачная ўсебаковая дапамога ўладальніка сваім працоўным, што з'яўля-



***Выраб урны для сэрца Ю. Пілсудскага. У цэнтры М. Мяткоўскі. Фота 1935 г.***



***Бярозаўка ў 1935 г. Від на сучасную вуліцу Дзяржынскага.*** *Фота з асабістага архіву Л. Клюкевіча.*

ецца вельмі істотным момантам [25].

У гады Першай Сусветнай вайны многія шкляныя прадпрыемствы пацярпелі. Так, Новая Гута згарэла ў 1914 г. і пасля вайны не аднаўлялася [33, с.134]. На Бярозаўскай жа гуце ў 1914 г. Герман Шаль, галоўны інжынер завода з 1912 г., наладжвае вытворчасць ізалятараў для рускага войска. А калі ў 1915 г. фронт пачаў набліжацца, рускія войскі, адыходзячы, падпалілі завод разам са складамі гатовай прадукцыі, але Г. Шаль на падводах здолеў вывезці самае каштоўнае абсталяванне ў Ганцавічы [33, с.133], дзе быў шклозавод, які з 1899 г. належаў Ю. Столе і В. Краеўскаму [33, с.133].

У 1921 - 1939 гг. шкляная прамысловасць у рэгіёне належала фірме "Столе і сыны". У 1921 г. ажывілася дзейнасць шклозавода ў мястэчку Бярозаўка, дзе выраблялася на той час аптэкарскае шкло, шклянкі і прасаваныя цыліндры. Паступова тут аднавілася вытворчасць посуду ранніх формаў і асартыменту. З'явіўся новы шліфаваны дэкор "Нёман" і "Прага", апошні ўжо ў 1904 г. ужываўся на Барысаўскім заводзе [6, с.167].

Але ўсё ж на стыку 20 - 30-х гг. на заводзе адбыліся значныя змены ў пластычным рашэнні формаў пад уплывам ідэй школы "Баўхаўз", якая стала першым у свеце цэнтрам дызайну. Новая эстэтыка прадугледжвала адзінства функцыянальнага прызначэння і прыгажосці. Мастакі імкнуліся адрадзіць класічную тэзу антычнай эстэтыкі, якая лічыла прыгожай тую рэч, якая ідэальна адпавядала сваёй функцыі. Класічныя прапорцыі былі галоўнымі мастацка-выяўленчымі сродкамі дэкаратыўнага мастацтва ранняга функцыяналізму [6, с.168].

У 1926 г. было адзначана 35-годдзе кампаніі і лепшым працаўнікам уручаны медалі і падарункі.

Сусветны эканамічны крызіс хоць і адбіўся на вытворчасці (валавы выпуск гатовай прадукцыі зваліўся з 2 млн. 205 злотых у 1928 г. да 1 млн. 464 тыс. злотых у 1931 г.), але ўсё ж завод утрымлівае свае пазіцыі на ўнутраных і вонкавых рынках, яму належыць пятая частка ўсяго шклянога імпарту Польшчы. Са стабілізацыяй эканомікі фірма будуе ў Бярозаўцы 7-гадовую школу, дзіцячы сад, пункт апекі маці і дзіцяці, краму [26, с.13].

У 1935 г. майстрам Мечыславам Мяткоўскім выраблена вялікая светла-сіняя шліфаваная урна для сэрца Ю. Пілсудскага [26, с.13].

Можна з поўнай упэўненасцю казаць пра высокую кваліфікацыю працоўных на заводах Ю.А. Столе, бо ўвесь час ішла мадэрнізацыя вытворчасці, а таксама асартымент шкляных вырабаў быў вельмі разнастайны і складаны ў выкананні.

Сітуацыю ў навучанні добра ілюструе лёс Германа Шаля, які 6 гадоў працаваў памочнікам галоўнага інжынера, пераймаў веды і досвед у запрошаных з-за мяжы майстроў. Пасля гэтага ў 1912 г. ён быў прызначаны галоўным інжынерам завода, г.зн. праца і вучоба мела сэнс, бо вучань з часам мог стаць майстрам, чыя праца натуральна шанавалася вышэй за працу звычайных дапаможных рабочых.

***Юры Карабухін.***

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Ежы Путрамант

# ПАЎВЕКУ

## Маладосць*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### "Лінія"

На гэты раз у Мінойты адвёз мяне Выдра. Сам ён заставаўся ў Баневе. Ён не меў грошай на ўніверсітэт, спрабаваў што некалькі месяцаў ездзіць на семінары і неяк так цягнуць.

Спатканне з прыяцелямі - эйфарыя. Сход у Філамацыі. Адразу кідаецца ў вочы рост "палітызаванасці" ва ўніверы. Усе гаворыць пра Дамбінскага.

Ён знаходзіцца ў эпагеі славы. Трымае ў сваіх руках Братняк. Але Шрэдар вітае мяне іншага роду сенсацыяй: Дамбінскі знюхаўся з тымі з САТ, і маюць рабіць уласнае паэтычнае выданне.

Гэтая восень становіцца нейкім вірам, калаўроткам, каруселлю. Мае погляды на ўсе рэчы зямлі і неба цяпер якраз пацерпяць поўны і незваротны крах.

Мы трымаліся са Шрэдарам ужо цэлых гадоў пяць пэўнага роду перакананняў. Я ніколі не адчуваў спецыяльнай цягі да наўмысных шпекуляцый. Паняцці былі для мяне катэгорыяй пустой, бачыў, што яны карысныя, але мяне не цікавілі. Шрэдар - проста адваротнае. Кантакт з ім дазваляў мне карэктаваць тыя ці іншыя пераплёты майго жыцця, без абавязковай страты часу на шпекуляцыйныя заняткі.

І наадварот, я быў патрэбны Шрэдару, як матор канкрэтнай дзелавітасці. Зацягнуў яго на паланістыку з таго крэтынскага права. Я дапхаў яго да першых экзаменаў. Без мяне ён не быў бы па-просту ў стане прыняць рашэнне. Доўгі час мы жылі ў адным пакоі. Нішто лепей не жывапісуе маёй ролі ў тым статку, як штодзённая цырымонія ўставання.

Яму не хацелася. Я не мог зразумець, што гэта значыць: па-просту не хацець. Я ўставаў. Ён ляжаў. Угаворваў. Здекаваўся. Нарэшце сцягваў коўдру. Праз пэўны час выбухалі паміж намі дзікія бойкі - у каторых, зрэшты, я заўсёды прайграваў - не за што іншае, толькі за тое ўставанне. Я не разумеў, што ён можа мяне за тое глупства ўзненавідзець. А ён быў на найлепшай да тога дарозе.

Гэтай восенню яшчэ таго не адчувалася. Быў гэта, зрэшты, перыяд яго вялікай нада мной перавагі. Я перажываў паразу цэлага паняццевага комплексу, якога дагэтуль хапала мне для жыцця.

З рэлігіяй справа была простая: тут я не меў нічога супраць. Цяпер па-просту і гэтае месца пачынала шчапляцца з іншымі, якія дагэтуль знайходзіліся ў выразнай супярэчнасці з маім рэлігійным індэферэнтызмам.

Важнейшай была паэзія. Выхаваны Неснарам на вялікім рамантызме, гэта значыць даведзены ім да зненавідзення ўсіх Міцкевічаў, не знаючы "Скамандра", я пісаў свае вершыкі паводле неістотных канонаў, уласцівых таму паэтычнаму нізу, які панаваў у нас у другой палове мінулага стагоддзя. Пры тым тое добрае, што і тады здаралася, засталося для мяне цалкам незнаёмым.

Вершы Мілаша ці Загорскага былі для мяне бясспрэчна нядобрыя. Захапленне Шрэдара гаварыла мне падкарэктаваць тое маё першае ўражанне. Яшчэ не спазнаўшы новых багоў, я ўжо пачаў саромецца тых старых, якіх мне дагэтуль хапала. І меў рацыю. Кляшчынскі, хто памятае такога паэта. А быў такі, пісаў у "Кур'ер Варшаўскі". Бацька той "Кур'ер" пранумераваў. Усё ясна.

Першай рэакцыяй на Мілаша было пакіданне вершаў. Сталася гэта год таму. Цяпер Шрэдар меў нешта новае: "Лінію". Якраз выйшаў у Кракаве першы, бедны сшытачак Пшыбысявага органу. Гадавы перапынак дадаў мне бадзёрасці. Гэтай восенню я ўжо не толькі адчуваў слабасць старых багоў - ужо паверыў у сілу новых.

### "Жагары"

Адначасова - і ў цесным звязку з паэтычнай рэвалюцыяй - адбывалася ўва мне іншая мутацыя, і, прынамсі, я заўважыў першыя яе элементы.

Што ж гэта была за восень 1931 года? Што рабілася тады на зямлі. Сёння, праз амаль трыццаць гадоў, нашмат болей ведаю пра тое, чым у той час.

Ведаю, што гэта было дно сусветнага крызісу. Па свеце ішлі паведамленні пра паленне пшаніцы, пра тапенне кавы. Крызіс ужо перайшоў акіян, шалеў у Еўропе. У Германіі бадзяліся пяць ці шэсць мільёнаў беспрацоўных. Крызіс дабраўся нават да нас, да Польшчы. Ба, нават да нас, да Вільні.

Нават я асабіста яго адчуваў - хоць, канешне, значна менш за іншых. Бацька быў афіцэрам, яго грашовае ўтрыманне змяншалася раз ці два, але ў прапорцыі на шмат меншай, чым падалі заробкі

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszawa, 1962.

рабочых і сялян. Тым, хто пра крызіс чытае ў нудных падручніках і адчувае ў тых апісаннях шмат ліпы - карыстаецца адным тыповым, штодзённым элементам сапраўднага капіталістычнага крызісу з тых часоў: цэны ўпалі. Крызіс гэта быў такі звер, што людзі са сталымі заробкамі мусілі яго добра ўспамінаць. Патанела ежа: хто ж там памятаў, што з-за гэтага вёска пачала галадаць. Мы плацілі больш нізкую кватэрную плату. Здаецца, што і акадэмічная сталоўка патанела. У Вільні ўзнікла шмат новых бардэляў. У крамах з'явіліся велізарныя плакаты аб распрадажах. На кожнай пары ботаў былі дзве цаны: верхняя, чорная - перакрэсленая, ніжняя, чырвоная - напісаная вялікімі лічбамі: недзе над Віліяй перад звярынцам горад стаў менш смыродлівы; зачынілася пэўная колькасць гарбарняў.

Адначасова ішлі весткі пра пяцігодку. Былі таксама гаворкі пра калектывізацыю, але менш. Перад усім чулі пра Магнітагорск.

Шрэдар і тут быў носьбітам тых дзвюх кантрасных палітычных ліній. Не моцна ўмеючы ў нашым непасрэдным суседстве намацаць элементы крызісу адной сістэмы і элементы развіцця другой - ставіў перада мной супярэчнасці. Так сказаць, глабальныя. Паленне пшаніцы і Магнітагорск.

Я быў незвычайна змешаны. Паняцця не меў, што гэта капіталізм. Мае палітычныя сімпатыі апіраліся галоўным чынам па антыпатыях. Перш за ўсё да Пілсудскага.

Але таксама, напрыклад, і да камунізму. Ні дасведчанні - скупыя, але ўласныя - з 1919 - 20 гадоў, з Менска, ні з кароткай паездкі туды ж у 1926 годзе, ні сямейныя традыцыі не давалі мне падстаў да іншых адносін. Памятаў, што муселі хавацца. Што хаваліся, напрыклад, Макуевы. Што спяваў, вяртаючыся са Стоўбцаў. Зрэшты, столькі начытаўся пасквіляў такога Арцыбашава. Зрэшты і "Кур'ер Варшаўскі".

Мая тагачасная палітычная пазіцыя вынікае з тых двух негатываў. Цяпер Шрэдар прыносіў дзень за днём нешта новае, што біла па застарэлых, не спраўджаных паняццях. Я адчуваў сябе няясна. Уваходзіў у перыяд вялікай мутацыі. Для недасведчаных паведамлю, што гэта не так цяжка, як бы яно здавалася збоку.

Пэўнага роду сінтазам тых дзвюх галоўных мутацыйных плоскасцяў быў першы нумар "Жагараў".

Вельмі круцілі носам на тую назву. Ніхто адразу не ведаў, што гэта значыць: здаецца, гэта Доран Буйніцкі вытрас з віленскай гаворкі гэтае слова. *Жагары* ці *зажары* (характэрнае фанетычнае чаргаванне, сказаў бы праф. Атрэмбскі - гэта нешта накшталт лучыны, паленца, прызначанага для пераносу агню! Гэта значыць у сімвалічным сэнсе: тое самае, што Зніч, паходня, іскра (з якой разгарыцца полымя).

Першы нумар быў прадуктам раптоўнага, хоць і нетрывалага збліжэння двух розных элементаў віленскага ўніверсітэцкага рэнесансу.

Першы элемент - гэта паэты. Доран Буйніцкі, найсапраўднейшы віляначук, найстарэйшы з гэтай тройкі - хутчэй традыцыяналіст. Загорскі - хутчэй ляхіст. Мілаш - цалкам інакшы, выразна і праграмна на іх не падобны.

Гэтая група ўсвядоміла сабе сваю выключнасць у адносінах да ўсіх сваіх папярэднікоў па ўніверы. Цікава: кожны з той тройкі меў ужо перад тым прынамсі задатак уласнага аблічча. Усе трое - уласна ў "Жагарах" - намагаліся дапасаваць свае вершы да новай паэзіі, якая прабівалася якраз разам з "Лініяй", паэзіі супрацоўнай "Скамандру" і ўсім імажынізмам. У пазнейшых нумарах можна ўбачыць узрушальна нешараговыя спробы дапасавання да той моды і Буйніцкага, і Загорскага. Найменш іх было ў Мілаша.

Группа гэтая на працягу найбліжэйшых месяцаў пройдзе таксама вострую тэматычную эвалюцыю. "Суіснаванне" з Дамбінскім не праміне для іх без следу. І Буйніцкі, і Загорскі, і - нарэшце - Мілаш нахапаюцца праграмнай, грамадскай тэматыкі. Наймацней загучыць яна ў ... Мілаша.

У першым нумары Мілаш друкуе кароценькі верш "Айчына", знаёмы нам год назад. Знакаміты верш. Бо паміж іншымі вольны ад усякай даніны модзе і адначасова такі вельмі ўласны, мілашаўскі.

Побач з паэтамі - і над імі - у тых першых нумарах размясціліся палітыкі.

Дамбінскі ў першым нумары змясціў "Парад памерлых багоў. Гэтая яго вялікая ідэйная дэкларацыя, скіраваная супраць "дэмалібералаў", сталася сенсацыяй, актуальная даходчывасць якой была ўжо вельмі сур'ёзнай, і якая не страціла значэння па сённяшні дзень.

Гэта была атака не на фашызм, але ўласна на "дэмалібералізм". Нічога дзіўнага, было яшчэ паўтара года да прыходу Гітлера да ўлады, а дэмалібералы кіравалі найважнейшымі краінамі зямлі і якраз Гітлерчыка лагодна падпіхвалі да канцлерскага стальца.

Гэта яшчэ не было ні пракамуністычным, ні нават антысанацыйным. Былі там аднак зарады дынаміту паняццевага і пачуццёвага, выключна небяспечнага для маладзёнаў майго кшталту. Чытаў той першы нумар. Адчуваў апору. Вагаўся, быў вельмі неспакойны.

**Дзядзінец Пятра Скаргі**

Было б смешна спадзявацца, што гэтага хапіла для мутацыі. Адбылося аднак нешта новае, што нарэшце перапхнула мяне на новую планету.

Былі "Жагары" паэтычныя і палітычныя. Пшыбась і Мілаш развалілі маю наіўную сістэму вартасцяў паэтычных. Дамбінскі прамаўляў даходчывай мовай, што стары парадак свету аддадзены на закланне, што трэба неадкладна шукаць іншага.

А мы са Шрэдарам тым часам выкрочвалі ў амарантава - залаціста-белых дэклах Філаматыі. Былі ў нас хвалі новых ідэй. Але мы былі недзе на іншым свеце. Адбывалася вялікае наступленне на нашыя (і, простая рэч, на іншыя таксама) думы. Ці тая сіла, якая нас прыгарнула, не адчувала контрнаступлення?

Гэта ўласна вырашыла ўсё.

Як звыкла, на пачатку кастрычніка адбываўся ўрачысты пачатак акадэмічнага году. Год за годам эндэцыя выкарыстоўвала гэтую аказію для антыгабрэйскіх маніфестацый. Звычайна гэта былі дробныя рэчы. У той першы перыяд, калі не мыляюся справа датычылася габрэйскіх трупаў.

Справа ў тым, што габрэйская рэлігія забараняе ўсякага роду анатаміраванне трупаў. У празектарскіх (анатамічных) пакоях працавалі заўсёды на трупах, якія дастаўляліся з гарадскога моргу. Габрэйскія трупы, якія не забірала сям'я, гміна хавала за свой кошт. І вось праз колькі год эндэкі з той сярэднявечнай справы намагаліся зрабіць праблему, абы толькі раскруціць палітычную авантуру.

У той год, калі на найпрыгажэйшым дзядзінцы Пятра Скаргі сабраліся натоўпы студэнтаў перад інаўгурацыйнай лекцыяй у актавай зале, атмасфера была адразу нейкая дзіўна прыўзнятая. Мы са Шрэдарам круціліся ў сваіх дэклах паміж уваходам на кафедру і вялікім газонам, які займаў сярэдзіну дзядзінца. Студэнтаў сабралася так шмат, што цяжка было паварушыцца. Гаварылі паміж сабой, што трэба ісці, бадай што на медыцыну, што трэба пакласці канец панашэнню габрэяў, што Дамбінскі тое, што Дамбінскі гэта...

Потым выбухнуў шум. Каля вялікай, акутай жалезам брамы ўтварылася таўкатня. Бачыў, як трапяталі на ветры ўлёткі, як адразу пачалі ўзлятаць угору палкі:

Што такое? Нарэшце дабегла да нас вестка. Гэта тыя ад Дамбінскага раскідваюць улёткі.

Было іх - мяркуючы з таго, што бачылася панад галовамі натоўпу - найбольш некалькі. Было відно мора попельных батаравак, паўтыканае там і сям каляровымі дэклямі. У пары месцаў цеснатa была большая, і там якраз махалі палкамі. Здалося, мільгнуў у тым тлуме чырвоны яйкападобны (у Клубе валацугаў насіў мянушку "Яйка") твар Мілаша. Другім бітым быў, здаецца, Ендрыхоўскі.

Яны былі ад нас далёка, мы не паспелі спадобіцца нават на чыста маральную рэакцыю, калі каля нас выбухнуў такі самы гвалт. Рукі ўверсе, удары, нейкі малы, касавокі хлопец, увесь сагнуты, каб тых udaраў пазбегнуць.

Гэта быў Загорскі. Мы кінуліся разам са Шрэдарам. Трэба было яго вырваць з лап нападнікаў. Крычалі, што ён меў у руках улёткі. Мы крычалі, каб пакінулі яго ў спакоі. Я ўжо тады меў голас досыць пастаўлены. Вельмі дапамаглі нам дэклі: былі як бы сведкамі нашай добранадзейнасці. Нарэшце мы схапілі яго пад рукі і трушком пабеглі ўправа, у кірунку галоўнага ўваходу ва ўніверсітэт.

Той дробны эпізодзік меў для нас значэнне незвычайна важнае. Я пісаў ужо пра гэта дзе-нідзе. ("Як я стаў пісарам" у паэтычным томе "Тры павароты").

**Таварыш з жывоцікам**

Ці гэта было ў той самы дзень? Ці мы адпусцілі Загорскага "на свабоду", а самі чым хутчэй вярнуліся на зборышча. Ці гэта было на пару дзён пазней? Не памятаю.

А між тым некалькі момантаў з таго дня памятаю як сёння, не забуду да смерці.

Мы на тым самым дзядзінцы Пятра Скаргі. Нас шмат, і крычым, што трэба ісці на хімічны факультэт.

Вывальваемся праз вялікую браму. Хімічны факультэт недзе далёка, бадай, на Пагулянцы. Ідзём натоўпам па тратуарах. Людзі ўступаюць нам дарогу. Габрэі хаваюцца. Уздымаемся па Малой Пагулянцы пад гору.

Гмах хімічнага факультэта. Там на дзядзінцы Скаргі нам крычалі, што тут габрэі б'юць нашых. Але гмах хімічнага факультэта спакойны і амаль пусты. Двухпавярховы, нудны. З вялікімі вокнамі.

Адпіхваем вахцёра, уваходзім на калідор. Не ведаем, што рабіць.

Ніякіх слядоў бойкі. Вахцёр нас запэўнівае, што наогул нікога няма, а тым часам некалькі чалавек крычаць, што габрэі на другім паверсе, у майстэрнях. Зрываюцца, бягуць па лесвіцы. Мы, астатнія, тырчым унізе, не ведаем, што рабіць.

Раптам на версе крык. Знайшлі першага габрэя. Куча студэнтаў кідаецца да лесвіцы. На яе версе паказваецца дробная, малая фігурка, разхрыстаная, бездапаможная. Нехта яе піхае ўніз. Фігурка ляціць на галаву, на шыю.

Каля мяне стаіць таварыш... Як жа ён называўся? Мнейша. Ведаю яго вельмі добра. Гэта медык, карпарант, з Леаніданіі: моцны, невысокі, з жывоцікам і з бародкай. Мы бывалі разам на суботках. Заўсёды такі ветлівы, такі добра выхаваны, не тое, што я.

І раптам той калега хапае зляцеўшага габрэя за карк і б'е, б'е і пускае так, што габрэй вылятае як з прашчы да тых далейшых, што стаяць пры дзвярах.

На секунду дыханне мне займае. Калі б меў з мікраскопам шукаць секунду, якая вызначыла маё жыццё - то мусіць бы была гэтая.

Потым я з крыкам кідаюся на таварыша з жывоцікам. Вырываю ў яго з рук наступнага, скінутага з лесвіцы. Нешта яму крычу, нешта тлумачу, што так нельга, што гэта ніжэй уласнай ідэалогіі. Глядзіць на мяне нават без гневу, толькі з велізарным здзіўленнем. Не скажу, нават на хвілю пакідае ў спакоі сваю ахвяру.

Але тым часам каля ўваходу гвалт: габрэі напалі. І тым разам гэта праўда. Студэнты крычаць, што гэта з ваколіц сабраліся габрэйскія мяснікі, што прыйшлі сваім на выручку. Уваходныя дзверы расчыняюцца. Унутр ляцяць каменні. Студэнцкі натоўп рэагуе тыпова: першы рэфлекс - гэта паніка.

Каля дзвярэй аднак знаходзіцца пару абаронцаў. Аднаго з іх ведаю - гэта Пячора. Малодшы за мяне, хіба на два гады, здаравяк, вышэйшы на добрую галаву. Дасканалы бас.

Падымае рукі, засланяе твар ад каменяў і намагаецца зачыніць дзверы. Нічога з таго не выходзіць. Тады хапае доўгую лаўку, нясе яе і кідае проста ў нападнікаў, якія ўжо круцяцца каля ўваходу. Уцякаюць.

Дзверы замкнёныя. І адразу каля Пячоры натоўп паплечнікаў.

А яшчэ хвіля, і з'явілася паліцыя. Мяснікі перад дзвярыма адагнаны. Выходзім назад на вуліцу.

Я іду з нейкім абсалютным памяшаннем пачуццяў. І радасць за перамогу (канешне Пячоры, але ахвотна да яе далучаюся), і сорам за тога з жывоцікам. А ў суме нешта вельмі нялюдска дурное.

Ідзём нейкай вуліцай, амаль не забудаванай. Па абодва бакі яе высокія парканы. Ідзём свабодна, малымі групкамі, наеўшыся "славы" і ўжо здэмабілізаваныя.

Раптам крыкі. Падымаю галаву. З-за паркана на супрацьлеглым баку вуліцы ляцяць вялікія камяні. Ляцяць вольна, бачу іх дасканала.

І вось падае нейкі студэнт. Замяшанне. Да яго кідаецца пару таварышаў, затрымліваюць парожнія дрожкі, пакуюць яго туды, ад'язджаюць, знікаюць...

Я нават не ведаю, што з'яўляюся сведкам здарэння, якое станецца маторам вялікай гадавой палітычнай акцыі, што спіхне мой народ у багну фашызму.

Студэнт той называўся Вацлаўскі. Траплянне булыжніка аказалася смяртэльнае. З тога часу ва ўсіх ВНУ што год эндэцыя рабіла акцыі ў яго памяць, выстаўляючы што раз больш яскравыя антысеміцкія патрабаванні, аж да ўвядзення лавачнага "гета", што ёй, да нашай ганьбы ўдалося дасягнуць.

**Не ганаровая пашана**

Тыя некалькі дзён універсітэт пражыў як у гарачцы. Вечарам разышлася вестка пра смерць Вацлаўскага. "Упрыгожылі" яе шэрагам дэталяў яскрава хлуслівых, якія мелі па мэце пад'ём забурэння. На лекцыях, якія намагаліся распачаць, адбываліся дэманстрацыі, бойкі, скандалы. Тыя хто спрабаваў ім супрацьстаяць былі паралізаваны якраз Вацлаўскім.

Здаецца, што нумар быў падрыхтаваны ўжо зверху. Галоўным аб'ектам атакі былі нават не габрэі, а Дамбінскі. Разлік яго ворагаў быў просты: як выбухнуць непарадкі - ён не зможа ў іх не ўмяшацца. А ўмяшацца будзе мусіць толькі адным спосабам: стаць на абарону габрэяў. І тады яго прыкончым.

Здаецца, што Дамбінскі пра нешта такое здагадваўся. Доказ - тыя ўлёткі, за якія пабілі некалькіх яго паслядоўнікаў. Мы іх пазней чыталі. Была ў іх мова пра падрыхтоўку антыгабрэйскіх беспарадкаў. Былі надрукаваны і раскіданы, пакуль яшчэ не дайшло да хоць якога нумару.

Забурэнне нарастала з дня на дзень. Увесь новы курс, які яшчэ не лізнуў лекцый, рэфлексна станавіўся на бок эндэцыі - на тое яна ўласна і разлічвала. Ні адзін з паплечнікаў Дамбінскага не адважваўся ў той час нават рот адкрыць.

Мітынгавалі дзень і ноч. Намагаліся стварыць нейкі кіраўнічы орган з саміх студэнтаў. Памятаю таксама нейкі сход. Было цёмна. Адбываўся ён недзе на ўчастку бадай што жаночай бурсы. Уласна выбіралі такі "рррэвалюцыйны" ўрад. Ніхто нікога не бачыў. У цемнаце назвалі прозвішчы. Каля мяне стаяў старэйшы М., мой сусед з Дакудава, той ад скачкоў з тычкай. І раптам крычыць:

- Путрамант!

Хвіліна цішыні. Нікому нічога тое прозвішча не гаворыць. Як, зрэшты, і іншыя. А потым нечае сумленне

-А гэта не габрэй.

І вось так выбралі і мяне, і тым разам рэч гэтую перажываў двояка. Не скажу, пашана, першае вылучэнне - гэта не было прыкра. Але адначасова было ў тым усім нешта ўдушлівае, цёмнае, заблытанае. Мабыць будзе найбольшай праўдай напісаць, што адчуваў у глыбіні душы нетрываласць, лепей, нязначнасць гэтага ўсяго, выпадковасць і непрыдатнасць для мяне.

Скліканы на гэтым сходзе орган аказаўся мёртванароджаным. Я не быў на ніводным яго сходзе. Рэктар якраз адмяніў заняткі. Мне паведамілі, што інаўгурацыя органа адбудзецца таго і таго дня.

І замест таго, каб быць, я ні з таго, ні з сяго схапіў чамадан і з'явіўся ў Баневе.

Схлусіў бы, каб сказаў, што ехаў ужо з рашэннем парваць з эндэцыяй. Калі былі ўжо ўсе дадзеныя для таго павароту, то толькі ў падсвядомасці. Пасля прыезду распавядаў пра віленскія здарэнні з пафасам і зацятасцю, робячы галоўны націск на антысанацыйны характар маіх асабістых дзеянняў.

Але маці прымала ўсё гэта без энтузіязму. Спрабаваў ёй тлумачыць выратавальнасць і непазбежнасць барацьбы з габрэямі. З аднаго боку аднак від таварыша з жывоцікам адбіраў у маіх аповесцяў натхненне, з другога не адчуваў у ім апоры, таму нават аповесці аб змаганні як роўныя з роўнымі пры тых дзвярах, дзе Пячора... - гучалі плоска без рэха.

Слухалі гэта ўсе трое: бацька, маці і Янак-Выдра. Маці глядзела на гэта яшчэ вачыма 1905 года, кішынёўскага пагрому, справы Бэйліса. Ніякім чынам у антысеметызме не магла разгледзець прагрэс. Бацька таксама не паддаўся нават на антысанацыйнасць. Выдра, уцягнуты мной з Леанам у Філамацыю, але ў ёй не бываўшы і цалкам пасіўны - цяпер таксама не праяўляў ніякіх схільнасцяў да ўхвалы.

Дзіўны быў гэты побыт у Баневе. Цішыня, спакой, глыбокая восень, сівыя зараснікі ў лесе, напоўненыя вадой як губкі...

Паехалі ў Дакудава. Хаты чорныя, як вугаль - бо касы, халодны дождж. У Янкалевічаў, канешне, бо да іх павярнулі перш за ўсё. Слухаюць мяне з нармальным, г.зн. часта з падробным зацікаўленнем. А я нават не вельмі маю, што расказаць. Пра тога таварыша з жывоцікам. Ці нават пра Пячору. Ці, што мяне выбралі.

Гаварым толькі пра дакудаўскія навіны. Доўга ходзім кругамі, стараючыся пазбегнуць усялякіх пытанняў, якія змусілі б нас сказаць сабе праўду, ці пайсці.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску у выдавецтве “Татарнікава С. Ю.” выйшла кніга Алеся Краўцэвіча “Гедымін (1316 - 1341). Каралеўства Літвы і Русі = Hiedymin. (1316 - 1341). Kingdom of Lithuania and Rutenia: нарыс”, на беларускай і ангельскай мовах, 152 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**



**У Менску ў выдавецтве “Элайда”, выйшла кніга В.В. Навасельскага “История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии. Великий князь Гедимин (1316 - 1341)”, 216 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “І.П. Логвінаў”, выйшаў альманах лакальнай гісторыі “Верхняе Панямонне”, 2012, 1. 154 ст. Наклад 299 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Адукацыя і выхаванне”, выйшла кніга С.В. Барыса “Адзінкі вымярэнняў. Даўнія і сучасныя”, 240 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Рызе Інстытут беларускай гісторыі і культуры выдаў зборнік “Вялікі беларус Леў Сапега”, укладальнік А. Тарас. 272 ст. Наклад 150 асобнікаў.**




**У Менску выйшла кніга Леаніда Лыча “Яўрэйская культура Беларусі - яе агульны духоўны набытак”, 122 ст. Наклад 100 асобнікаў.**



**Гармонія веры. Дзітрыкі. Лідскі раён.**

*Здымак Станіслава Судніка.*